Выйшлі з друку два абсалютна новыя для Беларусі часопісы. Адзін называецца «Дуду», а другі — «Асцярожна: дзеці!». Купіце сваім малым два: яны самі разбяруцца, каторы ім цікавейшы. Часопісы прадаюцца ва ўсіх шапіках, кнігарнях, а таксама гіпермаркетах.

«Асцярожна: дзеці!». Тут галоўныя героі — Цім, Мара, сабака Газ, кот Тормаз і Занадта Разумны Смартфон — разблытваюць розныя дэтэктыўныя гісторыі. І заадно разам з чытачамі спазнаюць свет. У часопісе — і карысная інфармацыя, і захапляльныя прыгоды, і заданні, якія трэба выканаць, і конкурсы, у якіх можна перамагчы, і QR-коды, па якіх можна будзе выйсці на старонкі ў інтэрнэце з цікавай інфармацыяй. У кожным выпуску Цім, Мара, Газ і Тормаз будуць шукаць скарбы, апынуцца ў надзвычайных сітуацыях і пры гэтым будуць карыстацца самымі сучаснымі тэхналогіямі. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.

**Падпісны індэкс**
**«Асцярожна: дзеці!» — 75080**
(ведамасны 750802)




# Найлепшы падарунак дзецям «Дуду» і «Асцярожна: дзеці!»




Часопіс «Дуду» разлічаны на дзяцей да сямі гадоў, але чытаць яго могуць дзеці ад 1 да 101 года. Казкі, вершы і нават музыка ды песні (іх можна прайграць па QR-кодах), інтэрактыўныя гульні, коміксы, конкурсы, дзівосы, сюрпрызы — усё гэта будзе ў кожным нумары часопіса. А таксама заданні на развіццё логікі, увагі і памяці, дробнай маторыкі, для папаўнення слоўнікавага запасу і падрыхтоўкі да школы. Яшчэ мы будзем дапамагаць дзецям вучыцца чытаць, пісаць і лічыць. Нумары часопіса будуць тэматычнымі. Тэмы нумароў: каты і іх жыццё, метро і іншы транспарт, булачкі і цукеркі, зоркі і касмічныя караблі, сонца і хмары, любімыя святы, небяспечныя драпежнікі і пеўчыя птушкі і іншае… Героі часопіса — хлопчык Зор, дзяўчынка Лёля і падушка Дуду — стануць надзейнымі сябрамі чытачоў. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.

**Падпісны індэкс «Дуду» — 75081** (ведамасны 750812)

**Наша Гісторыя**
3/2021
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Валянціна Андрэева

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

Мікола Ермаловіч з дачкой Аленай, 1965 год.
Фота захоўваецца ў БДАМЛІМ..

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 17.03.2021.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0074/21.
Наклад 5070.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916.
ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

## Ад рэдакцыі

*Сцюжны час, бязмежна-суровы.*
*Спіць народ, нібы зерне ў раллі.*
*Ты прыйшоў*
*І гарачым словам*
*Рунь узняў на роднай зямлі.*
*Ты сказаў нам:*
*«Унукі Скарыны,*
*Дзе ваш гонар, моц і краса?*
*Ёсць і ў вас, як у іншых, святыня.*
*Не давайце святыні псам!»*

Гэтыя напісаныя ў 1966 годзе радкі Уладзімір Караткевіч прысвяціў паэту Максіму Багдановічу. Але з поўным правам іх можна было б застасаваць і да сучасніка Караткевіча, да трыумфу якога ён не дажыў, — гісторыка Міколы Ермаловіча. Які пераадольваў усё, у тым ліку слабое ўласнае здароўе, насуперак усяму і ўсім даказваючы, што беларусы — народ з не менш старажытнай, багатай і слаўнай гісторыяй, чым ягоныя суседзі.

Пісаныя «ў стол» без шанцаў на публікацыю творы Ермаловіча стрэлілі яшчэ пры жыцці аўтара. У 1980-х кнігі «Па слядах аднаго міфа» і «Старажытная Беларусь» з'явіліся ў патрэбны час і ў патрэбным месцы. Нямала людзей з гэтых кніг упершыню даведаліся, што беларусы маюць усе правы на тое, каб лічыць гістарычную спадчыну Вялікага Княства Літоўскага сваёй уласнай. І засвоілі гэты ўрок на ўсё жыццё.

Праўда, чыста навуковы складнік канцэпцыі Міколы Ермаловіча ў цэлым не вытрымаў выпрабавання часам: разбураючы адныя міфы, ён на іх месцы нярэдка ствараў новыя. Але ягонае жыццё і дзейнасць — яскравы прыклад надзвычайнай жыццяздольнасці беларускай ідэі, яе ўмення мацнець ва ўмовах рэпрэсій. А таксама сведчанне таго, што не варта ніколі адчайвацца, а трэба працягваць рабіць сваё — капаць, капаць і капаць.

Пра неардынарнага беларуса, з дня нараджэння якога 29 красавіка спаўняецца 100 гадоў, у гэтым нумары «Нашай гісторыі» (**старонкі 4–16**) піша Андрэй Скурко.


4


90


17


58




74


32


24


57


ЛЕПШЫ СЯБР ЖЫВАТА
ВІНО СЭН-РАФАЭЛЬ
Праудзівае толькі з гэтым кляймом
41






83









**Калі ты маеш зрок мінус дваццаць сем дыёптрыяў, то многія банальныя бытавыя справы нясуць для цябе вялікія рызыкі. Чытаць можаш у акулярах з лупай адным вокам з адлегласці тры-пяць сантыметраў. Знаёмых пазнаеш па сілуэце і па голасе. А гэты чалавек, гадуючы дваіх дзяцей, штодзень навобмацак ішоў на электрычку і ехаў з Маладзечна ў Мінск, каб працаваць у бібліятэках і архівах. Дарога ў кожны бок займала больш за дзве гадзіны. І ўсё таму, што ён хацеў развянчаць каланіяльныя міфы пра свой народ, піша Андрэй Скурко.**

Гэта быў чалавек тыпу Стывена Хокінга, якога рэальная перспектыва рана памерці змусіла зразумець, наколькі ж жыццё вартае таго, каб яго пражыць.

«Калі ён ішоў па вуліцах Маладзечна, ён нагадваў птушку, якая ляціць. Крыху прыгнутыя плечы, галава, якая як бы апярэджвае цела, размашысты і ўпэўнены крок, узмах партфеля ў такт хады... Было штосьці птушынае і ў паставе, калі ён слухаў суразмоўцу, пахіліўшы галаву набок, перш чым — узмахнуўшы рукамі — выгукнуць: “А вы ве-едаеце!...”» — успамінаў маладзечанец Міхась Казлоўскі.

Такім запомнілі Міколу Ермаловіча. Чалавек-птушка — добры вобраз для помніка яму.

Ермаловіч проста штодзённа рабіў тое, што лічыў важным. З пункту гледжання нашчадкаў, тым самым гэты інвалід са зрокам у мінус дваццаць сем дыёптрыяў здзейсніў навуковы подзвіг.

## Сын конюха

«Я ўпершыню ўбачыў інтэлігентнага чалавека ў акулярах, які размаўляў па-беларуску», — такім Ермаловіча запомніў у канцы 1940-х Антон Гедройць, вучань Пяршайскай школы Валожынскага раёна. Антось, аўтар надрукаванага ў абласной газеце верша, у той дзень адмахаў 30 кіламетраў пешшу пад дажджом да Маладзечна, запрошаны на літаб’яднанне.

Тады яшчэ існавала Маладзечанская вобласць: у адміністрацыйную адзінку з такой назвай была аб’яднаная ў БССР абезгалоўленая частка Віленшчыны. А непрыхаванае здзіўленне вучня ад таго, што чалавек з адукацыяй размаўляе не па-руску, адбівае стан з нацыянальнымі правамі беларусаў: не толькі начальнікамі, але і настаўнікамі ў Заходнюю Беларусь тады адпраўлялі людзей з усходу, часта — далёкага. І хлопчык толькі з такімі сутыкаўся.

Ермаловіч таксама быў «усходнікам», але блізкім, з пагранічнай Койданаўшчыны. Пасля вайны ён выкладаў беларускую літаратуру ў Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце, таму і вёў літаб’яднанне пры абласной газеце «Сталинский путь».
Ён, каго называлі пасля «некаранаваным акадэмікам», да канца жыцця не меў акадэмічнай гістарычнай адукацыі. Дый паступіць на літаратурна-лінгвістычны факультэт Мінскага педінстытута яму ўдалося цудам.

**Рэальная перспектыва рана памерці змусіла зразумець, што жыццё вартае таго, каб яго пражыць**

Ягонага бацьку Івана, калгаснага конюха, у 1937 годзе арыштавалі ці то за «шкодніцтва», ці то за «шпіянаж» — хто тады што тлумачыў сялянам? — і расстралялі. Ермаловіч меркаваў, што прычынай быў ▶



**Мікола Ермаловіч з бацькам Іванам Іванавічам** (справа) і дзядзькам. 1920-я гады.

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА




**Тут стаяла бацькоўская хата Ермаловічаў**. Цяпер зямлю, на якой яна стаяла, выкупіў новы забудоўнік. Ці паставіць ён каля свайго дома знак, хто тут жыў раней?

сваяк за мяжой: дзядзька Кастусь, бацькаў брат-настаўнік, у 1920-я застаўся на тэрыторыі, якая па Рыжскай дамове адышла да Польшчы.

Самога Міколу прыкладна ў той самы час выгналі са школы ў выпускным класе. Ідучы шэсць кіламетраў дахаты, з Койданава, за некалькі гадоў да таго перайменаванага ў Дзяржынск, у свае Малыя Навасёлкі, ён чытаў «Ліст вялікаму Сталіну ад беларускага народа», зачапіўся і ўпаў з кніжкай у гразь. Данеслі на Міколу хлопцы, якія ішлі з ім, а дырэктар мусіў «рэагаваць», інакш данеслі б на самога.




**Маленькі Мікола Ермаловіч на руках у мамы.** Злева стаіць сястра Марыя, у верхнім шэрагу злева — бацька. 1922 год, год стварэння СССР.

Выключэнне са школы закрывала перад чалавекам жыццёвыя перспектывы: калгаснікі не мелі пашпартоў і былі фактычна прыгоннымі, прывязанымі да зямлі. Але

## Малыя Навасёлкі

Да калектывізацыі Ермаловічы сядзелі на колішняй зямлі паноў Кастравіцкіх — таго самага роду, з якога выйшлі дзеяч-нашанівец Карусь Каганец і французскі паэт Гіём Апалінэр. Маёнтак Малыя Навасёлкі належаў бацьку Каруся Каганца, Каралю Кастравіцкаму. За ўдзел у паўстанні 1863-га яго з сям'ёй выслалі ў Табольск, а маёмасць рэквізавалі. Дзяржава падарыла Малыя Навасёлкі аднаму з душыцеляў паўстання, капітану Шуставу. У яго нашчадкаў дзед Міколы Ермаловіча Іван і купіў хутар.

Бацьку, таксама Івану, дасталіся тры гектары. З іх і карміласа сям'я з шасці чалавек — у Міколы былі яшчэ старэйшая сястра і два меншыя браты.

Цяпер Малыя Навасёлкі — гэта вёска за 6 кіламетраў ад Дзяржынска. У 1999 годзе тут жыло 158 чалавек, цяпер — сотня.

## Асleплены сонцам

У сям'і лічылася, што зрок у Міколкі пачаў псавацца пасля таго, як немаўлём маці ўзяла яго на поле ў жніво. Жнучы жыта, паклала малога выпадкова на сонца, і ён перагрэўся, прамяні некалькі гадзін білі яму ў вочы.

Медыцына кажа, што блізарукасць часта перадаецца спадчынна, але таксама можа выклікацца рознымі хваробамі, траўмамі, перагрузкай вачэй.

выдатнік Ермаловіч з дапамогай знаёмага мінскага настаўніка здаў экзамены на школьны атэстат экстэрнам, паступіў на падрыхтоўчае аддзяленне, а потым і на літфак.

Вайна заспела яго ў нядаўна далучаным да БССР заходнебеларускім Шаркаўшчынскім раёне, куды ён паехаў на лета працаваць загадчыкам педкабінета. На фронт Міколу не ўзялі з-за слабага зроку.

Ермаловічу прапанавалі эвакуіравацца ў Мардовію. Першыя ваенныя гады ён адпрацаваў у школе пасёлка Лабаскі выкладчыкам рускай літаратуры. Успамінаў, як выпісаў сабе туды «Савецкую Беларусь», якую ў яго бралі чытаць іншыя педагогі — мардоўцы і рускія. Цікава, што ў пачатку вайны настаўнічаў у Мардовіі і ягоны будучы галоўны апанент, гісторык Лаўрэн Абэцэдарскі.

### Тры браты

Калі ў 1943-м вызвалілі ад немцаў першыя ўсходнія раёны Беларусі, Ермаловіча выклікалі дадому. Дарогай у цягніку яго абрабавалі зладзеі. Але, перакапаўшы дарожную скрынку і не знайшоўшы нічога, апроч кніг і папер, ад злосці раскідалі іх па вагоне.

Падчас перасадкі ў Маскве здарылася прыгода, якая ледзь не каштавала Ермаловічу жыцця: пабег па кіпень і, вяртаючыся, вырашыў скараціць шлях і палез між вагонаў. Цягнік крануўся — і яго заціснула. Ермаловіч успамінаў пасля, як нема закрычаў і страціў прытомнасць. Яго ўратавала жанчына-масквічка — пабачыла і дапамагла выцягнуць. Ад перажытага шоку зрок стаў імкліва падаць — у Суражскім раёне, куды Ермаловіча накіравалі інспектарам райана, ён раз прайшоў у вёску па замініраванай дарозе, нічога не заўважыўшы.

Лячыць зрок, калі яшчэ была надзея, у пасляваеннай Беларусі не было як, дый гэта адыходзіла на другі план у паваеннай нішчымніцы. У Суражскім раёне, дзе доўгі час стаяў фронт, у 1943-м заставаліся толькі дзве няспаленыя вёскі. Чаргу па хлеб у Маладзечне канца 1940-х трэба было займаць ад 5 гадзіны раніцы.

З Суража Ермаловіч у 1944-м пераведзены ў Дзяржынск — завучам у тую самую школу, з якой яго некалі выключылі. Працуючы там, ён нават родным братам ставіў тройкі па гісторыі.

Са звычайнай сялянскай сям'і Ермаловічаў выйшлі, дарэчы, тры беларускія інтэлігенты.

Адзін Міколаў брат, Лявон, прайшоўшы вайну ў падполлі, а пасля ў партызанах, стаў настаўнікам і апантаным краязнаўцам на радзіме, у Малых Навасёлках. ▶

### Закаханы ў літаратуру

Ермаловіч выдатна ведаў рускую літаратуру XIX стагоддзя: Дастаеўскага, Талстога, Пушкіна. Але найбольш шанаваў Салтыкова-Шчадрына, якога мог цытаваць з любой нагоды. У беларускую ж літаратуру быў «закаханы па-юнацку, горача і аддана», успаміналі калегі. Захапляўся апавяданнямі Брыля, радаваўся літаратурным удачам, сачыў за Караткевічам.



ФОТА АНДРЭЯ СКУРКО

**Характэрныя для Навасёлак і ўсёй гістарычнай Койданаўшчыны ліштвы на вокнах.** (Слова «ліштва» (рус. наличник), як і ўся будаўнічая тэрміналогія, было запазычанае беларусамі з нямецкай мовы, адкуль у Беларусь у Сярэднявеччы прыходзілі тэхналогіі, нормы і звычаі.)

ФОТА АНДРЭЯ СКУРКО

**Дом Лявона Ермаловіча, Міколавага брата**, які настаўнічаў на радзіме. Цяпер гэты дагледжаны будынак падзелены на дзве паловы.

Другі, Валянцін, таксама ваяваў, чатыры разы быў паранены, насіў дзевяць асколкаў у целе. Ён доўгія гады кіраваў знакамітым народным тэатрам уКраснаполлі на Магілёўшчыне.

Ягоная дачка жыве ў Беразіне і доўгі час была актывісткаю сацыял-дэмакратычнага руху.

Адкуль у сям'і быў такі моцны нацыянальны стрыжань? Справа ў сямейных традыцыях, а таксама ў беларусізацыі, самы канец якой Мікола заспеў у школе. А малодшыя браты цягнуліся за старэйшым. «Я ж пачынаў вучыцца па нармальных падручніках, — расказваў Ермаловіч. — У 3 класе прыйшоў з канікулаў — адкрывай сумку, выкідай граматыку Лёсіка, чытанку Некрашэвіча, гэта ўсё нацдэмаўскае». Гэта быў 1930-ы, калі беларусізацыя згортвалася, а яе актыўных удзельнікаў саджалі ў турмы.

## Спакойна і дыпламатычна

Пасля вайны Ермаловіч скончыў інстытут (аднавіцца дапамог цудам захаваны студэнцкі білет), атрымаў накіраванне ў аспірантуру. Ён збіраўся даследаваць развіццё беларускай літаратурнай мовы ў XIX стагоддзі, але яму прапанавалі для навуковай працы тэму «Вобраз Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна ў беларускай літаратуры і фальклоры». Ермаловіч дыпламатычна адказаў, што ўзняць яе не здолее, і кінуў аспірантуру. У Маладзечне знайшлося вакантнае месца выкладчыка — вось і паехаў туды.

У настаўніцкім інстытуце, дзе Сталіна зубрылі на памяць, ён таксама не выступаў адкрыта супраць улады. «Бачыў, што не наступіў яшчэ час. Спакойна

ФОТА АНДРЭЯ СКУРКО




**Магіла Леаніда Ермаловіча патанае ў кветках.**

і дыпламатычна падтрымліваў усё роднае, беларускае», — успаміналі вучні.

Больш за тое, першая яго апублікаваная кніга звалася «Дарагое беларусам імя» і выйшла да 100-годдзя Леніна ў 1970-м. На той час «у стале» ў Ермаловіча ўжо ляжаў гатовы рукапіс падрыўной гістарычнай працы пра Вялікае Княства.

Лёнініяна ў СССР была свайго роду «пропускам» і «індульгенцыяй» для навукоўца.

«Нам, беларусам, не трэба нарывацца на ражон і трапляць у турмы, — казаў ён гісторыку Міхасю Казлоўскаму. — Нас няшмат, нам трэба шырыць кола сяброў і аднадумцаў, працаваць, хай сабе павольна, але няўхільна».

## «Нам, беларусам, не трэба нарывацца на ражон»

Перад вачыма ў Ермаловіча і яго пакалення быў прыклад «задушанага адраджэння» ва Украіне, дзе ў 1960–1980-я нацыянальную інтэлігенцыю дзясяткамі саджалі ў лагеры і псіхіятрычныя лякарні за «антысавецкую агітацыю». (Самы таленавіты ўкраінскі паэт таго пакалення Васіль Стус памёр падчас галадоўкі ў карцары ўжо пры Гарбачове.)

**У лістах да Ларысы Геніюш**

Ермаловіч дзяліўся планамі скласці Беларускі пантэон — «ад Рагвалода да Веры Харужай».



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

**Выступае Мікола Ермаловіч.** 1960-я гады.

І сапраўды, як пад носам у спрута, які аплятаў сваімі шчупальцамі грамадства, можна было за адзін толькі 1976 год выдаць 50 выпускаў самвыдатаўскіх лістовак «Гутарак» — і не папасціся? Напэўна, чалавек-інвалід усё правільна і асцярожна рабіў.

### Уплыў слепаты

З-за слепаты Ермаловіч з дзяцінства жыў як бы асобна ад іншых людзей. У школе не бачыў, што настаўнік піша на дошцы, і дома па падручніках разбіраўся сам. «У гэтым, мусіць, і нешта карыснае было», — адзначаў ён.

Перад вайной меў зрок мінус сямнаццаць дыёптрыяў, пад канец жыцця — мінус дваццаць сем.

Чытаць мог у акулярах з лупай адным вокам з адлегласці ў трыпяць сантыметраў. Знаёмых пазнаваў па сілуэце і па голасе.

Пры гэтым у побыце Ермаловіч не быў бездапаможны. Ён быў вельмі прагрэсіўны ў плане новай тэхнікі. Газавая пліта, тэлевізар «Беларусь-4», пральная машына, фотаапарат, тэлефон — усё гэта з'явілася ў яго сям'і раней, чым у суседзяў. Усё таму, што Ермаловічы былі ашчаднымі, не пілі і не курылі.

Ён быў лёгкі на пад'ём, гатовы імчаць на любую беларускую імпрэзу: ці ў Вязынку, ці ў Ракуцёўшчыну, ці ў Мілавіды. «Заўтра ўскладанне вянкоў на магілу Купалы, паслязаўтра — ▶

**«Гутаркі» Ермаловіча**

Лісткі накшталт «Мужыцкай праўды» Каліноўскага перадрукоўвалі на машынцы, перапісвалі пад капірку. Ермаловіч пісаў «аб усім, што баліць»: у «Гутарках» была ацэнка бягучых палітычных падзей, гісторыя, вершы:

*Ты хочаш жыць для Беларусі,*
*Служыць за праўду ў барацьбе?*
*Тады, мой сябра, я звярнуся*
*З наступным словам да цябе.*

*Прымай жа праўду ты без страху*
*(Як некалі прыняў Кастусь),*
*Няма цяжэйшага больш шляху,*
*Чым у змагара за Беларусь.*

1976

▸ адкрыццё помніка, а 8 ліпеня — урачыстасці ў Вязынцы. ... абавязкова буду ўзброены фота- і кінаапаратам», — пісаў ён у лісце Зосьцы Верас у Вільню.

Знаёмыя адзначалі, што да апошніх год жыцця Ермаловіч заставаўся фізічна дужым. Ён штораніцы рабіў зарадку, займаўся з гірамі, прымаў халодны душ.

На людзі выходзіў заўжды ў касцюме пад гальштукам.

### Жонка была ягонымі вачамі

Яны пазнаёміліся ў інтэрнаце настаўніцкага інстытута. Лідзія Куляшова выкладала гісторыю і ўзначальвала партарганізацыю. Студэнты яе называлі «малекула» за невялікі рост. Вясёлая і ўвішная, яна мела звычку падкармліваць калег-халасцякоў.

Пабраліся ў 1953-м. Вяселля не рабілі, толькі сфатаграфаваліся на памяць. І ў сям'і, і на людзях Лідзія Цімафееўна гаварыла па-руску, а Мікола Іванавіч быў прынцыпова беларускамоўны.

Лідзія была родам са Смалянаў, з-пад Оршы. Яна ўспамінала, як, прысланая працаваць у Заходнюю Беларусь у канцы 1940-х, здзівілася, што вучні тут слаба разумеюць па-руску. Даводзілася рускую мову і літаратуру, якімі яе «нагрузілі» з-за недахопу выкладчыкаў, весці па-беларуску.

Спачатку Ермаловічы жылі ў сырым сямейным інтэрнаце, пасля перабраліся ў малую двухпакаёўку. У кутку прахаднога пакоя стаяў працоўны стол Міколы Ермаловіча. Пабачаны вачыма выпадковай госці, будучай паэткі Людкі Сільновай, той стол, «увесь закладзены таўшчэзнымі кнігамі», нагадаў гару Манблан. «Ля падэшвы яе ляжалі разгорнутыя кнігі — адна на адной, крыж-накрыж, з паперкамі і пажоўклымі фатаграфіямі, якія дзе-нідзе выглядалі адтуль, як з вузкіх цяснінаў... Бліжэй да сцяны, выраслая са стосаў крыва складзеных кніг, узвышалася сапраўдная горная вяршыня з вострымі выступамі плато...»


**Мікола Ермаловіч з дачкой Аленай.** 1965 год.

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

З двухпакаёўкі сям'я з часам перабралася ў большую кватэру, у доме на сённяшняй вуліцы Вялікі Гасцінец. Яе Ермаловіч, ужо ўдаўцом пераязджаючы ў Мінск у 1990-я, пакінуў дзецям. Лідзія таксама цікавілася гісторыяй Беларусі, яны з Міколам фактычна разам яе вывучалі. Яна ездзіла з ім на канферэнцыі, дапамагаючы ў дарозе, чытала яму ўголас, каб зменшыць нагрузку на яго вочы. Менавіта Лідзія, казалі знаёмыя, падштурхнула мужа да даследчай працы.

### 67 рублёў пенсіі

У Вялікабрытаніі Стывен Хокінг з аміятрафічным склерозам здолеў стаць

### Алена і Усяслаў

Ермаловіч хацеў назваць дачку Алесяй, але жонка не пагадзілася — назвалі Аленай. А сына ён назваў Усяславам у гонар полацкага князя, якога лічыў адной з цэнтральных фігур гісторыі Беларусі.

сусветна вядомым вучоным. У ЗША Франклін Дэлана Рузвельт з поліяміэлітам мог стаць прэзідэнтам. Мікола Ермаловіч, які ў 36 год з-за слабога зроку сышоў на групу інваліднасці, мог разлічваць на 67 рублёў пенсіі.

На той час ён меў дваіх малых. Пакінуўшы працу, стаў ім за няньку. Дачцэ Алене было 5 год, сыну Славіку — тры з паловай. Раней, пакуль бацькі абое працавалі, мусілі няньку наймаць, бо месцаў у дзіцячых садках не было.

Ермаловіч імкнуўся перадаць дзецям сваю любоў да прыроды: вадзіў на рэчку глядзець, як крыгі ідуць, або выпускаць рыбу, калі сярод купленай на смажанне траплялася жывая. Яны разам садзілі ў зямлю галінкі з першамайскай дэманстрацыі — і тыя прыжываліся. Калі дзеці падраслі, хадзіў з імі ў грыбы. Праўда, пакуль яны збіралі, сам ён са сваім зрокам толькі «вартаваў кошык».

Гады міналі, а клопату не рабілася меней. У сына Усяслава пачалі ўсё выразней праяўляцца асаблівасці псіхафізічнага развіцця. Ён не змог хадзіць у школу, працаваць. Усё жыццё пражыў пад апекай спачатку бацькоў, а калі іх не стала — сястры.

«Я жыву ў Маладзечне, але кожны дзень езджу ў Мінск, — пісаў Ермаловіч у 1979-м, — у Дзяржаўную бібліятэку, дзе праседжваю ад 10 да 18. Вяртаюся дамоў і замест адпачынку пяць гадзін склейваю каробкі. Без гэтага немагчыма было б пражыць, бо дзеці мае інваліды, трэба на іх зарабляць».

«Каробкі» — гэта кардонныя скрынкі для бібліятэчных картак, у дакамп'ютарную эпоху іх патрабавалася многа. Інваліды па зроку бралі сабе такую надомную работу.

«Прыеду з Мінска, сяджу, каробкі клею, побач жонка ўслых газеты чытае, часопісы — ідылія», — з гумарам успамінаў ён пасля тыя часы.

Праўда, штодзённыя паездкі ў Мінск пачаліся, калі пусцілі электрычкі, якімі можна было вярнуцца дамоў абыдзень. А свой першы бестселер пра ВКЛ Ермаловіч напісаў фактычна не выязджаючы з Маладзечна. «Я прачытаў усё, што было можна дастаць, замучыў дзяўчат з бібліятэчнага абанементу», — расказваў ён.

## Працоўны стол Міколы Ермаловіча стаяў у кутку прахаднога пакоя

Калі ж даводзілася выбірацца ў Мінск, Ермаловіч вымушаны быў пасля дня ў бібліятэцы начаваць дзесьці ў знаёмых ці на вакзале, адкуль яго часам забіралі ў міліцыю.

### Вывучаная бездапаможнасць

Каб маніпуляваць чалавекам, яго трэба дэзарыентаваць. Тое самае і з грамадствам.

З савецкіх падручнікаў па гісторыі беларусы паўставалі народам без эліт, сялянскай масай, якая хадзіла пад бізуном спачатку літоўскіх, пасля польскіх феадалаў, пакуль не збылася «вековая мечта — воссоединение с Россией». Пасля быў царскі прыгнёт, ад якога вызвалілі расійскія ж бальшавікі, якім беларусы мусілі дзякаваць і за стварэнне першай нацыянальнай дзяржавы — БССР.

Украінцам гісторыкі-русіфікатары пакінулі хаця б сюжэты Кіеўскай Русі ►

### Апендыцыт у бібліятэцы

Ермаловіч звычайна працаваў у невялікім пакойчыку аддзела беларускай літаратуры Дзяржаўнай бібліятэкі. Ён прыязджаў электрычкай з Маладзечна на цэлы дзень. З бібліятэкі выходзіў толькі паабедаць у буфет ці сталоўку ЦК КПБ (па якасці як рэстаран, ежу там разносілі афіцыянты, а па цэнах — як заводская сталовая, «цэкоўка» была даступная наведнікам «Ленінкі», што месцілася насупраць ЦК — цяпер у будынку ЦК Адміністрацыя прэзідэнта, а сталоўка стала часткай «Прэзідэнт-гатэля»). І так дзесяцігоддзямі. Бібліятэкары называлі той пакойчык «Ермаловічаўская зала».

Там Ермаловіча раз схапіў прыступ апендыцыту. Бібліятэкары паклалі яго на ссунутыя сталы і выклікалі хуткую. Калі б прамарудзілі 20 хвілін, магла б быць смерць.

Іншым разам, калі даследчык прапаў дзесьці на тыдзень, у бібліятэцы пачалі хвалявацца. А Ермаловіч з'явіўся і расказаў, што прафесар-афтальмолаг Таццяна Бірыч зрабіла яму аперацыю — і палепшыла зрок на 0,6 працэнта. «Якое гэта шчасце!» — казаў Ермаловіч.

▸ (як перадцечы Маскоўскай) і казаччыны (пададзенай як змаганне з польскімі панамі за зноў жа ўз'яднанне з Расіяй), а беларуская гісторыя ў савецкім яе варыянце была зусім прэсная і нудная — чым там было ганарыцца, за што зачапіцца?

Але русіфікатарская канцэпцыя была сшытая настолькі неакуратна, што любы ўдумлівы чалавек мог заўважыць, як тырчаць белыя ніткі.

Малады настаўнік беларускай мовы з Дзяржынска Мікола Ермаловіч, замяняючы калегу, рыхтаваўся да ўрока гісторыі і адзначыў, як падрабязна — з датамі, імёнамі, фактамі — у падручніку апавядалася пра мангола-татарскае заваяванне Русі ў XIII стагоддзі і як павярхоўна — некалькімі сказамі, без канкрэтыкі — пра захоп «літоўскімі феадаламі» беларускіх земляў у той самы час. Чаму?

Момант у жыцці, выпадковасць, але імкненне адказаць на гэта пытанне стане сэнсам жыцця Ермаловіча.

## Па слядах аднаго міфа

Ермаловіча не адпускала пытанне «літоўскага заваявання», за якое зачапіўся быў яшчэ ў койданаўскай школе. За дзесяць год, ад 1958 да 1968-га, ён напісаў кнігу, якая стала яго маніфестам. У самвыдатаўскіх варыянтах яна пашыралася пад кодавай назвай «Сто старонак». Часткова, у форме артыкулаў у часопісы, яе ўдавалася друкаваць у пачатку 1970-х, але цалкам пад назвай «Па слядах аднаго міфа» яна выйшла толькі ў 1989-м.

Цэнтральная ідэя кнігі была ў тым, што Вялікае Княства Літоўскае было выключна беларускай дзяржавай, якая паўстала на беларускіх землях. Ермаловіч сцвярджаў, што летапісная «Літва» XII–XIII стагоддзяў месцілася не на тэрыторыі Літвы сучаснай, а ў ваколіцах Навагрудка, Ваўкавыска, Слоніма. Ён абвяргаў тэзіс пра захоп беларускіх земляў «літоўскімі феадаламі». Наадварот, даводзіў Ермаловіч, гэта тагачасныя беларускія эліты запрасілі да сябе княжыць літоўскага князя Міндоўга і з яго дапамогай падначалілі суседнюю Літву, даўшы пачатак Вялікаму Княству Літоўскаму.

Такая інтэрпрэтацыя па прынцыпе даміно валіла афіцыйную ў тыя часы канструкцыю гісторыі Беларусі — з тэорыяй «трыадзінага народа» і «векавечнай марай аб уз'яднанні з Расіяй».

## Дэтэктыў з друкаркай

Рукапіс «Ста старонак» хадзіў у нефармальным пісьменніцка-мастакоўскім асяродку, які збіраўся ў майстэрні Яўгена Куліка «на Паддашку», у Мінску на Ленінскім праспекце (цяпер праспект Незалежнасці) проста насупраць КГБ. У 1976-м Кулік паказаў «Сто старонак» маладому супрацоўніку Акадэміі навук Змітру Санько, і той загарэўся надрукаваць. Пра дзяржаўнае выдавецтва і думаць не было чаго, недзяржаўных проста не існавала. Затое ў Крымінальным кодэксе

## Карані «аднаго міфа»

Пераход да руска-шавіністычных поглядаў на гісторыю рэспублік СССР адбыўся пасля Другой сусветнай вайны. Сталін быў вымушаны перагледзець ранейшыя пазіцыі і звярнуцца да рускага патрыятызму. У прамове на прыёме ў гонар сканчэння вайны Сталін назваў рускі народ «найбольш выдатнай нацыяй з усіх нацый, што ўваходзяць у склад Савецкага Саюза». Але змены ў афіцыйныя падручнікі былі ўнесеныя не адразу.

Да 1954 года ў савецкіх падручніках фігуруюць «Кіеўскае княства» ці «Кіеўская дзяржава», а пазней яна называецца толькі «Старажытнарускай». Знікаюць таксама згадкі пра супярэчнасці паміж Полацкам і Кіевам у «Старажытнарускай дзяржаве».

Знікае і тэзіс пра досыць мяккія ўмовы ўваходу беларускіх і ўкраінскіх земляў у Вялікае Княства і тое, што дзякуючы аб'яднанню ў новую дзяржаву ўдалося пазбегнуць паняволення манголамі. Замест ранейшых з'яўляецца сцверджанне пра «заваяванне літоўскімі феадаламі» і «бязлітасную эксплуатацыю». Знікаюць з падручнікаў і згадкі пра культурныя ўплывы беларускіх і ўкраінскіх земляў на Маскоўскую дзяржаву. А з дасягненняў беларускага дойлідства, напрыклад, у школьным падручніку 1959 года згадваецца толькі «мошчаная цагляная сцяна вакол Віцебска»

Замацоўваецца тэзіс пра тое, што тры ўсходнеславянскія народы паходзяць ад адзінага «старажытнарускага» кораня, і толькі ў выніку гістарычнай недарэчнасці продкі беларусаў і ўкраінцаў страцілі сувязь з рускім «старэйшым братам». Дзеля гэтага фарміраванне беларускага народа адносілі да XIV–XV стагоддзяў — хоць гэта больш чым спрэчнае меркаванне.

Да 1954 года погляд савецкіх гісторыкаў на Полацкае княства і Вялікае Княства Літоўскае — старажытныя дзяржавы продкаў беларусаў — нагадваў дарэвалюцыйны з папраўкай на марксісцкую філасофію. А Маркс і Энгельс лічылі Вялікае Княства дзяржавай найперш славянскай.

БССР існаваў артыкул 67, які прадугледжваў да сямі гадоў турмы за «выраб і захоўванне» падрыўных з пункту гледжання рэжыму твораў.

Усе ручныя друкаркі з узорамі шрыфтоў стаялі на ўліку ў мясцовых аддзяленнях КГБ. Каб зрабіць машынапіс працы Ермаловіча, трэба была «свежая» машынка. Сваяк Змітра Санько, які па працоўных справах ездзіў за межы Беларусі, купіў у Смаленску новую друкарку «Масква». Грошы на яе, 135 рублёў, далі бацькі Змітра, з Пухавіцкага раёна. Гэта была сума, роўная месячнаму заробку настаўніка.

Машынка была хоць і новая, але нізкай савецкай якасці: літары ў радку стаялі няроўна. Правілі друкаркі толькі ў адной майстэрні ў Беларусі — у Мінску на вуліцы Бехцерава. Прычым майстры былі абавязаныя паведамляць у КГБ звесткі пра тых, хто здаваў машынку. Часам нават рабілі цішком засечкі на літарах машынак з дзяржустаноў, каб лягчэй выяўляць крыніцу паходжання таго ці іншага непадцэнзурнага тэксту. Праз сваякоў з «сувязямі» ўдалося з тымі майстрамі дамовіцца прыватна — за жывыя грошы яны хутка і якасна выраўнялі шрыфт і паставілі беларускія літары.

Аддрукаваны тэкст мастак Генадзь Сокалаў-Кубай аддаў, зноў жа па знаёмстве, у ратапрынтны ўчастак Ленінскай бібліятэкі. І туды раптам наскочыла праверка з органаў! Мастак, перавязаўшы матузом тэчку з машынапісам, проста павесіў яе за акно — і яго не знайшлі.

Аддрукаваныя на ратацыйнай электракапіравальнай машыне вялікія аркушы Санько прынёс дахаты, замаскіраваўшы пад рулоны шпалераў. На падлозе хрушчоўкі яны з жонкай раскачвалі рулоны, нажніцамі разразалі на старонкі і складалі па парадку. Выйшла 22 кнігі плюс яшчэ пяць машынапісных копій. Пераплёў іх былы вязень ГУЛАГа Вячаслаў Шыдлоўскі, расстараўшыся для вокладкі ў акадэмічным выдавецтве «Навука і тэхніка» некалькі метраў ледэрыну шакаладна-карычнага колеру. Гэтыя кніжачкі перадавалі з рук у рукі, капіравалі, перапісвалі.

### «Животное ископаемое»

Савецкая дзяржбяспека штосьці падазравала. Занадта незвычайным падаваўся гэты інвалід. Прычынай была Ермаловічава прынцыповая ▶



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

**На людзі выходзіў заўжды ў касцюме пад гальштукам**

▸ беларускамоўнасць. У 1950-я ён, наіўны, назіраючы катастрафічную русіфікацыю, пайшоў да старшыні Маладзечанскага абкама КПБ, а ў мінулым славутага заходнебеларускага тэрарыста Сяргея Прытыцкага. Праўда, заспеў дома толькі жонку, якая параіла яму *«бросить дурацкие разговоры об этой мове»* і запэўніла, што Сяргей Восіпавіч з ёй згодны.

Шэф маладзечанскага КГБ Іваноў за мову называў Ермаловіча *«животным»*. *«Вот и у нас есть такое животное ископаемое — свой динозавр»*, — казаў ён, выступаючы перад агітатарамі таварыства «Веды». І цытаваў выказванні Ермаловіча ў прыватных размовах ад 1948 да 1966 года.

Выклікала пытанні ў «органаў» і навуковая праца Ермаловіча. Годзе ў 1984-м яго выклікалі ў КГБ. *«До нас дошли сведения,* — пачаў следчы, — *что вы пишете историю, в которой хотите доказать извечную самостоятельность Белоруссии»*. Так, пішу, пагадзіўся Ермаловіч, пачытайце, часткі надрукаваныя. Але кагэбістам хацелася «пачытаць» рукапіс цалкам.

Ермаловіч не даў: інакш, не выключана, яго чыталі б дагэтуль.


**Мікола Ермаловіч з гісторыкам і краязнаўцам Генадзем Каханоўскім.** Мінск, 1989 год.

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

## Дэкан і бурак

Данос на яго ў КГБ, лічыў даследчык, напісалі ў Інстытуце гісторыі Акадэміі навук. Для яе супрацоўнікаў гісторык-аматар быў стрэмкай у воку.

У 1982-м навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Залман Капыскі нават звярнуўся ў ЦК з просьбай забараніць Ермаловічу друкавацца — і такая забарона дзейнічала некалькі год.

Нават у 1990-м, на сконе СССР, калі на гістфаку БДУ стварылі незалежную асацыяцыю гісторыкаў, «некаранаванага акадэміка» Ермаловіча туды не ўключылі. Тым часам у часопісе «Маладосць» была ўжо надрукаваная яго «Старажытная Беларусь» — адзіная на той час кніга, у якой была выкладзеная цэльная канцэпцыя гісторыі краіны, напісаная з беларускіх пазіцый.

Дэкан Іраіда Царук (родная сястра Сяргея Прытыцкага) сказала, што ён «ніякі не гісторык» і гэтага не ўхваляць у «высокіх будынках» ЦК, а яна прыклала вялікія намаганні, каб асацыяцыю дазволілі. Ермаловіч, даведаўшыся, перажываў, што старшыня грамадска-асветніцкага клуба «Спадчына», былы авіятар Анатоль Белы, які прапанаваў ягоную кандыдатуру, падставіўся і сапсаваў сабе кар'еру. Тады ж яшчэ і ў думках не было, што Савецкі Саюз дажывае апошнія гады.

Позняй восенню таго года Царук і Белы працягнулі дыскусію на калгасным полі пад Рудзенскам, куды гістфак на чале з дэканам пасылалі капаць буракі (многія ўжо і забыліся пра гэтыя мілыя асаблівасці савецкага жыцця). Царук не верыла, што КПСС страціць уладу, што адкрыюцца архівы, што зменіцца гістарычная канцэпцыя.

Прайшло два гады. Мікола Ермаловіч атрымаў Дзяржаўную прэмію за кнігу «Старажытная Беларусь» (гэта яе рукапіс «прасілі пачытаць» у КГБ). А намеснік Царук, Давід Мельцэр, які наскокваў на Ермаловіча падчас таго пасяджэння, эміграваў

у ЗША і выстаўляў сябе мужным антысавецкім дысідэнтам у эфіры радыё «Свабода».

### «Кніга ў жалобнай рамцы»

«Старажытная Беларусь», якая прынесла Ермаловічу прызнанне на дзяржаўным узроўні і кватэру-аднапакаёўку ў мінскай Малінаўцы (Рафіева, 89) — а гэта ж было цудам для яго, магчымасцю ездзіць у бібліятэку тралейбусам, а не з Маладзечна, — праляжала «ў стале» чатыры гады.

У 1988 годзе яе надрукаваў часопіс «Маладосць». Напярэдадні Ермаловіч даў туды артыкул да 1125-годдзя Полацка, які разграміў акадэмік-сталініст Адам Залескі: аўтар не раскрыў барацьбу сялян з панамі. Галоўны рэдактар Генрых Далідовіч прапанаваў Ермаловічу: давайце адкажам новым творам.

«Калі я прынясу новы твор, вас усіх у турму пасадзяць!» — пажартаваў той.

«Калі будзеце сухары насіць, надрукуем», — адказалі супрацоўнікі рэдакцыі.

Рэдактар звяртаўся да васьмі дактароў навук па прадмову. Сем адмовіліся, пагадзіўся Міхась Ткачоў.

Ермаловіч лічыў «Старажытную Беларусь» кнігай «у жалобнай рамцы»: калі «Маладосць» пачынала яе друкаваць, памерла яго 95-гадовая маці Сцепаніда, а калі заканчвала — жонка.

Апошні год жыцця ў Лідзіі была анкалогія. Згасаючы, яна была без прытомнасці. У яе апошні дзень, успамінае Міхась Казлоўскі, Ермаловіч бег па Маладзечне ў бок бальніцы — ускудлачаны, непазнавальны, з шэрым тварам.

Ён пражыў пасля яшчэ дзясятак гадоў. Гэта быў час прызнання. Ермаловіч пераехаў у Мінск, ▶

## Слабыя месцы канцэпцыі Ермаловіча

Канцэпцыя Ермаловіча захапіла розумы ў пачатку 1990-х, але сёння гісторыкі разглядаюць яе як занадта спрошчаную і рамантычную.

Яе слабыя месцы яшчэ ў 1984-м акрэсліў гісторык Мікола Улашчык. «Яго гіпотэза... прывабная, але гэта толькі гіпотэза, прытым у самай пачатковай форме».

Улашчык абвяргаў тэзіс Ермаловіча, што маркерамі знаходжання летапіснай Літвы ў Беларусі з'яўляюцца вёскі з назвай «Літва» ў Уздзенскім, Маладзечанскім, Карэліцкім раёнах: «Гэта доказ адваротнага: літоўцы сяліліся ў Беларусі, ці ў Польшчы, ці ва Украіне, для ваколічнага насельніцтва яны былі чужыя, літва, адсюль і назвы». Такія назвы ёсць нават на Харкаўшчыне, адзначаў Улашчык, а з'явіцца яны маглі і сто год таму, а не толькі ў старажытнасці.

Каб разабрацца з беларускай тапанімікай, пісаў ён, трэба дасканала ведаць літоўскую мову. Ермаловіч яе не ведаў.

Таксама, пісаў Улашчык, каб цвёрда арыентавацца ў тэме заснавання ВКЛ, трэба вывучаць не толькі даступныя летапісы і працы гісторыкаў XIX стагоддзя, «патрэбна навуковае веданне лацінскай і старанямецкай моваў і ўсіх еўрапейскіх моваў». Ермаловіч меў доступ нават не да ўсіх польскіх, не кажучы ўжо пра заходнееўрапейскія крыніцы і даследаванні.

Пачаўшы свае даследаванні з нуля, ён меў доступ толькі да досыць бедных фондаў мінскай «Ленінкі». Калі б замест Мінска ён ездзіў, напрыклад, у багацейшыя віленскія бібліятэкі, яго кругагляд быў бы шырэйшы. Але тут усё дыктавалі камунікацыйныя магчымасці: хоць Вільня была ад Маладзечна на параўнальнай адлегласці з Мінскам і дзяржаўная мяжа Беларусь з Літвой тады не падзяляла, туды не хадзілі электрычкі.

З-за адсутнасці сістэмных акадэмічных ведаў Ермаловіч часам даваў веры ненадзейным крыніцам. Напрыклад, адным з доказаў таго, што літоўскі князь Міндоўг не заваёўваў Наваградак, а прыйшоў туды як наёмнік, ён лічыў паведамленне Густынскага летапісу пра хрост літоўскага князя-паганца ў Наваградку ў праваслаўе. Даследчык не ведаў, што той летапіс быў створаны ва Украіне ў XVII стагоддзі і пісаўся з антыкаталіцкіх пазіцый.

І сам Ермаловіч, які лічыў польскіх паноў найгоршымі прыгнятальнікамі беларусаў цягам усёй гісторыі, не пазбегнуў пэўнай непрыязі да каталіцтва. Напрыклад, называў Міндоўга пераацэненым і слабым палітыкам, бо той у складаны момант прыняў каталіцтва ад крыжацкага Ордэна. (Між тым іншыя гісторыкі лічаць, што гэта дало Вялікаму Княству важную перадышку.) Затое Ермаловіч узвялічваў праваслаўнага Войшалка — між тым той згінуў без нашчадкаў, забіты галіцкім князем, і Вялікае Княства на некалькі дзесяцігоддзяў, аж да Віценя, пагрузілася ў хаос.

Ад гісторыкаў XIX стагоддзя Ермаловіч пераняў некаторыя састарэлыя ўяўленні. Ён, напрыклад, быў антынарманістам — лічыў, што ў старажытным Полацку кіравала спрадвечная мясцовая дынастыя, а не нашчадкі вікінгаў. А супадзенні летапісных сюжэтаў пра забойства Рагвалода, гвалтоўны шлюб Рагнеды са скандынаўскімі сагамі лічыў выпадковасцю: маўляў, жыццё было такое тысячу год таму, войны і шлюбы князёў у розных месцах часта ішлі па падобным сцэнары.

Схільнасць Ермаловіча захапляцца там, дзе гісторык мае аналізаваць, змяншае навуковую каштоўнасць яго прац. Але яго даследчыцкая смеласць і літаратурны талент дапамаглі прыцягнуць увагу тысяч чытачоў да «Літоўскага перыяду» гісторыі Беларусі.



**Мікола Ермаловіч**
вачыма мастачкі
Лізы Дубінчынай.

▸ па-ранейшаму праседжваў дні ў бібліятэцы, выступаў на імпрэзах, чытаў лекцыі, хадзіў на мітынгі. А загінуў праз дурную, але непазбежную пры ягонай слепаце выпадковасць: цёмным сакавіцкім вечарам 2000 года з-за слабага зроку трапіў пад аўто, пераходзячы вуліцу ў Малінаўцы.

## Ці быў Ермаловіч першаадкрывальнікам?

Канечне, Ермаловіч фізічна, у сілу жыцця ў закрытай дзяржаве, не меў магчымасці працаваць у нямецкіх, польскіх, чэшскіх і ватыканскіх архівах. Але ў яго быў жывы розум пераадкрывальніка і падсумавальніка. Ён вярнуў у навуковы абыходак напрацаванае дасавецкімі гісторыкамі. Ён старанна перачытаў Васіля Тацішчава, Васіля Ключэўскага, Сяргея Салаўёва, Мацвея Любаўскага, Уладзіміра Антановіча, Мітрафана Доўнар-Запольскага. Іх погляд на Полацкае княства і ВКЛ быў далёкі ад зашоранасці і заідэалагізаванасці. А таксама — рэпрэсаваных Вацлава Ластоўскага і Усевалада Ігнатоўскага.

«“Старажытная Беларусь” — сума, лагічны вынік і завяршэнне працы плеяды беларускіх гісторыкаў, якім у канцы 1920-х—пачатку 1930-х гадоў бальшавікі не далі давесці да канца пачатую справу», — пісаў гісторык Анатоль Сідарэвіч.

Як кожны аўтар, Мікола Ермаловіч браў у сваіх папярэднікаў тое, што «клалася» ў яго бачанне. Але калі Беларусь атрымала незалежнасць, раптам выявілася, што ніводнай цэльнай канцэпцыі гісторыі краіны ад старажытных часоў, апроч Ермаловічавай, проста няма. І яго кнігі размяталі з паліц. Яго працы сталі каталізатарам для акадэмічных гісторыкаў, пачалі выходзіць сур’ёзныя беларускія навуковыя працы па гісторыі ВКЛ.

Далёка не ўсе ермаловіцкія гіпотэзы вытрымалі выпрабаванне часам і крыніцамі, але цэнтральную ў Ермаловіча думку, што Вялікае Княства Літоўскае і Рэч Паспалітая — частка гістарычнай спадчыны беларусаў, ніхто не аспрэчвае.

«Яму балела беларуская гісторыя, — казаў Міхась Чарняўскі. — Сапраўдная гісторыя замяняе заняволенаму народу армію, авіяцыю і флот. Ён ніколі не асімілюецца».

«Значэнне Ермаловіча ў тым, што ён злячыў беларусаў ад комплексу непаўнавартасці, ад комплексу недзяржаўнай нацыі», — пісаў Юрась Пацюпа.

Можа быць, толькі чалавек, які жыў «як бы асобна», і мог развіць у сябе смеласць пайсці на такое супраць тагачаснага мэйнстрыму. ◆

# Містыфікацыя прафесара Кацара

**Гэта здарылася, калі выбіралі арнамент для дзяржаўнага сцяга БССР. Выглядае, што прафесар Міхаіл Кацар не толькі прыпісаў падняпроўскія арнаменты сваёй роднай сястры Матроне Маркевіч, але датаваў іх 1917 годам і выдумаў узнёслую назву. Нашто? Можна здагадвацца, піша гісторык Зміцер Скварчэўскі.**

На карцінцы ўнізе — малюнак арнаменту ў рукапісе прафесара Міхаіла Кацара. Калі верыць надпісу, ён быў скапіяваны з ручніка, вытканага Матронай Маркевіч з вёскі Касцелішча Сенненскага раёна, у 1917 годзе і называўся *ўзыходзячае сонца*.

У рукапісе, вядома, не пазначана, што Матрона — родная сястра прафесара Кацара. І тым больш не пазначана, што Маркевіч яна — па мужу, рэпрэсаваным і замучаным у 1937 годзе.

Па афіцыйнай версіі, узор быў узяты з ручніка, які Матрона Маркевіч выткала ў рэвалюцыйным 1917 годзе. Гэта доўгі час прымалася ўсімі на веру. Аднак выглядае, што і назвы такой не існавала, і ўзор быў характэрны для зусім іншай мясцовасці. А раз так, то і год, цалкам верагодна, прыдуманы.

## Капыткі, крывуля… І раптам «узыходзячае сонца»

Першае пытанне — гэта назва. Звычайна арнаментальныя элементы сапраўды неяк называліся, пра гэта сведчаць этнаграфічныя запісы. У спецыяльнай літаратуры можна пабачыць прыклады: *васьмірогі*, *верабей*, *вароняе вочка*, *елка*, *мядзведзі*, *грабёнкі*, *гусіныя лапкі*, *жабкі*, *казёл*, *зубцы*, *звёзды*, *капыткі*, *крывуля*, *кручча*, *рашотка* і пад.

З гэтага пераліку добра бачна, што народныя назвы перадаюць вельмі прадметныя асацыяцыі. Яны хоць і маюць сваю паэтыку, але істотна адрозніваюцца ад назвы *ўзыходзячае сонца*, якая мае выразны мастацкі, кніжны характар і сімвалізм. Са світанкам, відавочна, параўноўваецца рэвалюцыйны 1917 год: маўляў, пачынаецца новае жыццё і светлая будучыня, і гэта адчувае нават малапісьменная сялянка.

Нічога падобнага ў народнай культуры не фіксуецца. У паэтычнай назвы «дзяржаўнага» арнаменту ёсць аўтэнтычныя адпаведнікі ў народнай культуры. Аналагічны арнаментальны знак знайшла даследчыца арнаментаў Галіна Нячаева на канцы ▶




**Партрэт прафесара Міхаіла Кацара**, які прапанаваў варыянт арнаменту на дзяржаўны сцяг, з недвухсэнсоўным аўтографам: «Я ад Сталіна сышоў, застаўся жывы. Я ад Гітлера сышоў, застаўся жывы. Вітанне маладым будаўнікам жыцця».







**Узор ручніка, вытканага ў вёсцы Неглюбка Веткаўскага раёна.** Народныя назвы *кручча*, *лапа*, *лапа кучаравая*.

ручніка, вытканага ў вёсцы Неглюбка Веткаўскага раёна. У дачыненні да яго ўжываюцца народныя назвы *круччa*, *лапа*, *лапа кучаравая*, але не *сонца*, і тым больш не *ўзыходзячае*. Паводле рэканструкцыі Нячаевай, гэта знак ураджаю і багатай зямлі, заснаваны на сімволіцы засяванага поля і нівы, якая прарастае.

У той жа час назва для арнаменту *ўзыходзячае сонца* цалкам адпавядае творчаму почырку Міхаіла Кацара, якога сучасныя навукоўцы папікаюць за міфатворчасць.

Калі пагартаць кнігу прафесара «Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка», выдадзеную ў 1996 годзе, праз год пасля ягонай смерці, то можна звярнуць увагу на вельмі паэтычныя назвы арнаментаў: «Маці сярод зорак», «Родная Беларусь», «Купальскі агонь», «Дзяўчына-рабіна марыць пра дуб-явар», «Дрэва жыцця» і пад. Такія назвы і інтэрпрэтацыі сустракаюцца толькі ў працах гэтага навукоўца, а вось у аўтэнтычнай народнай традыцыі, зафіксаванай у этнаграфічных даследаваннях XX–XXI стагоддзяў, яны зусім невядомыя.






**Альбом «Беларускі народны арнамент»** 1953 года, да якога Міхаіл Кацар пісаў прадмову. На старонцы 27 — **малюнак ручніка, узор з якога трапіў на сцяг**.

## У дзявоцтве Кацар

Ва ўсіх публікацыях, прысвечаных гісторыі дзяржаўнага сцяга, не ставіцца пад сумнеў, што аўтарам размешчанага на ім арнаменту з'яўляецца Матрона Маркевіч з вёскі Касцелішча Сенненскага раёна. У 2015 годзе ў цэнтры горада Сянно нават з'явіўся памятны знак «Родны край» у гонар гэтай жанчыны, а ў мясцовым гісторыка-краязнаўчым музеі ёсць прысвечаная ёй экспазіцыя, дзе можна пабачыць адзін з яе арыгінальных ручнікоў.

Матрона Маркевіч, у дзявоцтве Кацар, сапраўды была здатнай майстрыхай і добрым чалавекам. А яшчэ яна даводзілася роднай сястрой прафесару Міхаілу Кацару.

Пры абмеркаванні ролі Кацара ў стварэнні дзяржаўнага сцяга БССР звычайна ставіцца пытанне, наколькі ён быў аб'ектыўны ў выбары: ці было карэктна і справядліва з яго боку прасоўваць арнамент менавіта сваёй сястры?

Але ёсць сур'ёзныя падставы лічыць, што Матрона Маркевіч (Кацар), нягледзячы на ўсё сваё ўмельства, да гэтага канкрэтнага арнаменту дачынення ўвогуле не мела.


SVABODA.ORG

**Матрона і Аляксей Маркевічы.**

### «...нешта вы браціць на мяне совсем забылі»

Сям'я Кацараў паходзіла з вёскі Клімавічы Сенненскага раёна. У прадмове да сваёй кнігі прафесар узгадваў, як у 1925 годзе ў іх хаце нейкі час жыў пісьменнік Максім Гарэцкі: «З вялікім захапленнем разглядаў ён посцілкі і ручнікі, слухаў песні маёй маці Фядоссі Аляксандраўны і маіх сясцёр. Мы і самі не ведалі, што ўсё гэта, аказваецца, вялікая духоўная каштоўнасць, сведчанне народнага таленту і майстэрства, і былі шчыра ўдзячныя Гарэцкаму за такую высокую ацэнку нашай культуры».

Па часе сястра Міхаіла Матрона выйшла замуж за Аляксея Маркевіча і пераехала ў вёску Касцелішча таго ж Сенненскага раёна.

У 1933 годзе іх сям'ю раскулачылі, а ў трагічным 1937-м Аляксей быў арыштаваны і расстраляны. Для Матроны і яе дзяцей наступілі цяжкія часы. Хоць сям'я «ворага народа» перажыла вайну, але і пасля яе жыццё было складаным.

Памерла жанчына ў 1957 годзе. Захаваўся ліст Матроны да Міхаіла Кацара, у якім гэтая не вельмі пісьменная жанчына адзначае: «...нешта вы браціць на мяне совсем забылі не хочаш пасльаць мне пісьма». Міхаіл Кацар атрымаў яго ў 1951 годзе: якраз тады, калі ішла распрацоўка сцяга БССР.

Падтрымліваць непасрэдныя адносіны з сястрой, жонкай «ворага народа», відаць, было яму тады небяспечна. І ўсё ж ад сваякоў навуковец ніколі не адмаўляўся. Чыста «жаночае» мастацтва — ткацтва — ён вывучаў усё жыццё.

Кніга Міхаіла Кацара пра арнаменты сведчыць, якую вялікую ўвагу ён надаваў вобразам




**Памятны знак «Родны край»** у гонар Матроны Маркевіч у Сянне.

роду, сям'і, дома, як высока цаніў майстэрства маці і сясцёр. Магчыма, дзеля таго і захацеў увекавечыць імя сястры як аўтаркі арнаменту на дзяржаўным сцягу БССР. А можа быць, хацеў застрахаваць сям'ю ад далейшых рэпрэсій: у выпадку чаго аўтарку арнаменту не павінны былі б чапаць.

У кожным разе, зрабіў гэта прафесар вельмі далікатна, без шуму. Прозвішча Матроны Маркевіч як аўтаркі гэтых арнаментальных знакаў у літаратуры з'явілася вельмі позна — фактычна толькі ў 1990-я гады. Да таго гэта пераказвалі адзін аднаму толькі вусна калегі навукоўца. Прафесар Яўген Сахута, супрацоўнік акадэмічнага Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, у адным з нядаўніх інтэрв'ю згадваў: «Гэта вядома было, хоць нідзе і не публікавалася. Па руках доўгі час хадзіў ягоны рукапіс, і ў культурным асяродку пра гэта было вядома». Прытым «што Матрона — ягоная сястра, амаль ніхто не ведаў. Калегам ён не распавядаў пра сваяцтва з Матронай, а сваякам — пра тое, што скарыстаў сястрын арнамент».

Згаданы Сахутам рукапіс Кацара захаваўся, і ў ім сапраўды прысутнічае арнаментальны ўзор з цяперашняга дзяржаўнага сцяга з падпісаным аўтарствам Матроны Маркевіч. Але ў праўдзівасці гэтай атрыбуцыі застаюцца сумневы, бо распаўсюджанне арнаментальных узораў рознага тыпу ў Беларусі мае дакладную тэрытарыяльную прывязку, і ў гэтым выпадку яна зусім не супадае. ▶




**У 2018 годзе нашчадкі ўсталявалі помнік Аляксею Маркевічу**, расстралянаму на Кабыляцкай гары ў Оршы.

### ▸ З Падняпроўя, а не з Падзвіння

Міхаіл Кацар нібыта адшукаў малюнак ручніка сястры з арнаментам *узыходзячае сонца* ў даваенных архівах Савета прамысловай кааперацыі БССР (Белпрамсавета). У пачатку 1950-х гэта была адзіная база арнаментаў, якой магла карыстацца акадэмічная камісія. На базе яго збораў у 1953 годзе быў выдадзены каталог Белпрамсавета пад назвай «Беларускі народны арнамент». Прадмову да каталога напісаў Міхаіл Кацар, але сярод аўтараў-складальнікаў яго не было. Апошняя акалічнасць дадае аб'ектыўнасці інфармацыі, змешчанай у гэтым выданні.

Сапраўды, на старонцы 27 ёсць малюнак таго самага ручніка,


AR.CULTURE.RU

**Арнаментальны знак на кераміцы** з Почапскага селішча (Бранская вобласць).

арнамент з якога трапіў на сцяг БССР. І тут пачынаецца самае цікавае: у атрыбуцыі пазначана толькі тое, што гэта «Канец ручніка. Тэхніка — перабор». І няма ані слова ні пра аўтарства Матроны Маркевіч, ні пра год стварэння, ні пра назву арнаменту. Рэгіён паходжання ручніка таксама не пазначаны, але на старонках выдання як да малюнка з ім, так і пасля яго прыводзяцца прыклады ткацтва з Гомельскай вобласці.

Вядома, што арнаменты і тэхніка выканання ручнікоў не з'яўляюцца аднолькавымі для ўсёй краіны, яны маюць лакальныя асаблівасці. Тая ці іншая традыцыя ткацтва мае даволі выразную прывязку да канкрэтнага рэгіёна. І «дзяржаўны» арнамент зусім не характэрны для мясцовасці, з якой паходзіла Матрона Маркевіч: Сенненскага раёна, Віцебшчыны і ўвогуле Падзвіння. Ручнікоў з падобнымі арнаментальнымі знакамі навукоўцы там ніколі

## Сцяг БССР

быў прыняты адразу пасля абвяшчэння рэспублікі ў 1919 годзе. Пры яго стварэнні асабліва не мудрагелілі: узялі агульнасавецкі чырвоны сцяг, але ў левым верхнім куце напісалі залатымі літарамі «С.С.Р.Б.». У 1927 годзе пры прыняцці новай Канстытуцыі надпіс замянілі на «БССР», а ў 1937-м на сцяг дадалі выявы зноў-такі агульнасавецкіх сімвалаў — серп з молатам і пяціканцовую зорку. Паводле такога самага шаблона ствараліся сцягі і іншых саюзных рэспублік.

Да пары такая сітуацыя ўсіх задавальняла, але ў 1945 годзе Беларуская і Украінская ССР сталі дзяржавамі-заснавальніцамі ААН, Сталін хацеў мець больш галасоў у гэтай міжнароднай арганізацыі — і для міжнароднага прадстаўніцтва спатрэбіліся больш адметныя сцягі. Заадно вырашылі зрабіць больш пазнавальнымі сцягі і астатніх 14-ці саюзных рэспублік (тады іх было 16, бо да 1956 года існавала і Карэла-Фінская).

20 студзеня 1947 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прыняў пастанову «Аб дзяржаўных сцягах саюзных рэспублік», у якой вызначалася: «Прызнаць мэтазгодным унесці змены ў наяўныя дзяржаўныя сцягі саюзных рэспублік з тым, каб дзяржаўны сцяг саюзнай рэспублікі адлюстроўваў ідэю саюзнай савецкай дзяржавы (змяшчэнне на сцягу эмблемы СССР — серп і молат, пяціканцовая зорка, захаванне чырвонага колеру) і нацыянальныя асаблівасці рэспублікі (увядзенне акрамя чырвонага іншых колераў, парадак іх размяшчэння, уключэнне нацыянальнага арнаменту)».

Як ні дзіўна, толькі БССР скарысталася з магчымасці аздобіць сцяг нацыянальным арнаментам. Астатнія рэспублікі абмежаваліся размяшчэннем на сваіх сцягах сініх, блакітных, белых і зялёных палос у разнастайных варыяцыях. З пэўнай нацяжкай нацыянальным каларытам можна было б лічыць, апрача нашага арнаменту, хіба што толькі балтыйскія хвалі на сцягах Латвійскай і Эстонскай ССР.

Зацверджаны 25 снежня 1951 года сцяг БССР дзякуючы нацыянальнаму арнаменту выразна вылучаўся сярод іншых: кажуць, што той-сёй з інтэлігенцыі іншых народаў беларусам праз гэта зайздросціў. Афіцыйная назва арнаменту — *узыходзячае сонца* — нават натхніла народнага паэта Ніла Гілевіча на ўзнёслыя радкі ў вершаваным рамане «Родныя дзеці»:

Каб, як дзівосная праява  
Народнай волі векавой,  
І Беларуская дзяржава  
**На сонца сцяг раўняла свой**.

Калі Савецкі Саюз распаўся, 19 верасня 1991 года Вярхоўны Савет Беларусі прыняў рашэнне замяніць сцяг БССР узору 1951 года на гістарычны бел-чырвона-белы. Ніхто з нацыянальнай інтэлігенцыі гэтаму не пярэчыў. Вярнуўся ж сцяг БССР у якасці дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь, ужо ў крыху мадыфікаваным выглядзе, у 1995 годзе.

не фіксавалі. Захаваныя ж ручнікі, якія бясспрэчна належаць Матроне Маркевіч, маюць іншую стылістыку.

А для якога рэгіёна тады такі ўзор характэрны? Вышэй ужо згадваўся ручнік з вёскі Неглюбка Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці, які мае такі ж асноўны матыў, як і арнамент на цяперашнім дзяржаўным сцягу. І гэта далёка не адзіны падобны прыклад з той мясцовасці.

Якраз у Падняпроўі, у раёнах Гомельскай і Магілёўскай абласцей, і былі пашыраныя ручнікі з «дзяржаўным» арнаментам. Напрыклад, у кнізе доктара навук Вольгі Лабачэўскай «Повязь часоў — беларускі ручнік» ёсць фотаздымкі такіх ручнікоў з вёсак Падгор'е Быхаўскага раёна, Раманавічы Гомельскага раёна і Фёдараўка Веткаўскага раёна. Гэтыя ручнікі датуюцца пачаткам і першай паловай XX стагоддзя.

Ёсць і яшчэ адзін цікавы момант. Абгрунтоўваючы старажытнасць гэтага арнаменту, сучасныя гісторыкі звычайна згадваюць



**Ручнікі з «дзяржаўным» арнаментам пашыраныя ў Падняпроўі.** На фота — ручнікі з вёсак Падгор'е Быхаўскага раёна і Фёдараўка Веткаўскага раёна.



BELSAT.EU

**Узор на ручніку, вышытым Матронай Маркевіч.** Ручнік захоўваецца ў Сенненскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

пра падобны арнаментальны знак, выяўлены на кераміцы з Почапскага селішча ў расійскай Бранскай вобласці, якая адносіцца да жалезнага веку. А гэты рэгіён таксама памежны з сучаснымі Магілёўшчынай і Гомельшчынай, але не з Віцебшчынай.

У сваім альбоме пра арнаменты Міхаіл Кацар увогуле не згадвае ўзор на сцягу БССР, хоць у кнізе маецца адмысловы раздзел, прысвечаны арнаментальным сімвалам радзімы і дзяржавы. Ці гэта не было для яго важным, ці ён не хацеў засяроджваць на гэтым увагу? Цяжка сказаць. Аднак выява ручніка з такім жа знакам, як і на дзяржаўным сцягу, у кнізе Кацара ёсць: малюнак № 424 падпісаны «Ручнік з матывамі мужчыны і жанчыны». Як бачна, ніякага *ўзыходзячага сонца*. І паходзіць гэты ручнік з Магілёўскай вобласці, не з Падзвіння.

ЛАБАЧЭЎСКАЯ В. А. ПОВЯЗЬ ЧАСОЎ — БЕЛАРУСКІ РУЧНІК. МІНСК 2002

**«Дзяржаўны» арнамент зусім не характэрны для мясцовасці, з якой паходзіла Матрона Маркевіч**

### Ідэальны сімвалізм

У пачатку 1950-х над праектам абноўленага сцяга рэспублікі працавала камісія Акадэміі навук. Прафесар і доктар мастацтвазнаўства Міхаіл Кацар, найбольш аўтарытэтны на той час навуковец у галіне народнай арнаменталістыкі, прапанаваў на разгляд некалькі варыянтаў арнаменту. Камісія ўхваліла вядомы нам цяпер узор.

Магчыма, менавіта назва *ўзыходзячае сонца*, а разам з ёй і легенда, што ручнік з такім арнаментам быў вытканы Матронай Маркевіч не ў якім-небудзь іншым, а ў 1917 годзе, былі вырашальнымі для выбару.

Калі так, то гэта была адна з самых тонкіх і бяскрыўдных містыфікацый XX стагоддзя. ◆


Брэсцкі мір, суп з бычыных хвастоў і таямнічы Воран

Гід па ўкраінскіх мясцінах Брэста




## «Усё мінецца, а праўда застанецца»

Мне, як жыхару Берасцейшчыны, цікава было даведацца пра з'яўленне гіда па ўкраінскіх мясцінах Брэста (№ 12/2021). Гід — добрая праца!

Я ведаю таксама, напрыклад, што ў маёй вёсцы і многіх суседніх у 20–40-я гады XX стагоддзя дзейнічалі пачатковыя ўкраінскія школы, гурткі спеву, танцаў, малявання, бібліятэкі «Просвіты». Не раз чуў пра гэта ад старэйшых людзей. Шмат якую інфармацыю я прачытаў у гідзе ўпершыню, хоць даўно цікаўлюся тэмай і лічу сябе ўкраінамоўным беларусам, мая родная мова ўкраінская.

**Працую дальнабойшчыкам, зарабляю грошы для сям'і. І «Наша гісторыя» вандруе са мной па ўсёй Еўропе**

Асабліва прыемна было сустрэць згадку пра майго земляка з Камянеччыны, заслужанага трэнера і чэмпіёна Беларусі па плаванні Георгія Мусевіча. Гэта ён у пачатку 2010-х ініцыяваў кананізацыю галіцка-валынскага князя Уладзіміра Васількавіча, якога ў гідзе называюць самым паспяховым кіраўніком Берасця за ўсю гісторыю.

Карыстаючыся нагодаю, дзякую «Нашай гісторыі» за выдатны часопіс. Цяпер я не дома, працую дальнабойшчыкам, зарабляю грошы для сям'і. І часопіс вандруе са мной па ўсёй Еўропе. Праз «Нашу гісторыю» перадаю прывітанне ўсім добрым людзям. Цяжкі цяпер час. Але, як у нас кажуць, «правда завжди справдиться». Беларускі аналаг гэтага выразу — «Усё мінецца, а праўда застанецца».

**Аляксей (а па-нашаму Олэсій), Камянецкі раён**

Раскажыце нам пра вашу родавую вёску або дом, квартал у горадзе — для нашай рубрыкі **«Нацыянальная геаграфія»**.

У ёй ужо пісалі пра: Калоднае, Столінскі раён; Бершты, Шчучынскі раён; Чыжоўскія могілкі, Мінск; Унорыца, Рэчыцкі раён; Трашчычы, Карэліцкі раён; Мачуль, Столінскі раён.

## «Адзін брат у Парыжы, другі — у Краснаярскім краі. Абодва марылі пра вяртанне ў Жухаўцы»

Цудоўныя тэксты Паўліны Скурко ў «Нашай гісторыі» — асалода чытання! Апошні з іх, пра ўкраінскае Берасце (№ 12/2020), зацікавіў асабліва. Мае прабабуля і прадзед былі сябрамі «Просвіты» на Кобрыншчыне. Прабабулю звалі Сцепаніда Шокун, прадзеда — Дмытро Рафаловіч. Жылі яны ў Жухаўцах Кобрынскага раёна.

Буду вельмі ўдзячны вам за інфармацыю пра іх. На жаль, бабуля памерла, калі мне было 14. Яна апавядала аб прыналежнасці нашых продкаў да ўкраінскага руху, але я збольшага цікавіўся аповедамі пра вайну і злачынствы бальшавікоў. Цяпер я задаў бы ёй шмат іншых пытанняў.

Дадам, што браты Сцепаніды пацярпелі падчас вайны. Рыгор Шокун быў арыштаваны ў 1940-м і высланы ў Сібір. Вызваліўся адтуль з арміяй Андэрса, ваяваў супраць нацыстаў. Свой век дажываў у Парыжы, дзе ажаніўся. Нашчадкаў не

пакінуў. Памёр у 1950-х з-за праблем з сэрцам.

Аляксандр, ці, як называлі яго сваякі, Шура, быў настаўнікам падчас акупацыі. Школу спалілі партызаны. У 1944-м ён быў арыштаваны і высланы ў Краснаярскі край. Там ажаніўся. Цяпер там жывуць ягоныя нашчадкі. Памёр прыкладна ў 92 ці 93 гады. Яго збіў матацикліст.

Абодва браты марылі пра вяртанне на Радзіму. І не ўдалося вярнуцца.

**Руслан Кукраш, Менск**

## «Буду кожную літарку чытаць»

Прынеслі «Нашу гісторыю». Перадаю дзякуй тым, хто падпісаў мяне! Сядзела гартала, вельмі прыемна ўражаная: такія тэмы! Як падабрана! І пра архітэктуру, і пра Алену Кіш (з карцінкамі!), і пра аер (вельмі люблю яго пах) — буду кожную літарку чытаць.

**Ала Шарко, Валадарка**

## Не забывайма пра Казючыца

Уважліва прачытаў матэрыял, прысвечаны жыццю і творчасці Івана Мележа (№ 1/2021). Вялікі дзякуй! Але, кажучы пра «Людзей на балоце», добра было б успомніць і выдатнага акцёра, які ўвасобіў у кіно вобраз Васіля Дзятліка. Гэта Юрый Казючыц.

**Альгерд Корсак, Віцебск**



KP.BY

## Памылка ў часопісе: бабуля замест унучкі

У № 10/2020 «Нашай гісторыі» ў якасці ілюстрацыі да артыкула Яны Макоўскай «Бізнэс-геній XVIII стагоддзя», прысвечанага біяграфіі адной з найбольш яскравых на нашых землях жанчын той эпохі, Ганны з Сангушкаў Радзівіл (1676–1746), на с. 55 даецца партрэт жаночы партрэт, падпісаны «Партрэт Ганны з Нацыянальнага музея ў Варшаве. 1730-я». Пазначаная і крыніца, з якой узятае гэта фота, — Вікіпедыя.

Аднак спрактыкаванае вока кандыдата гістарычных навук, былой дырэктаркі Замкавага комплексу «Мір» Вольгі Папко пры першым поглядзе на гэта фота адзначыла неадпаведнасць адзення магнаткі той эпосе, у якой яна жыла. На самай справе магнаткі з ВКЛ апраналіся так на цэлае стагоддзе раней. І жанчына, выяўленая на партрэце, памерла тады, калі гераіня артыкула Яны Макоўскай яшчэ нават і не нарадзілася — у 1659 годзе. Гэтую дату, калі прыгледзецца, можна заўважыць нават у правым ніжнім куце партрэта.

Прычына прыкрай памылкі спачатку вікіпедыстаў, а пасля і нашай рэдакцыі тлумачыцца тым, што жанчыну з партрэта таксама звалі Ганнай, і ёй таксама ў жыцці давялося насіць абодва тыя ж самыя прозвішчы — Радзівіл і Сангушка. Адно што толькі, у адрозненне ад нашай гераіні, прозвішча Радзівіл партрэтная жанчына мела ў дзявоцтве, а Сангушкай стала пасля шлюбу. Не толькі Сангушкі выдавалі сваіх дачак за славутых князёў, бывала і наадварот.

Ганна Ізабела з партрэта нарадзілася ў 2-й палове 1610-х гадоў ў сям'і Яна Альбрэхта Радзівіла і ягонай жонкі, Лавініі Радзівіл з Карэцкіх. Яе дзед Альбрэхт, адзін з чатырох сыноў



славутага Мікалая Радзівіла Чорнага, у 1586-м атрымаў у сваё валоданне Клецкую ардынацыю, якая пасля перайшла ў спадчыну яго адзінаму сыну Яну Альбрэхту.

Пасля дасягнення паўналецця Ганну выдалі замуж за суражскага старасту Яна Уладзіслава Сангушку, з якім яна мела сына Гераніма. А той, у сваю чаргу, стаў бацькам «бізнэс-лэдзі» XVIII стагоддзя Ганны Радзівіл з Сангушкаў. Такім чынам, для ілюстрацыі артыкула быў памылкова выкарыстаны партрэт не яго сапраўднай гераіні, а ейнай бабулі. Той самай, далёкай сваячкай якой была Кацярына Радзівіл, якая нагледзела маладую сірату Ганну Сангушку ў якасці належнай шлюбнай партыі для свайго сына Караля Станіслава. Дзякуючы чаму і закруціўся ўвесь той сюжэт, пра які можна прачытаць у артыкуле.

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.

**Сакрэты збору мёду дзікіх пчол заўсёды перадаваліся ад бацькі да сына. Сёння ў Беларусі застаецца тры сотні такіх утаямнічаных, расказвае Іван Восіпаў, заснавальнік Брацтва босых бортнікаў.**

У бортнікаў была свая тэрміналогія і нават сваё пісьмо — «бортнае знамя». Усё гэта захавалася. А яшчэ ў сучаснага пакалення традыцыйных пчаляроў дадалася філасофія: жыццё ў гармоніі з лесам, з прыродай.

Традыцыйнае бортніцтва Палесся і Падляшша сёлета трапіла ў Спіс нематэрыяльнай спадчыны ЮНЕСКА.

### Выбар стойла

Бортнае дрэва даўней мела сваю назву. Яго называлі *стайліна*, *стойла*. Лясны хутар Стойлы ў Пружанскім раёне, дзе жыў народны скульптар Мікалай Тарасюк, мусіць, таксама атрымаў назву ад такіх дрэў. Дзікія пчолы сяліліся на высокіх старых дрэвах з дупламі.

З часам людзі прыдумалі выдзёўбваць борці для пчол, каб раі сядалі бліжэй да селішчаў. Дрэвы шукалі тоўстыя, кучаравыя, найлепш — сасну ці дуб, маглі быць ліпа і асіна, але толькі не елка. У елкі драўніна смалістая і колкая. Да таго ж у некаторых рэгіёнах Палесся елка лічыцца «святым дрэвам». Пчолам трэба, каб непадалёк была вада (ціць) і каб побач не было вялікага мурашніка, бо мурашы крадуць мёд.

На зацішным і сонечным боку на вышыні 4–15 м над зямлёй рабілі вузкую прастакутную адтуліну (*доўжня, века, лазейка*), праз якую высякалі пешняй камору борці. Доўжню закрывалі дубовым бруском і дадаткова прыкрывалі дубовай дошкай (*снет, снёт*). Побач са снетам свідравалі *ляток* — адтуліну для ўваходу і выхаду пчолаў.

### Падмятанне і тварэнне

Каляндар бортніка пачынаецца з вясны.

Ад сакавіка да Міколы Веснавога (22 мая, да пацяплення апошніх дзесяцігоддзяў пасля гэтага дня ў Беларусі звычайна былі немагчымыя замаразкі) належыць падрыхтаваць борці да сезону: зрабіць *падмятанне* і *тварэнне*. З усім рыштункам бортнік рушыць да свайго дрэва і найперш аглядае, ці лятаюць пчолы. Калі пчолы лятаюць і не бачна вялікіх пашкоджанняў, а самае важнае — бортнік адчувае, што турбаваць іх не варта, асноўная праца на тым і заканчваецца. Застаецца дагледзець мясціну вакол — і лепш так, каб пчолы цябе не заўважылі.

І толькі калі пчол не відаць, бортнік дастае прыхаваную побач з восені *астрову* і забіраецца на дрэва, на самы верх. Мацуе *лезіва*



**Бортнік на лезіве.** Гравюра XIX стагоддзя.



**Багун** (*Ledum palustre*) — балотная трава з выразным дурманным пахам, якая выкарыстоўваецца для адстрашвання паразітаў у хлявах і пчалярстве.

і спускаецца да борці. Тут перш стукае: можа, азавуцца? Калі ціха — належыць адчыніць снет і *доўжню* і паглядзець. Бывае, што толькі адкрыўшы борць, убачыш пчолак, у такім разе забярэш старыя соты, пачысціш смецце — і спускайся.

Пустую борць найперш чысцяць ад смецця, вымерлых пчол і латаюць дзіркі: шмат шкоды могуць нарабіць жаўна (чорны дзяцел) і куніца. І толькі пасля гэтага можна *тварыць* — ствараць прывабныя ўмовы, каб прыляцеў і пасяліўся рой. Для гэтага камору борці націраюць травой багуном, пакідаюць усярэдзіне пучкі багуну, а таксама *васкадавіны* і соты з мёдам. У снет утыркаюць кароткія галінкі багуну, крушыны, бярозы і вольхі, пакуль увесь ён не стане зялёным.

І для бортніка, і для лесу важна, каб у борці пасяліўся рой. Дзеля гэтага ўзнікалі абрады: першы мёд каштавалі канечне седзячы, «каб пчолы сядалі». Увесну, падчас тварэння, пад дрэвам рассцілаюць ручнік і кладуць на яго хлеб. Лес, людзей няма, але раптам хто набрыдзе, трэба быць гатовым пачаставаць яго хлебам і мёдам.

Пасля ўсіх веснавых работ бортнік толькі здалёк назіраў за дзікімі пчоламі, не трывожыў іх ▸



## Слоўнік бортніка

**Астрова** (астроў) — жэрдка з хвоі або дуба з недасечанымі галінамі, якія выкарыстоўвалі як прыступкі.

**Стойла, стайліна** — дрэва з борцю або калодай. **Блізняк** — дрэва на дзве борці. **Каралева** — на тры і болей борцяў.

**Борць** — натуральнае або штучнае дупло ў дрэве, прыдатнае для пчалінай сям'і, а таксама дрэва з такім дуплом.



**Васкадавіны** — вада, што засталася пасля выварвання пустых сотаў, з дадаваннем рэштkаў мёду.

**Доўжня** — прастакутная адтуліна ў ствале дрэва, праз якую бортнік падглядае пчол.

**Знамя, кляйно** — маёмасны знак бортніка, які ставіцца на бортным дрэве або рыштунку.

**Калода** — штучнае дупло ў кавалку ствала дрэва, уладкаванае для жыцця пчалінай сям'і.

**Лазбень** (лабзень, карабец) — ліпавы лубяны кораб з накрыўкай для мёду ў сотах, прастакутны, з закругленымі рэбрамі. Памеры каля 60×40×40 см, змяшчае каля 8 кг мёду. Увогуле посуд, у якім перахоўвалі ці перавозілі мёд, быў розны, і назва часта паказвала на аб'ём: калода (12 пудоў), лукно (10 пудоў), ліпаўка (40–50 кг), вядро (22 кг), лазбень, ручка, ліпечня (па 8 кг), гарнец (4 кг).

**Лезіва, або жэнь** — вяроўка даўжынёй 20–30 метраў з лавай, на якой бортнік мосціцца на дрэве каля калоды або борці.



Вяроўку плялі з палосак скуры лася або каровы, а таксама з пянькі. Кароткай вяроўкай з паўкруглым драўляным «каблуком» — **лежаёй** — абводзілі ствол дрэва.

**Пяшня** — долата на даўгой ручцы (**пяхоўе**), прылада для выдзёўбвання борці або каморы ў калодзе.

**Снет (снёт, сняток)** — дошчачка, якой прыкрываюць доўжню.

З такім «наборам» бортніка Іван Восіпаў ходзіць у лес.

без прычыны. Улетку, як і зімой, толькі выраблялі калоды на наступны год і выціскалі леташні воск.

Наступным разам бортнік падымаўся да пчол толькі ў канцы верасня — пачатку кастрычніка. Прычым калі рой сеў толькі сёлета, яго не чапаюць 2–3 гады. Для работы ж з вялікімі сем'ямі распальваюць дымар, напхаўшы яго трухлявай бярозай (парахном) або асобым грыбам, які расце на старых дрэвах. Ад дыму пчолы становяцца соннымі і меней кусаюць. Але злоўжываць ім нельга: калі пчолы надта агрэсіўныя, добры бортнік проста пакіне іх у спакоі.

Ужо адкрыўшы борць і падгледзеўшы пчол, бортнік надзявае капялюш з сеткай і адмярае, колькі мёду можна забраць, прыклаўшы далонь да верхняга краю доўжы: усё, што ніжэй, — ягонае. Увесь мёд забіраюць толькі ў тым выпадку, калі пчолы з нейкай прычыны кінулі вулей.

Здаралася так, што пчолы не назапасілі досыць мёду, і бортнік бачыў, што сям'я, найхутчэй, загіне ад голаду. Хоць гэта надзвычай сумна, у гэтым выпадку ён нічога не рабіў: філасофія бортніцтва забараняла ўмешвацца ў прыродныя парадкі. У прамысловым пчалярстве так не робяць — пчол у галодныя гады падкормліваюць.

## Закон і звычай

Ужо ў зборніку старажытнарускіх прававых нормаў «Руская праўда» (XI стагоддзе), прынятым пры Яраславе Мудрым, сыне Уладзіміра і Рагнеды, з'явіліся артыкулы, што рэгулявалі бортную дзейнасць: пра бортнае дрэва, пчалу, пакаранні. Напрыклад, калі б хто ўчыніў злачынства супраць пчол і бортніцтва, то мусіў бы плаціць штраф 12 грывень (сума, за якую можна было купіць 4 коней, 6 кароў, 24 пчаліныя сям'і).


Пчолкі на сотах.

Не абміналі пчалінага пытання і Статуты Вялікага Княства Літоўскага. У трэцім яго выданні (1588 года) бортніцтву прысвечана 7 артыкулаў з 488. За знішчэнне бортнага дрэва штраф тады складаў 600 грошаў, на якія можна было купіць вала і трох бараноў або 160 пудоў жыта.

### З народнай песні

— Святы Мікола, дзе ты бываў?
Дзе ты бываў, што ты чуваў?
— Па барах хадзіў, пчолы садзіў,
Пчолкі садзіў раістыя,
Раістыя, медзяністыя…

Але не горш за дзяржаўныя законы пчаляроў бараніла і звычаёвае права. З даўніх часоў лічылася, што пчала — Божая істота. Пакрыўдзіць яе, забіць — тое ж, што ўчыніць зло супраць чалавека: такі ўчынак адразу выключаў злодзея з грамады, ставіў на ім ганебную пячатку.

На Палессі, калі заставалі злодзея на дрэве, то прыбіралі яму астроў, па якім можна злезці. Скачы тады з вышыні — і тваё шчасце, калі нічога сабе не зломіш.

Часам са зладзеямі распраўляліся і больш жорстка. У дакументах зафіксаваныя і такія выпадкі: калі лавілі злоснага раскрадальніка мёду, у яго выцягвалі з пупа кішку і прычаплялі яе да дрэва.


ФОТА АЛЯКСАНДРА НІКІЦІНА
Іван Восіпаў выдзёўбвае борць. Лоеўскі раён.

## Мядовыя рэкі

У IX–XII стагоддзях асноўнымі таварамі вывазу з нашых земляў былі воск і мёд. Яны траплялі ў краіны Заходняй Еўропы і Міжземнамор’я. А «мядовы век» бортніцтва прыйшоўся на XIV–XVI стагоддзі. Толькі падумайце: прыбытковасць здабычы мёду і воску тады была ў 7–10 разоў большая за вываз лесу!

Так бортніцтва ў ВКЛ пераўтварылася ў галіну дзяржаўнай гаспадаркі. Пушчы сталі прадпрыемствамі. У 1507 і 1508 гадах праз 5 асноўных мытных камор было вывезена 66,1 тысячы тон мёду ў сотах. Нават падарожнікі адзначалі: па краі цякуць мядовыя рэкі. Толькі заселеных борцяў, мяркуюць яны, было больш за мільён. Для параўнання: сёння на пасеках Беларусі налічваюць 200 тысяч пчаліных раёў.

Нават на картушах старадаўніх картаў Вялікага Княства Літоўскага малююць мёд — і мядзведзяў, што на яго ласыя. Дарэчы, засцерагчы пчол ад мядзведзяў і іншых шкоднікаў: куніц, мышэй, жаўны, матылёў, мурашак — мусіў бортнік. Ад мядзведзяў у зямлю пад бортным дрэвам забівалі вострыя штыры, дубовыя або металічныя (*оспы*). Таксама ладзілі пасткі накшталт той, што паказана на карце Олаўса Магнуса 1539 года.

Мабыць, у гэты час для большай эфектыўнасці і распаўсюдзілася *калода* (іншыя назвы — корань, каранёк, каранік, даўбяк, наварацень): штучнае дупло ў кавалку ствала дрэва, якое чалавек сам вешае на патрэбную вышыню. Адрозніваюць два віды калодавых вуллёў: *стаяк* і *ляжак* (лежань). Першы ўсталёўваецца простастаўна, другі — паралельна альбо пад вуглом адносна паверхні зямлі. Звычайна калоды не большыя за 2 метры ў вышыню і не меншыя за 0,5 метра ў дыяметры.

## Злачынства і пакаранне

433 гады таму невядомыя падралі пчол каля сяла Бараўляны пад Мінскам. Адразу быў скліканы копны суд (суд, які разглядаў справы сялян ваколіцы) ва ўрочышчы Дубок, што па дарозе ў Прылепы (цяпер Смалявіцкі раён). Пасля працяглага следства ўсіх, хто спрычыніўся да злачынства, знайшлі. Усяго было 8 чалавек з ваколіцаў і самога Мінска. Прысуд быў надзвычай жорсткі: павесіць.




**Вулей-лежань.** Малюнак Язэпа Драздовіча.

Цяпер калоду ўсцягваюць на дрэва з дапамогай лябёдкі. А даўней выкарыстоўвалі спецыяльнае кола, да 2 метраў дыяметрам, са спіцамі і доўгай ступіцай, на якую намотвалі вяроўкі.

Борці і калоды, з пчоламі і без іх, сталі выкарыстоўвацца як каштоўны аб’ект абмену. Тры-чатыры борці з пчоламі можна было памяняць на каня або карову. Бортнае дрэва стала каштоўным падарункам і зайздросным складнікам пасагу. Але калі калода або дрэва з калодай нікому не было перададзена, а сам гаспадар памёр, то такую калоду, згодна са звычаёвым правам, нельга ўзяць на свае патрэбы, нават калі ў ёй

## Мядовы бунт

Бортніцтва было прыбытковай галіной гаспадаркі. Калі падатак на яго павялічваўся, сяляне бунтавалі. Найбольш драматычным было выступленне бортнікаў Слонімскага староства, вядомае пад назвай Мядовы бунт.

Калі ўладальніца гэтых земляў Ганна Сапега падняла падатак да 50% ад сабранага мёду, сяляне ўзброіліся цапамі і косамі дый выгналі княжацкага намесніка. Адміністрацыя староства высылала супраць паўстанцаў узброеныя атрады, аднак бунтаўнікі на працягу 20 гадоў (1700–1721) працягвалі змагацца за свае правы. Супраціў быў задушаны, толькі калі суд прыняў бок магнатаў.




**Карта шведскага картографа Олаўса Магнуса** *Carta Marina*. 1539 год.

пчолы і мёд. Ніхто не меў права іх даглядаць, чапаць. Урэшце пчолы злятаюць, а калода псуецца.

### Бортныя знакі

Паколькі бортныя дрэвы былі маёмасцю, іх трэба было пазначаць і аберагаць. Сёння гэта амаль забыта, а даўней выкарыстоўвалі сваё ўласнае пісьмо — бортнае знамя, або кляйно, — высякаючы яго на дрэве на ўзроўні вачэй або вышэй. Гэта былі засечкі сякерай або долатам у выглядзе кампазіцыі рысак, трохкутнікаў і іншых фігур.

Кляйно як знак прыналежнасці пэўнаму гаспадару ставілі на кожнае бортнае дрэва, а таксама на рыштунак бортніка: лезіва, лазбень і інш. Такія знакі станавіліся адмысловым уласным подпісам на важных дакументах і захаваліся ў судовых кнігах. А паколькі бортныя дрэвы перадаваліся ў спадчыну, то і знамёны пераходзілі ад бацькі да сыноў разам з імі. Старэйшы сын мог дадаць у бацькава знамя нейкі элемент або карыстацца ім як ёсць, а іншыя сыны павінны былі дапоўніць спадчынны знак. Знамёны вялікіх бортных радоў былі складанымі, але тым не менш бортнікі ведалі іх і маглі прачытаць.

Бортнае знамя таксама накладала пэўныя абавязкі на бортніка: прыбіраць смецце, падграбаць траву, высякаць хмызняк і заўсёды клапаціцца, каб дрэву раслося добра і ніхто яго не псаваў.

Бортнае знамя было на 500-гадовым дубе Мінтусе, што ў Гомельскай вобласці. Яшчэ адно знамя зафіксаванае на старой сасне на могілках у Вілейцы, а іншае, на калодзе, захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры ў Мінску.

Сёння бортнікі пазначаюць свае калоды просценькімі крыжыкамі,



ФОТА ІВАНА ВОСІПАВА



**Дубу Мінтусу з Гомельшчыны 500 гадоў.** На ім аддаўна жылі пчолы. Было на ім і бортнае знамя.

а на дрэве, якое нагледзелі пад борць, зачэсваюць кару. Іншы бортнік, убачыўшы такі знак, ведае, што дрэва занятае.

### Калі мёд перастаў карміць

Занепадала бортніцтва паступова.

Спачатку ад таго, што змяншалася плошча лясоў. Колькасць насельніцтва расла, чалавецтву патрабавалася болей драўніны, паташу, драўнянага вугалю, пасяўных плошчаў — і вось ужо высечаныя еўрапейскія лясы. У XVII стагоддзі апошнія сведчанні пра бортніцтва губляюцца на тэрыторыі сучаснай Германіі, у XVIII–XIX стагоддзях знікаюць апошнія носьбіты традыцый і практыкі бортніцтва на тэрыторыі Польшчы.

У XIX стагоддзі паўсюдна ў Еўропе (у тым ліку на Беларусі) пачалася прамысловая вытворчасць цукру (гл. пра гэта артыкул Андрэя Кіштымава «Як будаваліся і як гарэлі панскія цукраварні» ў № 1/2018 «Нашай гісторыі») — і гэта стала другім ударам па бортніцтве. Мёд перастаў быць асноўнай крыніцай салодкага, попыт на яго паменшаў.

Спрычыніліся да заняпаду бортніцтва і празмерна строгі ▶

кантроль за выкарыстаннем лесу, і неабгрунтавана высокія падаткі.

У 1920–1930-я гады лесам было пакрыта толькі 20% плошчы Беларусі (сёння — каля 40%). Далей — барацьба з прыватнай уласнасцю, ціск на гаспадароў, што маюць шмат калод. А пасля ўжо традыцыі не стала каму перадаваць: адбылася урбанізацыя, абязлюднелі вёскі.

А галоўнае, прыйшлі новыя тэхналогіі, якія дазвалялі атрымліваць больш мёду з меншымі выдаткамі часу. Пчаляры перайшлі на рамачныя вуллі, якія дазвалялі займацца пчалярствам пры сваіх сядзібах, мець пчол пад вокам.

Сёння ў Беларусі ў лясах стаіць каля 10 000 калод (частка з іх не мае гаспадароў і не абслугоўваецца ўжо на працягу больш як 20–30 гадоў), толькі 1500–2000 з іх заселены пчоламі. А борцяў — на парадак меней.

Бортніцкі промысел захаваўся ў асноўным у Гомельскай і Брэсцкай, а таксама Мінскай абласцях, а сямей, дзе яго сакрэты перадаюць ад бацькі да сына, і зусім мала.



**Каваль-бортнік з Дудзінкі**

Каваль Алесь Панцялейаднаўляе традыцыю бортніцтва ў Дудзінцы пад Барысавам. Ён усцягнуў калоду на разгалістую ліпу, што расце на ўзлеску.



## 300 бортнікаў

Людзі, якія практыкуюць бортны промысел, аб'яднаныя няпісанымі законамі і правамі. Сёння ў Беларусі не больш за 300 бортнікаў, якія захавалі прадзедаўскія падыходы і практыкі, абрады і прыкметы — увесь нематэрыяльны кантэкст.

Даўней лясному пчалярству вучылі змалку, праз дапамогу дарослым і назіранне за працай бортніка ў лесе. Адзін бортнік працаваць не можа, у яго павінны быць памочнікі ўнізе. Звычайна гэта хлопчыкі, якія паступова авалодваюць сакрэтамі вырабу калод, вучацца тапіць воск і сукаць свечкі, засвойваюць правілы паводзін у лесе, назіраюць за пчоламі і слухаюць аповеды старэйшых пра жывёл, птушак і насякомых, якія любяць мёд. Калі ўжо ўзрост бортніка не дазваляе ўзлезці на дрэва, ён саступае месца маладому пераемніку традыцыі і пачынае выконваць функцыі памочніка і настаўніка — так промысел перадаецца з пакалення ў пакаленне.

Навыкі вырабу прылад ці калод/борцей можна перадаць досыць хутка, а вось агульныя веды і традыцыі фарміруюцца дзесяцігоддзямі. Ты ўжываешся ў іх — або не ўжываешся. ◆



ФОТА ІВАНА ВОСІПАВА

**Васіль, спадчынны бортнік,** дастае сцельнік з мёдам з калоды і кладзе ў лазьбень. Лельчыцкі раён.

**Першы перапіс бортнікаў Беларусі —** сайт тут.





ФОТА ІВАНА ВОСІПАВА

**Жэнь, плеценая са скуры лася**: з дапамогай яе лазілі на дрэвы. Ёй больш за 100 гадоў. Лельчыцкі раён.



**Ахова ад мурашак**: абкораны камель змазваюць дзёгцем або садовым варам.



ФОТА ІВАНА ВОСІПАВА

Калі пчала агрэсіўная, актыўная і не баіцца ні дыму, ні бортніка — **то гэта лясная.**



**Бортная сасна (стойла)**, калода на вышыні 9 метраў, Лоеўскі раён.



**Іван Восіпаў выдзёўбвае борць**, Лоеўскі раён.



**Сям'я пад бортным дрэвам.**



**Рыштунак бортніка**: пешні, лязівы, калода, барты, цёслы, воск, скура для пляцення жэні-лязіва, лазбені, карабец, дымар, маска, нож-медарэз, свярдзёлы.

ФОТА ІВАНА ВОСІПАВА



**Традыцыйны «аброк» бортніка** падчас працы з пчоламі, Лельчыцкі раён.



**Святлейшы мёд — з верасу, а цямнейшы — з крушыны.**

**Каб адчуць дух Магілёва, абавязкова трэба спусціцца на Падміколле і дайсці да Мікольскага манастыра — шэдэўра непаўторнага архітэктурнага стылю, піша Алег Дзьячкоў.**

Калі ў Магілёве, у Верхнім горадзе, падысці да вала Георгія Каніскага і ад Ратушы паглядзець на панараму горада, то адкрыецца шырокая абалонь Дняпра са старажытнымі прадмесцямі. Адразу за абарончым валам вы пабачыце Падміколле. Назва паходзіць ад старажытнага Мікольскага праваслаўнага манастыра.

Яго архітэктуру не зблытаеш і не забудзеш: гэта такое смелае спалучэнне барока і старабеларускіх гатычных матываў.

### На грыве

300–400 гадоў таму Магілёў быў самым заможным пасля Вільні горадам Беларусі. Дняпроўскі гандаль рабіў яго багатым. Горад рос, на гары ўжо не змяшчаўся.

Падміколле пачало актыўна засяляцца ў пачатку XVI стагоддзя, калі сюды прыехала шмат жыхароў з розных мястэчак і асабліва з горада Смаленска. Вось як пра гэта паведамляецца ў Баркулабаўскім летапісе: «А тыя, што селі на слабадзе, на Грыўцы*, на беразе Кашчавага, каля Дзесяцціннае царквы, іх продкі са Смаленска, прышлыя смаляне: Гаўрыла Дрыстун, Іван Бяляй, Максім ды многія іншыя, а таксама Аўтушка Багаты — гэтыя ўсе са Смаленска прыйшлі».

* **Грывы** — доўгія ўзвышэнні, утвораныя наносамі ракі.

У XVI стагоддзі тут сфарміраваўся Пакроўскі пасад, які займаў тэрыторыю ад ручая Дзебра да правага берага Дняпра. Яго назва пайшла ад Пакроўскай царквы. У сваю чаргу пасад дзяліўся на некалькі «соцень»: Курдзянёўскую, Грыўлянскую, Пярэхрысцінскую, Слабадскую, Беражскую і Выганскую — па старых назвах урочышчаў, у якіх ставілі дамы (Выган, Бераг, Грыва, Слабада).

Вядомы ліст караля Жыгімонта I ад 1525 года, дадзены «смалянам Міхаілу і Івану з іх таварышамі і пасяліўшыміся каля Магілева на Грыўцы межы Стругі і Дняпра».

## «Гаўрыла Дрыстун, Іван Бяляй і Аўтушка Багаты — гэтыя ўсе са Смаленска прыйшлі»

Да пачатку XVII стагоддзя на Пакроўскім пасадзе было каля 400 прыватных пляцаў. Існавала шчыльная сетка вуліц: Падвальная (гэта значыць, тая, якая праходзіла пад абарончым валам), Пярэхрысцінская, Пакроўская, Мікольская, Стара-Чарнігаўская, Курдзянёўская, Касцерня і іншыя.

Тут жылі рамеснікі і купцы: дойліды, гарбары, піўвары, шаўцы. У XVIII–XIX стагоддзях на пасадзе жылі таксама Трубніцкія — летапісцы Магілёўскай хронікі.

Манастыр не стаяў у чыстым полі, як цяпер. Сёння, гледзячы на пустую роўнядзь вычышчанага экскаватарамі прадмесця, цяжка паверыць, што сотні гадоў тут, на цесных вуліцах багатага горада на ўскрайку Еўропы, віравала жыццё.

**З Верхняга горада да Падміколля**
пешкі лепш ісці або з плошчы Славы праз падземны пераход каля Дняпра, або лесвіцай з плошчы Арджанікідзэ. На машыне — спуск з плошчы Арджанікідзэ.

Пасад амаль цалкам знеслі немцы ў 1943–1944 гадах. Рыхтуючы горад да абароны супраць Чырвонай арміі, нямецкае камандаванне расчышчала сектары абстрэлу на подступах да горада. А пасля вайны Падміколле паступова ператварылася ў закінуты глухі гушчар.

Аж да 1960-х гадоў Дняпро штогод моцна разліваўся, і Падміколле моцна затаплялася ў паводку. З затопленых вуліц магілёўцы нікуды не высяляліся і жылі на гарышчах, а па вуліцах перасоўваліся на лодках. На пэўны час частка горада па вясне ператварылася ў Венецыю. Забалочаная тэрыторыя каля ракі называлася Балонне (г. зн. абалонь). Каб можна было праехаць да моста, праз Балонне пракладалася гаць. Калі вада спадала, жыхары на гэтай урадлівай зямлі садзілі агароды. Цяпер гэта санітарная зона водазабору гарводаканала.

Але было і такое ўзвышанае месца на пасадзе, так званая «грыва», якое не затаплялася ў час разліву. Менавіта на гэтым узвышэнні і быў пабудаваны манастыр.

### Праваслаўнае барока

Даўней-даўней Мікольская царква існавала ў Верхнім горадзе. Пры гэтым храме ►

▶ ў 1607 годзе нібыта вучыў дзяцей будучы прэтэндэнт у расійскія цары Лжэдзмітрый II.

У 1636 годзе кароль Уладзіслаў IV даў дазвол кіеўскаму мітрапаліту Пятру Магіле пабудаваць на Грыўлянскай сотні новую царкву Святога Мікалая з памяшканнем для манастыра. Ініцыятарам будаўніцтва былі «шляхціч Макавецкі» і магілёўскія братчыкі. Спачатку паўстала драўляная, а ў 1672 годзе — мураваная царква.

З цягам часу вакол яе вырас цэлы комплекс Свята-Мікольскага манастыра: дзве царквы, званіца і некалькі жылых і гаспадарчых будынкаў з мураванай агароджай і брамай. Пры манастыры дзейнічалі школа і шпіталь — так называлі прытулак для старых і нямоглых.

Свята-Мікольская царква — гэта ўнікальны помнік у стылі, які называюць «магілёўскім барока».


ФОТА АЛЕГА ДЗЬЯЧКОВА

**Чатырох'ярусны іканастас Мікольскай царквы** — шэдэўр беларускай «флемскай рэзі».

## Не забудзьцеся пра штаны і спадніцу

Мікольскі манастыр адкрыты для наведвання штодня з 9.00 да 20.00. Але нагадаем, што, як і ва ўсіх праваслаўных манастырах, жанчын пускаюць толькі ў доўгай спадніцы (нельга ў штанах) і хустцы. А мужчын — у штанах, а не ў шортах. Калі ў вас няма, то іх выдаюць на ўваходзе.

Яе франтоны надзвычай нагадваюць франтоны праваслаўнай гатычнай царквы-крэпасці ў Мураванцы Шчучынскага раёна — такая дзівосная пераемнасць між храмамі, якія раздзяляюць сотня гадоў і чатыры сотні кіламетраў. Рэч у тым, што раней храмы такога тыпу былі і на ўсходзе Беларусі. Але да нашых дзён праваслаўная готыка захавалася толькі ў Мураванцы і Сынкавічах Зэльвенскага раёна.

Мікольская царква — трохапсідная крыжова-купальная базіліка з васьмігранным светлавым барабанам. Над сяродкрыжжам знаходзіцца масіўны купал. Двухвежавы галоўны фасад падобны на іканастас: падзелены карнізамі на 3 гарызантальныя ярусы, якія аздобленыя аркатурай з ляпным раслінным арнаментам.

Нішы фасада цяпер упрыгожаны фрэскамі — яны сучасныя. У 1990-я палічылі, што нішы ствараліся для фрэсак.

## «Флемская», або «беларуская», разьба

разьба па дрэве з пазалотай, ажурнае перапляценне пышных раслінных парасткаў з гронкамі вінаграду. Назва паходзіць або ад нямецкага *flamme* (полымя), або ад слова «фламандскі».


ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

**Від на Мікольскі манастыр з Ратушы.** Да 1943 года манастыр стаяў сярод цеснага старасвецкага квартала.

Інтэр'ер двума радамі калон дзеліць прастору храма на тры нефы.

Аздоба святыні — чатырох'ярусны іканастас, зроблены ў XVII стагоддзі мясцовымі майстрамі ў тэхніцы беларускай аб'ёмнай рэзі з пазалотай, або «флемскай рэзі». Лепшага ўзору «флемскай рэзі» ў Беларусі няма.



Старажытныя фрэскавыя роспісы захаваліся толькі часткова ў алтарнай частцы і ў светлавым барабане. Самыя раннія роспісы



**Магілёўскае барока**

Першая царква ў такім стылі паўстала ў 1636 годзе ў Верхнім горадзе і называлася Богаяўленская — яе бяздумна знеслі ў 1950-х гадах. На магілёўскае барока, у адрозненне ад віленскага, большым быў уплыў праваслаўных эстэтычных традыцый.

**Гэты фрагмент фрэскі XVII стагоддзя** знайшлі проста на сметніку ў Падміколлі. Цяпер ён захоўваецца ў Музеі гісторыі Магілёва ў Ратушы.

адносяцца да другой паловы XVII стагоддзя — гэта кампазіцыя «Новазапаветная Тройца» і выявы евангелістаў на ветразях на скляпеннях купала. Штосьці з фрэсак — XVIII стагоддзя. У 1990-я і 2000-я рабіліся і сучасныя роспісы фасада і інтэр'ера.

## «Астатняе дакончылі смялейшыя гараджане самі»

У час Паўночнай вайны ў 1708 годзе па загадзе цара Пятра I Магілёў быў спалены, моцна дасталася і Мікольскаму манастыру. Што не расцягнулі салдаты Пятра, да таго прыклалі руку тутэйшыя «неабыякавыя грамадзяне». Вось як пра гэтыя падзеі паведамляе магілёўскі летапісец: «Калі калмыкі адбілі царкву Святога Міколы і павыцягвалі куфры, то некаторыя з-за агню ад'ехалі прэч, а астатняе дакончылі смялейшыя гараджане самі. Нават мікольскія папы і дзякі тады добра ўзбагаціліся... У царкве Святога Міколы пагарэлі таксама аздобныя і прыгожыя купалы. У самой царкве пагарэлі ўсе хоры і дзверы, зачаліся былі гарэць і лаўкі, але людзі лаўкі паразбіралі і алтар абаранілі. У званоў пагарэлі калодкі, а большы звон, калі падаў на акно, стукнуўся аб поручні і моцна ад гэтага падзення зверху патрэскаўся».

У XVIII і XIX стагоддзях манастыр паднаўлялі ▸

▶ і дабудоўвалі. Так, у 1798 годзе паўстала «цёплая» царква ў гонар Святога Ануфрыя ў стылі класіцызму.

А ў XX стагоддзі для манастыра пачаліся цяжкія часы. У 1922 годзе былі канфіскаваныя ўсе рэлігійныя атрыбуты, зробленыя з золата і срэбра. А ў 1930-м са званіцы знялі ўсе званы.

Потым манастыр зачынілі, а яго будынкі былі прыстасаваныя пад турму НКВД. Пасля вайны тут размясцілася кніжная база. У 1954–1955 гадах унікальныя фрэскі Мікольскай царквы былі замазаныя і атынкаваныя. Але ўжо ў 1972–1978 гадах пэўную частку фрэсак адкрылі беларускія рэстаўратары.

Манастыр быў вернуты вернікам толькі ў 1989 годзе.

Цяпер у манастыры — 17 паслушніц на чале з ігуменняй Еўфрасінняй.



**Пакроўскую царкву** адбудоўваюць на месцы яе падмуркаў.

ФОТА АЛЕГА ДЗЬЯЧКОВА

Чаму ж такі ўнікальны помнік архітэктуры не ў спісе ЮНЕСКА? Гэта няпростая справа. Сучасны стан Мікольскай царквы не зусім адпавядае выгляду XVII стагоддзя. Каб трапіць у спіс ЮНЕСКА, трэба аднавіць аўтэнтычныя фрэскавыя роспісы і першапачатковы выгляд галоўнага фасада.



З КНІГІ «СВЯТО-НИКОЛЬСКИЙ ЖЕНСКИЙ МОНАСТЫРЬ Г. МОГИЛЁВА», 2011 ГОД

Пры рамонце Мікольскай царквы ў пачатку 1990-х тут знайшлі чалавечыя парэшткі. Паколькі ў манастыры была турма НКВД, то іх адразу палічылі ахвярамі савецкага рэжыму. Чарапы і косткі перазахавалі ў асобна пабудаванай капліцы каля царквы. Частку іх можна пабачыць цяпер пад шклом. **Аднак апошнія даследаванні навукоўцаў дазваляюць меркаваць, што частка парэшткаў належыць людзям, пахаваным у XVII–XVIII стагоддзях.**

## Пакроўская царква

Ад Мікольскага манастыра да Дняпра ішлі дзве вялікія вуліцы, Пакроўская і Мікольская. Яны вялі да Пакроўскай царквы і касцёла Святога Антонія.

Побач з Пакроўскай царквой была званіца Арханёла Міхаіла і Пакроўскі шпіталь, каля якога ў 1661 годзе пахавалі частку выразаных магілёўцамі маскоўскіх стральцоў.

Пакроўскую царкву знеслі ў 1950-х гадах, а на месцы яе падмуркаў узвялі рэзервуар для захоўвання вады для водаканала. Захаваліся, аднак, падмуркі званіцы, што дазволіла распачаць адбудову і званіцы, і царквы.

## Кляштары бернардзінцаў і марыявітак

Недалёка ад Пакроўскай царквы, на самым беразе Дняпра, каля параходнай прыстані, стаяў каталіцкі барочны кляштар бернардзінцаў і касцёл Святога Антонія.

### Што прачытаць

Больш пра магілёўскае барока і Магілёўскую школу дойлідства — у кнізе Тамары Габрусь «Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока» (Мінск, 2001).

У 1930-х кляштар перадалі НКВД пад майстэрні. Будынак згарэў летам 1941-га падчас абароны Магілёва і канчаткова быў знесены пасля вайны. Падмуркі касцёла захаваліся, і ў будучыні яго таксама можна будзе аднавіць проста на іх.

А вось каталіцкі кляштар марыявітак быў драўляны і да нашага часу не захаваўся.



З КАЛЕКЦЫІ АЛЕГА ДАВІДА ЛІСОЎСКАГА

**Вялікая сінагога на Школішчы была збудаваная ў тыповым стылі драўляных беларускіх сінагог.** Ні адна з вялікіх драўляных сінагог не захавалася. Можа быць, некалі іх адбудуюць?

## Сінагогу на Школішчы ў 1938-м разабралі на бярвёны для калодзежаў

**Школішча**

Паміж кляштарам бернардзінцаў і абарончым валам Верхняга горада жылі магілёўскія габрэі, а іх квартал называўся «Школішча», або «Жыдоўскае школішча» — таму што тут знаходзіўся хедар, габрэйская школа. Сапраўднай перлінай Школішча была драўляная сінагога XVII стагоддзя. У XVIII стагоддзі яе аздобіў мастак са Слуцка Хаім бен Іцхак Айзэк Сегал, па адной з версій — прадзед Марка Шагала.

У 1937 годзе яе зачынілі, а ў 1938-м разабралі на бярвёны для калодзежаў.

Захаваліся замалёўкі роспісаў гэтай сінагогі. Яны былі геніяльныя, проста плакаць хочацца ад таго, якія культурныя багацці Беларусь страціла.

Цяпер ад колішняга габрэйскага на Падміколлі засталася толькі невялікая аднапавярховая мураваная сінагога пачатку ▶



WIKIMEDIA COMMONS

**Від на храмы Падміколля** на малюнку Напалеона Орды. 1877 год.


ФОТА АЛЕГА ДЗЬЯЧКОВА

**Сінагога на вуліцы Вялікая Грамадзянская, 13** — адзіная, якая захавалася.

▶ XX стагоддзя на вуліцы Вялікай Грамадзянскай, 13.

Роспісы сінагогі са Школішча замаляваў Эль (Эліезер) Лісіцкі — вялікі авангардыст, заснавальнік супрэматызму. У 1916-м ён ездзіў па Беларусі, фіксуючы помнікі габрэйскай старажытнасці. Рэпрадукцыі роспісаў са Школішча ён апублікуе ў 1923-м у Берліне. Лісіцкі быў адным з заснавальнікаў «Култур-ліге» — суполкі, якая ставіла на мэце стварэнне «новага яўрэйскага мастацтва». Шматвекавую народную творчасць яўрэяў, выяўленую ў тым ліку ў такім шэдэўры, як роспіс Халоднай сінагогі ў Магілёве, ён лічыў доказам цывілізацыйнага права яўрэйскага народа на існаванне — ва ўмовах татальных тады антысемітызму і абвінавачванняў у паразітызме.

### Вялікая Грамадзянская

Вялікая Грамадзянская вуліца — галоўная вуліца Пакроўскага пасаду — праходзіць праз усё Падміколле і Школішча. Пры цары яна называлася Вялікая Мяшчанская, а ў часы Вялікага Княства — Пярэхрысцінская. У 1706 годзе менавіта па гэтай вуліцы пасля агляду свайго войска з *«великою ассистенциею офицеров Русских, Немецких и Польских панов»* праз Алейную браму ўязджаў у Магілёў маскоўскі цар Пётр I.

На гэтай вуліцы ў 1930-х гадах жылі краязнавец Даніла Васілеўскі і паэт Юрка Гаўрук, перакладчык Уільяма Шэкспіра на беларускую.


PYAG.GALLERY

**Роспісы сінагогі са Школішча замаляваў Эль (Эліезер) Лісіцкі** — вялікі авангардыст, заснавальнік супрэматызму. У 1916-м ён ездзіў па Беларусі, фіксуючы помнікі габрэйскай старажытнасці. Рэпрадукцыі роспісаў са Школішча ён апублікуе ў 1923-м у Берліне.

### «У зняважанай сінагозе Змітрок Бядуля расплакаўся наўзрыд»

Праз два гады мне давялося зноў прыехаць у Магілёў, але, спяшаючыся па знаёмай мне ўжо дарозе да сінагогі, я на яе месцы не ўбачыў нават падмурка. У 1938 годзе яе разабралі, а нібы скамянелыя ад старажытнасці і разам з тым без адзінай расколіны бярвёны выкарыстоўвалі для калодзежных зрубаў. Толькі ў мясцовым краязнаўчым музеі захавалася некалькі фотаздымкаў сінагогі, але не з яе знішчаным жывапісам, а таксама дакументальныя звесткі, што яна сапраўды была распісаная Шагалам.

Загінуў падчас бежанства Другой сусветнай вайны Змітрок Бядуля, пахаваны на могілках Уральска, гэтак далёкага ад дарагой яму Беларусі. І калі думаеш цяпер пра старадаўнюю сінагогу на магілёўскім Школішчы, дык заўсёды ўспамінаецца, як ён тады, у гэтай зняважанай святыні, наўзрыд заплакаў. А магчыма, гэта быў не плач, а сінагагальная малітва, якая нагадвае стогн, і слёзы беглі адна за адной па яго старэчай асобе.

*З успамінаў Юркі Віцьбіча*

**Avinu Malkeinu, «Ойча наш, наш Валадар» — габрэйская малітва, якая спяваецца ў «10 дзён пакаяння»**: ад Новага года да Ём-Кіпур, Суднага дня. Па к'юар-кодзе — у выкананні Шулема Лемера.




ФОТА АЛЕГА ДЗЬЯЧКОВА

Данядаўна вакол манастыра захоўваліся дзікія зараснікі. Трыста крокаў ад цэнтра горада — і ты правальваешся ў гушчары, побач пляж... **Цяпер усё гэта акультурылі, разбілі парк, такі рафінаваны: з вясельнымі лавачкамі, спартыўнымі трэнажорамі і авангардысцкімі скульптурамі.**

## «Шпаркі лось»

Дзе запамінальна паесці ў Магілёве? Напрыклад, у кавярні «Шпаркі лось» на Першамайскай, 22А. Суп «Сыты тата» тут каштуе 4,60, «Дранік-вежка» — 7,50, а гарачае «Ад пана Лявона» — 9,70.


TBM-MOVA.BY

**На вуліцы Вялікай Грамадзянскай нарадзіўся Геранім Філіповіч** — чалавек унікальнай захопленасці і адданасці роднаму гораду. Ён быў апошнім беларусам, які бачыў Крыж Еўфрасінні Полацкай.

На вуліцы Вялікай Грамадзянскай нарадзіўся Геранім Філіповіч — чалавек унікальнай захопленасці і адданасці роднаму гораду. Гэта ён адшукаў арыгінал Магілёўскай хронікі Трафіма Сурты і Трубніцкіх. А ранкам 13 ліпеня 1941 года ў якасці супрацоўніка Магілёўскага дзяржаўнага музея ён быў сведкам вывазу Крыжа Еўфрасінні Полацкай супрацоўнікамі Наркамата дзяржбяспекі СССР з памяшкання музея ўРасію. Здаецца, ён быў апошнім беларусам, які бачыў гэтую святыню.

Менавіта на Вялікай Грамадзянскай у жніўні 1956 года быў знойдзены вялікі скарб ▶

## Арыгінал Статута Вялікага Княства Літоўскага

можна пабачыць у Ратушы, у Музеі гісторыі Магілёва. Фаліянт у свой час выкупілі дзякуючы намаганням былога дырэктара музея Аляксея Бацюкова, з дапамогай тагачаснага студэнта Андрэя Радкова і навукоўца Змітра Яцкевіча. За вяртанне гэтай кнігі ў Беларусь яны былі прызнаныя «Асобамі 2012 года» па версіі «Нашай Нівы». Грошы на выкуп Статута ахвяравалі кампаніі *Apparition*, *Alpari* і тысячы людзей.

**Унікальнасць Статута з магілёўскай Ратушы яшчэ і ў тым, што на яго старонцы каля аднаго з артыкулаў рукой чалавека XVIII стагоддзя зроблена пазнака: «Беларускі».**


ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

**Круча.** З пляцоўкі перад Ратушай адкрываецца краявід, ад якога займае дух.

ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

з 3200 сярэбраных манет, схаваны, імаверна, у бурныя 1650–1660-я гады. На Падміколлі проста на зямлі часам знаходзяцца неймаверна каштоўныя рэчы. «Стукнеш пяткай — выпадзе пятак», — кажуць пра такія мясціны. Для «чорных капачоў» там заўсёды быў сапраўдны палігон...

Нават цяпер падчышчанае, рафінаванае Падміколле — гэта месца, дзе можна пра ўсё забыцца і пагрузіцца ў атмасферу пазачасавасці.

ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН



**«Пара!»** Паўстанне 1661 года, рэканструкцыя ў Музеі гісторыі Магілёва.

### Восем месцаў Магілёва, якія трэба абавязкова наведаць

- Панарама Дняпра з плошчы Славы
- Мікольскі манастыр
- Каталіцкі сабор Святога Станіслава
- Ратуша, Музей гісторыі Магілёва
- Мастацкі музей славутага пейзажыста Вітольда Бялыніцкага-Бірулі
- Помнік астраному на плошчы Зорак
- Дом саветаў, які будаваўся як Дом урада, калі ўзнік план пераносу сталіцы з Мінска ў Магілёў
- Буйніцкае поле, месца страшнай бітвы Другой сусветнай падчас абароны Магілёва; тут жа пахаваны Канстанцін Сіманаў

**Экскурсіі па Магілёве.**
Алег Дзьячкоў
+375 29 388 35 61




**Рэдакцыя «Нашай Нівы» ў Вільні.**
Фотаздымак пачатку XX стагоддзя.

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

# Грошы для «Нашай Нівы»

## За кошт чаго існавала легендарная «газета з рысункамі» ў пачатку XX стагоддзя?

**«Наша Ніва» выдавалася без перапынкаў 10 гадоў, з 1906 па 1915 год, пакуль немцы не акупавалі Вільню. «Наша Ніва» зрабіла так шмат для нацыянальнага развіцця, бо выходзіла стабільна. А стабільнасць тая залежала ад бесперапыннага фінансавага забеспячэння. За кошт чаго гэта ім удавалася, піша кандыдат гістарычных навук Андрусь Унучак.**

### ▸ 40 тысяч за 8 гадоў

У пачатку 1914 года Антон Луцкевіч зрабіў падлікі, з якіх вынікала, што за 8 гадоў выхаду газеты ў яе было ўкладзена агулам 40 тысяч рублёў.
У 1914 годзе на выданне «Нашай Нівы» планавалася выдаткаваць 4 тысячы рублёў. Акрамя таго, газета да таго часу займела «даччыныя» выданні з асобным бюджэтам. На інтэлектуальны альманах «Маладая Беларусь», які з 1912 года выходзіў у Пецярбургу, і на сельскагаспадарчы часопіс «Саха», што ў тым жа годзе пачаў выдавацца ў Менску клопатам рэдактара-выдаўца «Нашай Нівы» Аляксандра Уласава, меліся адпусціць па 1500 рублёў. Яшчэ тысячу — на свежазаснаваную менскую «Лучынку» для дзяцей, якая рэдагавалася паэткай Алаізай Пашкевіч (Цёткай).

### Бюджэт «Нашай Нівы»

4 тысячы рублёў на 1913 год фарміраваліся наступным чынам:

1. Друк 1 нумара каштаваў 23 рублі — значыць, 50 нумароў × 23 рублі = **1150 руб.**
2. Экспедыцыя (перасылка і распаўсюд газеты) — 50 нумароў × 14 руб. = **700 руб.**
3. Заробак галоўнага рэдактара, функцыі якога ў 1913 годзе фактычна выконваў Вацлаў Ластоўскі, а з сакавіка 1914-га стаў Ян Луцэвіч — Янка Купала — 12 месяцаў × 40 руб. = **480 руб.**
4. Заробак сакратара рэдакцыі Змітрака Бядулі (Самуіла Плаўніка) — 12 месяцаў × 30 руб. = **360 руб**.
5. Заробак тэхнічнага работніка рэдакцыі, у дакументах яго называюць «хлопец» — 12 месяцаў × 10 руб. = **120 руб.**
6. Арэнда памяшкання рэдакцыі — **200 руб.** на год.
7. «Святло, апал» — **100 руб.** на год.
8. Папера на 1 нумар каштавала 6 руб. — 50 нумароў × 6 руб. = **300 руб.**
9. «Дадаткі» да «Нашай Нівы», магчыма, «Беларускі каляндар», нейкія брашуры — **400 руб.** на год.
10. Дробныя выдаткі — **90 руб.** на год.

Сукупна — **3900 рублёў** на год. «Лішнія» 100 рублёў, відаць, патрэбныя былі ў якасці рэзерву на непрадбачаныя выдаткі.

## Даходы ад рэалізацыі газеты дазвалялі «Нашай Ніве» закрываць крыху больш за палову сваіх выдаткаў, астатняе трэба было недзе дабіраць

Пад дахам «Нашай Нівы» існавала і Беларускае выдавецкае таварыства — адзінае беларускае выдавецтва, якое плаціла аўтарам ганарары. Ягоны бюджэт у 1914 годзе складаўся з 5 тысяч рублёў.

Каб сарыентавацца, наколькі такія выдаткі былі вялікія, прывядзём для параўнання некаторыя цэны, якія існавалі ў рэгіёне ў пачатку мінулага стагоддзя. Напрыклад, у Віцебскай губерні ў 1908 годзе пуд жытняй мукі каштаваў 1 руб. 45 кап., пуд ялавічыны першага гатунку — 6 руб. 80 кап., курыца ў сярэднім каштавала 70 кап., а машыніст цягніка (вельмі высокааплатная праца) на Лібава-Роменскай чыгунцы зарабляў 1080 рублёў за год. З гэтага відаць, што выданне «першай беларускай газеты з рысункамі» было справай не таннай.
Але тагачасныя нашаніўцы, да іх гонару, змаглі не толькі выжыць, але і развівацца ды пашырацца.

Увогуле, у 1913–1914 гадах «Наша Ніва» перажывала найлепшы для сябе час у фінансавым плане. Цяжкасці першапачатковага перыяду былі пераадоленыя, а Першая сусветная вайна яшчэ не зруйнавала таго, што было напрацавана за папярэднія гады.

### «Трансакцыі» і гандаль

Больш за палову сваіх выдаткаў дазвалялі «Нашай Ніве» закрываць даходы ад продажу газеты. Так, у 1911 годзе газета мела 1017 падпісчыкаў, а гадавая падпіска каштавала 2 рублі 50 капеек. Пры найлепшым раскладзе, калі ўсе чытачы выпісвалі газету цэлы год, за год «Наша Ніва» атрымлівала такім чынам 2542 рублі 50 капеек.

За кошт чаго дабіралі рэшту неабходных сродкаў? Тут перадусім варта прыгадаць ролю старэйшага з братоў Луцкевічаў, Івана. Гэты надзвычай ідэйны і энергічны чалавек, пастаянна шукаючы грошы на беларускую справу і маючы камерцыйную жылку, увесь час займаўся самымі разнастайнымі справамі — як тады казалі, «трансакцыямі».

Цямячы ў юрыспрудэнцыі — у свой час вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта, — Іван часта дапамагаў памешчыкам вырашаць маёмасныя справы. Напрыклад, у 1909 годзе ён апекаваўся спадчынай маёнтка Ракуцёўшчына (у цяперашнім Маладзечанскім раёне) пасля смерці яго ўладальніцы Эміліі



**Іван Луцкевіч.**

Лычкоўскай. У архіўных дакументах фігуруе сума 1000 рублёў, якую ён дапамог праз суд атрымаць аднаму са спадкаемцаў, Вацлаву Лычкоўскаму. Ёсць таксама звесткі пра пасярэдніцтва Луцкевіча ў продажы абшарніцкіх маёнткаў, напрыклад, маёнтка графа Тышкевіча ў Мінскай губерні. Частка грошай, атрыманых у выніку гэтых «трансакцый», ішла на ганарар памочніку, а той пасля шмат выдаткоўваў на патрэбы «Нашай Нівы».

**Іван Луцкевіч быў чалавек і ідэйны, і энергічны. Маючы камерцыйную жылку, ён частку прыбыткаў ад сваіх «трансакцый» аддаваў на газету**

## Спецыяльнасць: зарабляць грошы

Пра надзвычайную ролю Івана Луцкевіча ў фінансаванні «Нашай Нівы» (і не толькі яе) у адмыслова прысвечанай яму пасмяротнай брашуры — Іван памёр ад сухотаў у польскім Закапаным 20 жніўня 1919 года — згадваў ягоны брат Антон:

«З пераездам Івана Луцкевіча ў Вільню сюды пераносіцца наагул цэнтр беларускага руху. Гэта вымагае вялікіх грошай, каторых беларускае грамадзянства не мае. І вось, да палітычнае і навуковае працы Івана Луцкевіча далучаецца новая спецыяльнасць: зарабляць грошы на ўтрыманне сябе і на ўтрыманне работы. Гэты палітык і вучоны археолаг прымушаны знаходзіць усё новыя і новыя спосабы заробку, беручы ўчасце ў фінансавых прадпрыемствах, прынімаючы пасрэдніцтва між заграніцай і краёвымі фірмамі, урэшце, калі гэтага вымагала нахальная патрэба, прадаючы з сваей багатай калекцыі старасвеччыны тыя рэчы, які не мелі вагі для Краю і для беларусаў. За яго грошы “Наша Ніва”, адным з ідэйных кіраўнікоў каторае ён быў праз увесь час яе існавання, выходзіла да апошніх дзён свайго жыцця.

Без яго помачы і чыннага ўчасця не абходзіцца ні адно беларускае ідэйнае прадпрыемства — ці то хор беларускі, ці то тэатральная дружына, ці Муз.-Драм. Кружок, у якім ён — член Ураду, ці то закладзенае з яго ж ініцыятывы выдавецтва, ці то падгатоўка выбараў у Дзяржаўную Думу. І на ўсё ён знаходзіў сілы і час: варочаючыся з падарожы з Пецярбурга, Варшавы, Львова, Кракава, ён пападаў на агітацыйны сход вучняў, адтуль — у холад і ў слоць кідаўся некуды ў глухую правінцыю ці то дзеля агітацыі, ці дзеля археалагічных доследаў, пападаў у поўнай знямозе і зусім хворы да маткі ў Менск, а праз дзень-два быў ізноў у дарозе, ганяючыся за нейкім антыкам ці за грашмі. Бывалі тыдні, калі з сямі дзён ён пяць праводзіў у вагоне».

*Антон Луцкевіч. Жыццё і праца Івана Луцкевіча.*

Іншая дзялянка, на якой шчыравалі Іван Луцкевіч і ягоныя таварышы ў пошуках грошай, быў перапродаж твораў мастацтва.

Вацлаў Іваноўскі, займаючыся гандлем карцінамі ў Пецярбургу, шукаў ацэншчыкаў і ліставаўся ў гэтай справе з Іванам Луцкевічам. Цікава, што сярод карцін, якія прадаваў Іваноўскі, былі нават дастаткова рэдкія палотны XVIII стагоддзя. Усе грошы ад іх продажу, як правіла, пераводзіліся ў Вільню. А сам Луцкевіч меў сувязі з аўкцыёнамі жывапісу ў Пецярбургу і Лондане і, відаць, быў заангажаваны ў гандаль карцінамі далёка за межамі Беларусі.

### Рэкламныя грошы

Пачынаючы з 1907 года пэўныя грошы «Нашай Ніве» пачала даваць і рэклама. Сярод тых, хто ідэйна падтрымліваў газету такім чынам, вылучаўся гандляр сельскагаспадарчымі машынамі, вялікі сімпатык беларускага руху, сябра Францішка Багушэвіча Зыгмунт Нагродскі, які часта ▶






**Паштоўка з архіва рэдакцыі «Нашай Нівы».** 1911 год.

даваў у газету абвесткі з рэкламай сваіх тавараў.

Пошукамі патэнцыйных рэкламадаўцаў займаліся ў асноўным самі нашаніўцы. Напрыклад, паэт Галляш Леўчык шукаў фірмы, згодныя даць рэкламныя аб’явы для газеты, у Варшаве, у якой стала жыў. 25 лістапада 1910 года ён пісаў у рэдакцыю, што знайшоў аб’явы ад 4-х фірмаў агульнай сумай на 56 рублёў. Акрамя гэтага, Леўчык быў актыўна задзейнічаны Іванам Луцкевічам для пошуку цікавых прадметаў даўніны. У сваіх лістах ён часта распавядаў старэйшаму Луцкевічу пра цікавыя знаходкі, не забываючыся пры гэтым даць сваю ацэнку іх культурнай і матэрыяльнай вартасці.




Але пры гэтым «Наша Ніва» імкнулася захоўваць сваё ідэйнае аблічча і ідэалагічную лінію нават у пытанні зместу рэкламы. Напрыклад, калі ў 1909 годзе ў газеце была размешчана рэклама супрацьзачаткавых сродкаў і гэта выклікала адмоўную рэакцыю многіх чытачоў і аўтараў, то рэдакцыя хутка адмовілася ад такой сумнеўнай па меркаваннях таго часу крыніцы фінансавання, нават нягледзячы на няпростае тады матэрыяльнае становішча.

## Ахвяраванні: малыя і вялікія

Асноўная маса чытачоў і падпісчыкаў «Нашай Нівы» была не вельмі заможнымі людзьмі. Але здараліся і выключэнні. І некаторыя багатыя людзі, па тых ці іншых прычынах зацікавіўшыся беларушчынай, пачыналі спрыяць ёй грашовымі ахвяраваннямі. Ёсць, напрыклад, звесткі, што «Нашу Ніву» фінансава падтрымлівалі вядомыя

### Магдалена Радзівіл

(1861–1945) паходзіла з багатага магнацкага роду Завішаў. Яна была дачкой археолага і этнографа Яна Завішы, буйнога землеўладальніка, асноўныя маёнткі якога знаходзіліся ў Ігуменскім павеце Мінскай губерні.

Першым мужам Магдалены быў польскі арыстакрат, граф Людвік Красінскі, а пасля яго смерці ў 1895 годзе яна ў 1906-м выйшла другі раз замуж за амаль на 20 гадоў за сябе маладзейшага Мікалая Радзівіла, пляменніка тагачаснага нясвіжскага ардыната Антонія Радзівіла. Пад прозвішчам другога мужа гэтая жанчына і ўвайшла ў гісторыю.

Як Магдалена, так і Мікалай Радзівіл з дзяцінства цікавіліся беларускай культурай і аказвалі ёй усялякую падтрымку. З польскай жа арыстакратыяй абое па розных прычынах моцна канфліктавалі.

У розны час Магдалена Радзівіл фінансава падтрымлівала выдавецтвы «Загляне сонца і ў наша аконца», Беларускае выдавецкае таварыства, каталіцкую газету «Беларус», беларускія рэлігійныя арганізацыі. Таксама яна закладала яшчэ ў часы Расійскай імперыі беларускія школы ў сваіх маёнтках. Акрамя беларускага руху, яна падтрымлівала таксама літоўскія культурніцкія праекты.

Памерла Магдалена Радзівіл у эміграцыі ў Швейцарыі, там жа была і пахаваная. У ліпені 2017 года яе прах быў вернуты ў Беларусь, а ў лютым 2018-га перапахаваны ў касцёле на Залатой Горцы ў Мінску.


БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

**Іван Луцкевіч і галоўны рэдактар «Нашай Нівы» Аляксандр Уласаў.** Фотаздымак пачатку XX стагоддзя.

«краёўцы» Раман Скірмунт і Эдвард Вайніловіч. Пры гэтым яны не абавязкова самі сябе ў той час лічылі беларусамі, але ідэйна спрыялі моўна-культурнай разнастайнасці былога Вялікага Княства Літоўскага, літоўска-беларускага краю (адгэтуль і назва «краёўцы»). Так, згаданы Вайніловіч, дасылаючы ў рэдакцыю 22 ліпеня 1911 года 10 рублёў, пісаў нашаніўцам: «Я не ўспульнік вашага кружка, але гатоў памагаць каждаму, хто шануе сваю веру і язык прэдкаў».

Можна меркаваць, што былі і іншыя перасылкі такога кшталту. Калі ж гаворка ішла пра буйнейшыя сумы, то яны, натуральна, перасылаліся не паштовымі пераводамі.

А падтрымка немалымі грашамі хоць не так часта, але бывала. У 1912 годзе на беларускую выдавецкую справу дала аж 20 тысяч рублёў княгіня Магдалена Радзівіл. Адносна падрабязнасцяў ахвяравання такой буйной сумы ёсць два меркаванні. Першае — Антона Луцкевіча, які пісаў, што княгіня зрабіла гэта пад уплывам Івана Луцкевіча. Той нібыта, карыстаючыся тым, што яе мужа, князя Мікалая Радзівіла, «не прымала польскае грамадзянства», пазнаёміўся з княгіняй і прышчапіў ёй беларускі патрыятызм.

Але Гаўрыла Царык, віленскі юрыст, які пэўны час быў давераная асобай Мікалая і Магдалены Радзівілаў, бачыў сітуацыю крыху інакш. Ён сцвярджаў, што заслуга ў тым, што Магдалена Радзівіл пачала цікавіцца беларускім рухам — ягоная. Больш за тое, нібыта менавіта Царыку яна і перадала той чэк на 20 тысяч рублёў, а ён у сваю чаргу перадаў яго лідарам беларускага руху падчас нарады ў рэдакцыі «Нашай Нівы».

Гэтыя дзве інтэрпрэтацыі, нягледзячы на супярэчнасць паміж сабою, не пакідаюць, аднак, сумневу, што ў 1912–1913 гадах фінансавае становішча газеты значна палепшала. Характэрна, што рэдакцыя «Нашай Нівы» ў канцы 1912 года магла сабе дазволіць запрасіць на штатную працу за заробак 25 рублёў у месяц жыхара Валожына Міхала Лотыша, які быў на той час актыўным распаўсюднікам выдання.

**Пераход «Нашай Нівы» на кірыліцу быў крокам ідэйным, матэрыяльны фактар ролі тут не іграў**

Акурат на той час прыпаў, дарэчы, і пераход газеты з выдання двума шрыфтамі (лацінскім і кірылічным) на адну кірыліцу. А паколькі гэта адбылося ў час найбольшай фінансавай забяспечанасці беларускага тыднёвіка, то выглядае, што матывавалі рэдакцыю на такія дзеянні зусім не меркаванні ашчаднасці, як часта лічыцца. Пераход газеты на выданне толькі кірыліцай быў крокам ідэйным, каб аб'яднаць грамадства. ◆

ЛЕПШЫ СЯБР ЖЫВАТА
ВІНО СЭН-РАФАЭЛЬ
Праўдзівае толькі з гэтым кляймом

Сімвал Брусэля — Atomium.

WIKIMEDIA COMMONS

# Бельгія
# краіна па інтарэсах

**Я жыву ў Бельгіі вось ужо 10 гадоў, і на маёй памяці тут ужо два разы краіна па паўтара года жыла без урада. І пры гэтым усё нармальна функцыянавала, так што адсутнасць яго была не асабліва заўважнай. Цягнікі ходзяць, суддзі судзяць, настаўнікі вучаць. Як жа збудаваная гэтая краіна, што яна развіваецца незалежна ад урада? Піша Маргарыта Тарайкевіч, беларуска, якая жыве ў Бельгіі.**

А яшчэ нам, беларусам, цікава, як арганізаванае бельгійскае двухмоўе. Ці ёсць у краіне моўныя канфлікты. Калі няма, то чаму?

І раскажу, дзе пабываць, што пабачыць у Бельгіі. Тут музеі з раскошным мастацтвам, самыя разнастайныя ў свеце — не перабольшваю — піва і шакалад, тут ёсць горы для паходаў і нават мора, праўда, халоднае. І ўсё гэта на тэрыторыі, меншай чым Брэсцкая вобласць, але насычанай любоўю да сваёй працы, зямлі, мінулага, і дзе максімальная свабода — свабода палітычнай канкурэнцыі, прадпрымальніцтва, прыватнага жыцця — стварыла максімальна багатае і стабільнае грамадства.

## Усё складана (але дэмакратычна)

Бельгія як дзяржава — складаны палітычны арганізм, больш складаны, чым Еўрасаюз. Тут працуе аж шэсць парламентаў. І менавіта гэтыя структуры ніжэйшага ўзроўню забяспечваюць бяззбойнае функцыянаванне дзяржаўных інстытутаў.

Бельгія — гэта федэрацыя. Прычым яе часам называюць двайной федэрацыяй, бо складаецца яна не толькі з трох аўтаномных рэгіёнаў (Валонія на поўдні, Фландрыя на поўначы і Брусэль у цэнтры), але і з трох моўных супольнасцяў: франкамоўнай, нідэрландскамоўнай і нямецкамоўнай.

Межы моўных супольнасцяў не зусім супадаюць з рэгіёнамі. Брусэль двухмоўны, у ім роўныя правы маюць французская і нідэрландская

мовы. Французскай мовы ў Брусэлі больш, але ёсць і гістарычна нідэрландскамоўныя муніцыпалітэты, і нават частка транспарту — ва ўласнасці нідэрландскамоўнай Фландрыі. Квіток на брусэльскі аўтобус не дзейнічае на фламандскі ці валонскі аўтобус, але падыходзіць на брусэльскі трамвай ці метро. А вось квіток на фламандскі аўтобус заадно падыходзіць і на ўсе трамваі Фландрыі, у тым ліку на самую доўгую ў свеце трамвайную лінію, якая праходзіць уздоўж усяго ўзбярэжжа.

Есць і некалькі нямецкамоўных муніцыпалітэтаў — Эйпен і Мальмедзі. Хтосьці памятае гэтыя назвы з гісторыі Першай і Другой сусветных войнаў — яны на ўсходзе краіны, на мяжы з Германіяй. Хоць нямецкамоўных у Бельгіі толькі адзін працэнт, нямецкая мае статус трэцяй дзяржаўнай мовы ў гэтых раёнах. Калі б у Беларусі моўнае заканадаўства было як у Бельгіі, то мы, магчыма, мелі б некалькі раёнаў, дзе польская і ўкраінская мовы мелі б правы, роўныя з беларускай і рускай.

## Бельгія — штучнае ўтварэнне?

Ніякай Бельгіі да 1830 года не існавала. А да 1790 года не было і ніякіх бельгійцаў. Не ў тым сэнсе, што там зямля ляжала пусткай — не, тут ужо пару стагоддзяў як была самая багатая частка Еўропы. Проста спачатку ўзнікла дзяржава, і толькі пасля яна і яе жыхары атрымалі імя.

Ва ўзнікненні гэтай дзяржавы вялікую ролю адыграла рэлігія. У Бельгію аб'ядналіся людзі, якія гаварылі на розных мовах, але якіх яднаў каталіцызм і, па апазіцыі, непрыналежнасць да суседніх вялікіх дзяржаў у мінулым.



WIKIMEDIA COMMONS

**«Прыбярэжны трамвай»** злучае ўсе населеныя пункты ўзбярэжжа Фландрыі. Гэта найдаўжэйшая трамвайная лінія планеты.

Гэтая дзяржава не ўзнікла б, калі б не імпульс да перамен у выніку Вялікай Французскай рэвалюцыі, не той рэвалюцыйны запал, які тады разліўся з Парыжа.

Але парадаксальна, што ў той жа час да ўтварэння Бельгіі падштурхнула нежаданне перамен, непрыманне Асветніцтва, кансерватыўная рэакцыя.

І магчыма, што ніякай Бельгіі не ўзнікла б, яна б стала ўрэшце часткай або Нідэрландаў, або Францыі, або яе тэрыторыя была б падзеленая між гэтымі дзяржавамі і Германіяй, калі б не геапалітыка. Брытанія — вось хто стаў павітухай пры нараджэнні Бельгіі.

Але ж Бельгіі не прыдумалі б, калі б не мясцовыя традыцыі самакіравання і не самаахвярны грамадзянскі актывізм мясцовай буржуазіі.

Багатая сённяшняя Бельгія — прадукт шматлікіх паўстанняў і рэвалюцый. «У барацьбе здабудзеш ты правы свае» — гэта пра сучасныя еўрапейскія дзяржавы, многія з якіх нараджаліся ў пакутах.

## Што за бельгі?

«Бельгі» — гэта была такая канфедэрацыя гальскіх і германскіх плямён часоў Рымскай імперыі. Магчыма, слова пайшло ад ніжнегерманскага слова «раўсці», «раздзімацца ад гневу».

Калі ў 1789 годзе адбылася так званая Брабанцкая рэвалюцыя, паўстанцы сталі шукаць назву для сваёй новай дзяржавы. Рэвалюцыя была скіраваная ▶



WIKIMEDIA COMMONS

**Бельгійская рэвалюцыя 1830 года пачалася ў тэатры.** Падчас оперы «Нямая з Портычы» Даніэля Обэра, калі прагучала арыя «Святая любоў да Радзімы», народ кінуўся на вуліцу, дзе гэтага моманту чакалі іншыя групы рэвалюцыянераў.

▶ супраць аўстрыйскага кіравання. Таму ранейшая назва «Аўстрыйскія Нідэрланды» ніяк не пасавала. Не пасаваў і варыянт «Паўднёвыя Нідэрланды», бо ўсе гэтыя тэрыторыі былі аплотам каталіцызму, а Нідэрланды ўжо існавалі, і гэта была пратэстанцкая дзяржава. Старыя назвы асобных мясцовых правінцый — Брабант, Лімбург, Льеж, Фландрыя — не пасавалі для іх аб'яднання.

Гэта была эпоха рамантызму — і паўстанцы звярнуліся да антычных узораў. Успомнілі пра тых «бельгаў». Так упершыню ўзніклі «Злучаныя Штаты Бельгаў». Гэтае аб'яднанне пратрымалася ўсяго 11 месяцаў — са студзеня да снежня 1790 года. Аднак гэтага кароткага часу аказалася дастаткова для ўзнікнення ўзору. І калі ў 1830 годзе жыхары каталіцкіх правінцый між Антверпенам і Люксембургам ізноў паўстануць — гэтым разам супраць новага гаспадара, Нідэрландаў, і гэтым разам паспяхова, — менавіта «Бельгія» стане назвай новай дзяржавы, якую ўдасца стварыць, гуляючы на супярэчнасцях навакольных вялікіх дзяржаў.

У 1830-м нараджэнню Бельгіі паспрыяла канкурэнцыя вялікіх дзяржаў. Жыхары будучай краіны, каталікі, узняліся супраць нідэрландскай пратэстанцкай манархіі. Натуральным вынікам магло быць далучэнне да каталіцкай Францыі, але яшчэ свежай была памяць пра Напалеона; Брытанія, і не толькі Брытанія, баялася ўзмацнення Францыі. Аднак і Нідэрланды былі брытанцам канкурэнтам.

Нідэрланды раздушылі паўстанне каталікоў, але нідэрландцаў таксама лёгка адкінула французская армія. У выніку ж тэрыторыі не дасталіся ні тым, ні другім. З дапамогай брытанцаў міжнароднае прызнанне атрымала новая дзяржава — Бельгія. Такі кампраміс задаволіў і Парыж, і Гаагу (хоць афіцыйна сталіца Нідэрландаў Амстэрдам, урад і парламент яшчэ з XVI стагоддзя маюць рэзідэнцыю ў Гаазе), і Берлін, і Вену, і Лондан. І, канечне, з'явіўся новы манарх: часы былі такія.

## Буржуазныя каштоўнасці

Што цікава, тое паўстанне 1790 года, калі ўпершыню прыдумалася назва «бельгійцы», было выступам рэакцыйным, за тое, каб «было як раней». Кансерватыўна-каталіцкія правінцыі былі незадаволеныя ліберальнымі рэформамі аўстрыйскага імператара Іосіфа II, якія ўспрымаліся як падрыў каталіцкіх устояў і «старыны» ў цэлым. Але ў той жа час частка вялікай «паўстанцкай кааліцыі» натхнялася антыманархічным духам Французскай рэвалюцыі. Яшчэ адна частка адчувала адзінства з Нідэрландскім каралеўствам. Менавіта ў гэтай суседняй дзяржаве групаваліся эмігранты — будучыя «бельгійцы» пасля паразы так званай «малой рэвалюцыі» 1787 года, якая папярэднічала больш паспяховаму паўстанню 1789–1790-га і татальнаму поспеху Бельгійскай рэвалюцыі 1830-га.

Гісторыя ідзе часам непрадказальным шляхам, і рэакцыя аказваецца магутнай ствральнай сілай.

Эканамічныя інтарэсы правінцый і іх вернасць каталіцызму ў XIX стагоддзі былі мацнейшай аб'яднаўчай сілай, чым мова. Бо моўна краіна дзялілася на дзве прыкладна роўныя паловы. Народныя масы поўначы гаварылі на нідэрландскіх, поўдня — на французскіх дыялектах. Але ў тыя часы мовы сялянства і беднаты палітычна мала што значылі. Эліты ж гаварылі па-французску ўсцяж будучай Бельгіі, гэта была мова прэстыжу і ўлады — так як у Беларусі ў XIX стагоддзі ёю былі спачатку польская, а пасля — руская.

Эканамічныя інтарэсы і супольныя каштоўнасці буржуазіі аказаліся важнейшыя за мовы і клятвы вернасці адной ці другой супердзяржаве.

Доля шчаслівага выпадку ва ўзнікненні Бельгіі была малая.



**Эпізод рэвалюцыі 1830 года** на карціне Гюстафа Ваперса.

Дзінан і яго цытадэль.




Гэтая дзяржава стала вынікам усвядомленых супольных інтарэсаў, эканамічных і духоўных, і паўстала дзякуючы самаадданаму дзеянню людзей, якія гаварылі на розных мовах, але былі аб'яднаныя гэтымі інтарэсамі.

### «Кіеўская Русь» Францыі

Але, канечне ж, гісторыя Бельгіі пачалася раней за яе афіцыйнае ўтварэнне.

Па-першае, тут была Рымская імперыя — і гэта настолькі бачна і адчуваецца, што некаторыя даўно дзеляць Еўропу не па мяжы былога «сацлагера» — што такое 40 гадоў на фоне тысячагоддзяў Еўропы, — а па тым, дзе была Рымская імперыя, а куды антычная культура была прышчэпленая ўжо пасля яе, імперыі, знікнення... Базілікі і акведукі, заканадаўства з каранямі ў рымскім праве, класічныя мовы — латынь і старажытнагрэчаская — у школах.

Па-другое, тут знаходзіцца «Кіеўская Русь» Францыі — горад Турнэ (па-фламандску Дорнік), дзе я жыву. То была першая сталіца Францыі пры каралю франкаў Хлодвігу ў канцы V — пачатку VI стагоддзя.

Французская культура аказвае на франкамоўную Валонію ўплыў, супастаўны з уплывам расійскай культуры на Беларусь. Памятаю, як я ішла па калідоры дома састарэлых, разносячы каву, падчас інаўгурацыі прэзідэнта Францыі Франсуа Аланда — і ў кожным пакоі тэлевізар яе паказваў.




Тонкі гумар бельгійцаў увасобіўся ў самай славутай скульптуры Брусэля — ***Manneken Pis*, маленькі сікун.**

Старыя бельгійцы ўсе дружна глядзяць інаўгурацыю прэзідэнта суседняй краіны! Ну а французы за такую ўвагу плацяць кпінамі з бельгійцаў як галоўных герояў французскіх анекдотаў.

Французская мова ў Бельгіі мае невялічкія адрозненні, асобныя словы-«бельгізмы». Па-французску 90 — «кятрё-вэн-діс», па-«бельгійску» — «нонант».

### Фламандцы і Тыль Уленшпігель

А культурная спадчына Бельгіі проста раскошная. Пітэр Брэйгель, Пітэр Паўль Рубенс, Тыль Уленшпігель — вы чулі гэтыя імёны.

Фламандская культура ўзбагаціла свет жывапісам Паўночнага Рэнесансу. Творамі Яна ван Эйка, Брэйгеля, Рубенса, сярэднявечнымі гарадскімі вежамі-званіцамі (белфартамі), з якіх кожную гадзіну гучыць мелодыя на карыльёнах... А таксама легендамі пра Тыля Уленшпігеля, асабліва дзякуючы мастацкаму афармленню гісторый у раман Шарля дэ Кастэра, у якім сярэднявечны жартаўнік змешчаны ў кантэкст эпохі іспанскага заваявання. ▸

▶ Трэба сказаць, аднак, што, хоць раман напісаны на французскай, персанаж вядомы ў Фландрыі, дзе выкарыстоўваецца ў ролі патрыятычнага сімвала, але ў Валоніі шмат хто яго і не ведае: там дамінуе чыста французская культура. Так што я люблю выхваляцца перад фламандцамі тым, што ў Беларусі ўсе ведаюць Тыля Уленшпігеля і ў Мінску нават ёсць балет пра яго, — а франкамоўным распавядаю, хто гэта такі. Гэта няблага ілюструе наяўны культурны падзел.


WIKIMEDIA COMMONS

**Пітэр Брэйгель-старэйшы. Вяселле на адкрытым паветры.** Гэты мастак, які працаваў у Брусэлі і Антверпене, з любоўю маляваў сялян — рэдкі выпадак у тыя стагоддзі.

## Застыласць і чорныя капелюшы

Культура стварае звычаі. У франкамоўных універсітэтах Брусэля ніводная пара не пачынаецца ў час. У нідэрландскамоўных ВНУ заняткі пачынаюцца хвіліна ў хвіліну, як у Германіі.

Але шмат ёсць і стэрэатыпаў. Імігрантаў на моўна-культурных курсах вучаць, што ў Фландрыі не прынята гуляць па вуліцах позна, таму што заўтра рана на працу. «Што за фігня!» — здзівілася моладзь з Антверпена, сталіцы Фландрыі, калі гэта пачула.

Калі казаць пра ўласна бельгійскую культуру, культуру перыяду, калі існавала дзяржава Бельгія, то абавязковы пункт — гэта мастак-сюррэаліст Рэнэ Магрыт (гэта ў якога на карцінах такая застыласць, блакітнае неба і чорныя капелюшы, у Брусэлі існуе асобны музей Магрыта і цудоўная калекцыя — у брусэльскім Каралеўскім музеі). Увогуле ў Бельгіі значная традыцыя сюррэалізму. А яшчэ — коміксы розных жанраў (ад Снусмумрыкаў да вельмі паэтычных коміксаў, не абавязкова дзіцячых), раманы Жоржа Сімянона пра камісара Мегрэ, песні Жака Брэля.


FORBES.COM

**Рэнэ Магрыт. «Сын чалавечы»** — адна з самых вядомых прац гэтага бельгійскага мастака-сюррэаліста. Тварчалавека бачны, але схаваны. Гэта наводзіць на розныя думкі і паралелі.

## Бульба фры!

А таксама традыцыя есці, асабліва ў чацвер, бульбу фры, нарэзаную даволі тоўста, са спецыфічнымі сасіскамі і абавязкова з маянэзам (памятаеце, як герой «Крымінальнага чытва» абураўся манерай есці бульбу з маянэзам? Дарма абураўся: гэта смачна).

Увечары ў пятніцу ідуць у бар і п’юць піва, якога тут найбольшая ў свеце колькасць

**Жак Брэль:** яго самая вядомая ў свеце песня *Ne me quitte pas* — «Не пакідай мяне»…





…Але ў яго ёсць і іншы шэдэўр: *Le plat pays*, ці *Mijn Vlakke Land* («Раўнінны край мой», бард спяваў яе і на французскай, і на нідэрландскай)».



гатункаў, частка якіх — манастырскія. Дарэчы, з'яўляецца ўсё больш гатункаў безалкагольнага піва, прычым такога ж смачнага — магчыма, гэта прыкметы таго, што людзі змяншаюць спажыванне алкаголю.

## Пыха і поспех

Валонія, дзе я цяпер жыву, гаворыць па-французску. І тут кепска з вывучэннем любых іншых моваў. Нідэрландскую тут вывучаюць, таму што гэта даволі патрэбна: Фландрыя багацейшая, там больш працы, і *без ведання абедзвюх дзяржаўных не трапіш на федэральную дзяржслужбу.* Але часта яе калі і вывучаюць, то з вялікай неахвотай. Больш за тое, абарыгены Валоніі схільныя пасміхацца з нідэрландскай мовы ў такіх самых да болю мне знаёмых выразах, у якіх некаторыя кпяць з беларускай: ой, ды каму патрэбная гэтая мова, яна такая непрыгожая, ды і ўсе фламандцы ўсё адно ведаюць французскую, куды ты з ёй паедзеш, лепей буду


DEPOSITPHOTOS.COM, BY MALGORZATA_KISTRYN

**Вітрына ў Брусэлі.** Меню ў прыморскіх дзяржавах такі адрозніваецца ад сухаземных.

вучыць англійскую… І добра было б, каб тыя, хто так кажа, хоць англійскую вучыў — але ж не, у Валоніі вялікая частка насельніцтва, асабліва старэйшае пакаленне, умее толькі і выключна па-французску.

А вось у Фландрыі з замежнымі мовамі добра. Валонцы маюць рацыю, калі кажуць, што ўсе фламандцы ведаюць французскую: ну, не ўсе, але каля таго. Звычайна фламандцы трохмоўныя: ведаюць нідэрландскую, французскую і англійскую. Калі ў Антверпене пытаюся нешта на сваёй ламанай нідэрландскай, то людзі прапануюць: можа, вам лепш на французскай ці англійскай? Фільмы англамоўныя ў Фландрыі глядзяць без перакладу, толькі з субцітрамі. Мой каханы — цалкам трохмоўны, плюс яшчэ няблага размаўляе па-нямецку, а размоўная і жаргонная англійская ў яго, дзякуючы фільмам, такая добрая, што я зайздрошчу, — тыповы фламандзец.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY FOTO-PIXEL.WEB.DE

**Кожнай марцы, віду піва адпавядаюць келіхі сваёй формы.** А з півам бельгійцы часта ядуць сыр.

## Багатыя сталі беднымі

Калі валонцы дрэнна ведаюць нідэрландскую, але хоць крыху спрабуюць на ёй размаўляць, фламандцы цешацца. Раздражняе іх іншае: упартае нежаданне іншых валонцаў вучыць іх мову. Таму калі ў Фландрыі звяртаюцца па-французску з машыны з бельгійскім нумарам, то перад вамі могуць зрабіць выгляд, што не разумеюць, хаця калі нумар машыны французскі, то міла адказваюць. Але калі хаця б паспрабаваць пачаць размову па-нідэрландску, то з ахвотай пераходзяць на французскую: каб задаволіць большасць фламандцаў, варта праявіць хоць мінімальную павагу да іхняй мовы.

Глядзіш на гэта, і не пакідае адчуванне, нібы раней Валонія была метраполіяй, а Фландрыя — калоніяй. Гэта не так. Проста доўгі час індустрыяльная Валонія, з яе шахтамі і тэкстыльнай вытворчасцю, была значна багацейшым рэгіёнам, чым аграрна-рыбацкая Фландрыя. Напэўна, калі мы маем больш рэсурсу, то мы ўвогуле, праз сваю чалавечую недасканаласць, схільныя сябе паводзіць як каланізатары — і гэта нам варта ўлічваць дзеля карэкцыі сваіх паводзінаў. ▶

Ідэальны парадак, да якога прывучаліся стагоддзямі. **Адзін з тэрміналаў порта Антверпена.**

ONTHEMOSWAY.EU

## Жывая палітыка

Так ці інакш, у канцы XX стагоддзя сітуацыя з рэсурсамі зрабілася адваротнай: Фландрыя разбагацела, да таго ж яна большая, там больш людзей і там ёсць марское ўзбярэжжа, а вось у Валоніі вугальныя шахты закрыліся, тэкстыль жа пераехаў у азіяцкія краіны. У Фландрыі стала больш грошай і працы, а ў Валоніі — беспрацоўя.

Беспрацоўе, праўда, тут згладжанае магутнай сістэмай сацыяльнай абароны, якая робіць наяўнасць працы фактарам больш прэстыжу, заможнасці, павагі і самапавагі, чым выжывання. На абароне сацыяльных гарантый стаяць моцныя сацыялістычныя партыі Фландрыі і Валоніі, за сацыялістаў асабліва масава галасуе Валонія, рэгіён шахцёраў і іншых пралетарыяў, якія памятаюць былы «дзікі» капіталізм і жахі эксплуатацыі ды лічаць, што барацьба ніколі не павінна спыняцца, а не тое капіталісты зноў усё заграбуць. Цяпер у традыцыйных сацыялістаў вялікую частку яе галасоў ад'ела радыкальна левая *PTB-PVDA (Parti du Travail de Belgique — Partij van de Arbeid van België*, Партыя працы Бельгіі; як і «зялёныя» *Groën-Ecolo*, левыя радыкалы не падзяліліся па рэгіёнах, а захоўваюць адзіную валонска-фламандска-брусэльскую структуру, тады як сацыялісты, лібералы і хрысціянскія дэмакраты ўтварылі асобныя партыі ў кожным рэгіёне).

А вось Фландрыя больш «правая», хоць і з выключэннямі кшталту адносна левага Гента з ягонай пралетарска-прафсаюзнай гісторыяй і ўсё большай папулярнасцю «зялёных».

**Бельгійскі шакалад стаў брэндам ад часу, калі краіна валодала калоніяй Конга.** Ён стаў важнай часткай эканомікі і культуры краіны. Строгія стандарты яго якасці былі ўведзеныя яшчэ ў 1894 годзе.


SUGARCUBEDCANDY.COM

## Незалежнікі правыя

Фламандскі сепаратызм традыцыйна «правы». Найбуйнейшыя незалежніцкія партыі — гэта ультраправая *Vlaams Belang* («Фламандскі інтарэс»), вядомая сваім еўраскептыцызмам і антыімігранцкай рыторыкай, і правыя лібералы з *N-VA* (*Nieuw-Vlaamse Alliantie,*

«Новы фламандскі альянс»). Трэба сказаць, слова «ліберал» у тутэйшым палітычным кантэксце азначае — той, хто за капітал, а не за сацыялку. У Валоніі найбуйнейшая партыя такіх лібералаў прыгожа называецца *MR* (*Mouvement Réformateur*, «Рэфарматарскі рух»). Рэфарматарства ў іх выражаецца ў імкненні эканоміць на сацыяльнай сферы, культуры і ахове здароўя.

Сваёй правай арыентацыяй фламандскі незалежніцкі рух адрозніваецца, да прыкладу, ад каталонскага. Але і тут усё мае сваю спецыфіку. Так, многія імігранты-мусульмане імкнуліся пераязджаць з Валоніі ў Фландрыю яшчэ і таму, што там заканадаўства больш ліберальнае і дазваляе працаваць у хіджабе.

Але, так ці інакш, я ганаруся тым, што жыву ў Валоніі, ганаруся тым, што гэта востраў здаровага сэнсу па сваёй палітычнай культуры. Яна, разам з мультыкультурным Брусэлем, ніколі не галасуе за правых папулістаў. Асабліва дзівосна гэта выглядае ў святле кантрасту з поўначчу Францыі, якая тут побач і вялікім працэнтам галасуе за Мары Лё Пэн. Шукала тлумачэнні гэтага феномена, але, як зразумела, ён і для спецыялістаў застаецца загадкавым. Уплыў гісторыі Бельгіі!


ФОТА МАРГАРЫТЫ ТАРАЙКЕВІЧ

Аўтарка, Маргарыта Тарайкевіч, у чырвонай шапцы — **на забастоўцы, арганізаванай сацыялістычным прафсаюзам**, да якога яна належыць.

### Доўгі шлях

Фландрыя ў пэўны гістарычны момант схілялася да французскай улады, а не да нідэрландскай па рэлігійнай прычыне: фламандцы збольшага былі каталікамі і не хацелі ўлады пратэстанцкай Галандыі.

## Валонцы, фламандцы і брусэльцы падзялілі ўсё, што толькі можна падзяліць

У выніку ад часу Бельгійскай рэвалюцыі 1830 года, дзякуючы якой і ўтварылася бельгійская дзяржава як мы яе разумеем цяпер, і да 1873 года французская была адзінай дзяржаўнай мовай краіны. Ды яшчэ і ў XX стагоддзі доўга заставалася мовай эліты. Падчас Першай сусветнай вайны салдаты-фламандцы часам не разумелі камандаў сваіх франкамоўных афіцэраў. Атрымаўшы дзяржаву, якая ім падабалася, — Бельгію, фламандцы пасля доўга і ўпарта змагаліся за свае моўныя правы.

Афіцыйны пераклад Канстытуцыі Бельгіі на нідэрландскую мову быў выдадзены толькі ў 1967 годзе, а напоўніцу ў афіцыйным ужытку французская і нідэрландская былі зраўнаваныя толькі ў 1980-м. А ў 1993-м Бельгія зрабілася федэрацыяй, з'явіўся падзел на тры ўжо згаданыя аўтаномныя рэгіёны.


ФОТА МАРГАРЫТЫ ТАРАЙКЕВІЧ

У Маргарыты Тарайкевіч ёсць захапленне. **Яна робіць выцінанкі і малюнкі і змяшчае іх у пустых вітрынах і проста на вуліцах горада**, у якім жыве.

Акрамя тэрыторыі, валонцы, фламандцы і брусэльцы падзялілі ўсё, што толькі можна падзяліць, часам на дзве часткі, часам на тры: пра транспарт ужо згадвала, дадам яшчэ службы занятасці, прафсаюзы. Як жартаваў фламандскі гумарыст пасля жаніцьбы наследнага прынца і яшчэ пры жыцці ўдавы былога караля Бадуэна I Фабіёлы (памерла ў 2014-м), «цяпер у нас тры каралевы, а што — лагічна, па адной на кожны рэгіён!» — таму што тут амаль усяго па адным на кожны рэгіён.

### Скажы, што ён галандзец

Ці зробіцца Фландрыя з цягам часу незалежнай? Усё, вядома, можа быць. Але пакуль што наданне аўтаноміі рэгіёнам і цяперашняе вырашэнне праблемы моўнай дыскрымінацыі ▶




**Традыцыйныя бельгійскія вафлі.**

▶ часткова вырашыла праблему. Да таго ж рэгіёны добра звязвае паміж сабой Брусэль, ад якога ніхто не хоча аддзяляцца, але ўсе хочуць сабе.

Большасць фламандцаў пакуль за захаванне Бельгіі.

## Ганебная старонка гісторыі Бельгіі — каланізацыя Конга

Конга (цяперашняя Дэмакратычная Рэспубліка Конга са сталіцай у горадзе Кіншаса, не блытаць з Рэспублікай Конга са сталіцай у Бразавілі, якая была французскай калоніяй) некалькі дзесяцігоддзяў лічылася асабістым уладаннем бельгійскага караля Леапольда II (правіў у 1865–1909 гадах). Кіншаса тады называлася Леапольдвілем. Багацці адтуль выпампоўваліся гіганцкія. Каб прымусіць афрыканцаў працаваць на плантацыях, іх забівалі тысячамі, іншыя гінулі ад еўрапейскіх хвароб, напрыклад грыпу, ад якіх тубыльцы не мелі імунітэту.

Цяпер у Бельгіі абмяркоўваецца пытанне пра дэмантаж помнікаў каралю Леапольду за яго ганебную ролю ў Конга.

Ідэя ж аб'яднання Фландрыі з Нідэрландамі часам гучыць, але яе рэалізацыя зусім малаверагодная: ва ўсялякім разе, каб раззлаваць фламандца, досыць сказаць яму, што ён галандзец. Да пачырванення твару ён будзе даказваць, што фламандцы вельмі ад галандцаў адрозніваюцца.

## Іх Вялікасці

Бельгійская манархія таксама застаецца папулярнай, кароль аб'ядноўвае дзве супольнасці ў адну дзяржаву.

На прасторах былога СССР я амаль ненавідзела манархістаў (якіх, як праваслаўная, часам сустракала), а ў Бельгіі сама зрабілася манархісткай. Гэта звязана з асобамі Іх Вялікасцяў караля Філіпа і каралевы Матыльды: гэта сімпатычныя людзі. Размаўляла неяк з шэф-кухарам рэстарана ў Брусэлі, куды кароль і каралева часам заходзяць. Кажа, што яны паводзяць сабе так натуральна




**У Бельгіі ідуць дыскусіі пра знос усіх помнікаў каралю Леапольду II** — каланізатару Афрыкі.




**Моўныя супольнасці Бельгіі.**

і проста, што калі не ведаеш, то можна і не здагадацца, што гэта манаршая пара. Кароль тут называецца не каралём Бельгіі, а каралём бельгійцаў.

## Ідэальнае двухмоўе

Часам бельгійскае двухмоўе прыводзяць як патэнцыйны прыклад для Беларусі. Але тут важна памятаць, што Фландрыя захоўвае вернасць сваёй роднай мове, а Валонія — сваёй, і менавіта свая мова рэгіёна атрымлівае дзяржаўную падтрымку.

Але тут ёсць месцы, дзе існуе амаль ідэальнае двухмоўе. Гэта некаторыя памежныя муніцыпалітэты, у якіх разам жывуць і валонцы, і фламандцы.

Некаторыя з двухмоўных муніцыпалітэтаў адносяцца да Валоніі (як Мускрон (*Mouscron*, па-нідэрландску *Mouscroen*), дзе я раней жыла), а некаторыя — да Фландрыі (як Ронсэ (*Ronse*, па-французску *Renaix*), у якім часта бываю). Там усё: шыльды, дакументы, каталогі ў магазінах — дублююцца на абедзвюх мовах, строга-строга.

## Феміністкая вышыўка

Дарэчы, ёсць і асобная валонская мова — дыялект французскай. Ёй, на жаль, пагражае выміранне: яе носьбітамі з'яўляюцца толькі каля 600 тысяч чалавек, хоць яшчэ ў пачатку XX стагоддзя на

Без піва ў Бельгіі не абыходзяцца ніякія святы: ні карнавалы, ні вяселлі, ні дні студэнта.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY ALE_MI

ёй размаўляла каля 90 працэнтаў насельніцтва Валоніі. Яна выцесненая літаратурнай французскай і не мае афіцыйнага статусу, хоць з 1990 года прызнаная мясцовай мовай. Будзеце ў Льежы, зайдзіце ў мясцовы рэгіянальны музей,

WIKIMEDIA COMMONS




**Вулічная шыльда ў Брусэлі.** Але шыльдамі тут не абмяжоўваюцца. Многія мясцовыя людзі рэальна шматмоўныя.

там усе надпісы дублююцца па-валонску.

Трэба сказаць, тут увогуле паважаюць мясцовую культуру і імкнуцца працягваць традыцыі. Прычым часам працяг традыцыі спалучаецца са смелым эксперыментаваннем. Так, напрыклад, традыцыя ткацтва ў тым жа Турнэ цяпер праяўляецца і ў канцэптуальным тэкстылі, а вышывання — у феміністкай вышыўцы.

## Дамы атэізму

Яшчэ цікавы момант — гэта як тут фінансуюцца рэлігійныя культы. Розныя цэрквы, у тым ліку наш праваслаўны прыход, а таксама мячэці і г. д., фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту, у залежнасці ад колькасці вернікаў у іх. Заробак ад дзяржавы атрымлівае і святар беларускай царквы з Антверпена Іван Майсейчык. А вось на рамонт храма і абсталяванне беларусы Антверпена ўжо складаюцца самі, расказвае ён.

«Гэтая практыка з'явілася пасля канфіскацыі маёмасці Каталіцкай царквы і заключэння канкардату, дзе агаворвалася "кампенсацыя" за гэтую канфіскацыю. Так, духавенства павінна атрымліваць заробак ад дзяржавы і дзяржава ж павінна даплачваць там, дзе ў парафіі не хапае сваіх сродкаў, напрыклад, на рамонт царквы. Потым гэтае права пашырылі і на іншыя канфесіі і дэнамінацыі (пратэстантаў, праваслаўных, мусульман). Аднак гэта толькі частка сродкаў, збольшага парафіі павінны ўтрымліваць сябе самі», — кажа Іван Майсейчык. ▶

Але асаблівым бельгійскім ноу-хау з'яўляецца тое, што па тым жа прынцыпе, што і цэрквы, фінансуюцца і «дамы атэізму» — ці, лепей перакласці, «дамы свецкасці». Дарэчы, у іх я часам зазіраю, там бываюць добрыя культурныя мерапрыемствы, але бывае і агрэсіўная прапаганда выцяснення рэлігіі з публічнай прасторы.

## З бельгійцаў смяюцца ўсе суседзі, але тут ледзь не ўсё арганізавана лепш, чым у суседніх краінах





СТАРОНКА АЙЦА ІВАНА МАЙСЕЙЧЫКА Ў ФЭЙСБУКУ

**Прыхаджане беларускай царквы ў Антверпене.**

Доля хрысціян у насельніцтве Бельгіі за апошнія 10 гадоў вырасла з 53 да 63%. Мусульман тут цяпер 7%. Атэістаў прыкладна 9% ад насельніцтва, а каля 20% людзей называюць сябе нерэлігійнымі або агностыкамі.

### Патрыятызм імігрантаў

Што яшчэ цікава ў культуры Бельгіі, дык гэта тое, што культуры грэкаў, італьянцаў, партугальцаў, розных афрыканскіх народаў, арабаў, вялікая колькасць прадстаўнікоў якіх не імігранты, а ўжо нарадзіліся тут, — даўно ёсць часткай Бельгіі і ствараюць яе багацце. Мультыкультуралізм — гэта адна з тых рэчаў, якія я моцна люблю ў Бельгіі.

Мараканцы з брусэльскага раёна Маленбек любяць Маленбек, і ў іхнім рэпе гучаць выразы кшталту «Брусэльскі канал цячэ па маіх венах». Я і сама моцна прывязалася да свайго Турнэ, што вы маглі ўжо заўважыць у гэтым тэксце, дый да Валоніі. Лакальны патрыятызм — з'ява тыповая для імігрантаў і іхніх нашчадкаў.

* * *

Вось так і жывём. З бельгійцаў смяюцца ўсе: і французы, і галандцы, але, на маю думку, тут ледзь не усё арганізавана лепш, чым у суседніх краінах, хоць і часам вельмі дзіўным чынам. Асаблівая краіна, з磨пленая па інтарэсах. ◆



CONTINENTHOP.COM

**У Генце цэлыя вуліцы аддадзеныя моладзі пад стрыт-арт —** яркі і анархічны.



DEPOSITPHOTOS.COM, BY JPCPROD

**Пра піва правіла: бярыце для соусу тое, якое вы любіце**

# Мідыі ў віне ці піве

Бельгія славіцца сваім півам, шакаладам, тут ядуць шмат бульбы фры з кілбаскамі тыпу нашых сялянскіх. Але ў гэтай прыморскай краіне шмат добрай, свежай рыбы і марскіх прадуктаў. Будзеце ў Бельгіі — ешце рыбнае.

У жніўні і верасні тут сезон мідый. Яны тут зусім недарагія, калі ў сезон! Іх свежымі насыпаюць у каструлю, заліваюць белым віном, дадаюць зеляніну і спецыі і тушаць на вялікім агні да раскрыцця, а потым ядуць з той жа смажанай бульбай і маянэзам ці іншым соусам.

А яшчэ больш, чым на белым віне, я люблю іх гатаваць на піве, змяшаным з вадой, дадаючы, акрамя цыбулі і зяляніны з сушанай агароднінай, прыправу кары.

Вось прыкладныя прапорцыі і прыправы на 2 кг жывых мідый:

- сталовая лыжка або дзве парэзанай зялёнай цыбулі з пятрушкай (калі няма, то проста цыбулі),
- палова бутэлькі піва,
- шклянка вады,
- ка́ры на смак.

Мідыі кідаюць у каструлю жывымі. Тое, што яны не дохлыя, відаць з таго, што яны закрытыя. Адкрытыя дзеля бяспекі лепей выкінуць, бо гэта значыць, што яны нежывыя.

Робяць вялікі агонь, закрываюць накрыўку. У працэсе некалькі разоў каструлю трасуць, каб кіпень раўнамерна трапляў на ўсе малюскі. Тое, што мідыі гатовыя, мы бачым па тым, што яны раскрыліся.

Пра піва правіла: бярыце для соусу тое, якое вы любіце.

# Жанчына са звышмоцнага фаянсу

# ЭМА ДАРВІН



**Эма Дарвін** праз год пасля вяселля. 1840 год. Партрэт Джорджа Рычманда.

WIKIMEDIA COMMONS

**Гісторыя кахання Чарльза Дарвіна і Эмы Вэджвуд была б самай звычайнай, калі б не адзін парадокс: яна — глыбока набожная жанчына , ён — тэолаг па адукацыі, які разбурыў ранейшыя догматы веры. Што трымала іх побач? Піша Святлана Воцінава.**

Яны маглі б ніколі не стаць мужам і жонкай: спачатку ён меў віды на іншую. Ды наўрад ці тая іншая цікавіла яго больш, чым жукі, якіх ён апантана збіраў для калекцыі, выкалупваючы з трухлявай кары, пераносячы з месца выпадковай знаходкі нават у роце, калі рук не хапала. Аднаго разу, атрымаўшы такім чынам апёк языка, ён вымушаны быў жука выплюнуць. А быў жа сапраўды рэдкі від...

### *La bella* Фані

У сваім юным узросце Чарльз быў з тых, каму старэйшае пакаленне звычайна сімпатызуе. Ад прыроды абаяльны, ветлівы ў абыходжанні, аматар пастраляць, ён валодаў яшчэ адной асаблівай якасцю — умеў сябраваць, не зважаючы на розніцу ва ўзросце. Да яго цягнуліся тыя, каму ён па гадах мог быць сынам ці нават унукам. Назіральнікаў уражвалі нязмушанасць і змястоўнасць размовы, якую Чарльз, малады шукальнік рэдкіх жукоў і выкапневых істот у вапнавых сланцах, вёў з прафесарам геалогіі Адамам Сэджвікам, або прафесарам батанікі Джонам Генсла, або хаця б з Джозам Вэджвудам, уладальнікам фаянсавай мануфактуры і родным дзядзькам, братам памерлай маці.

Адным з такіх старэйшых сяброў Чарльза быў гаспадар блізкай сядзібы Вудхаўс Уільям Оўэн. З першымі маразамі Чарльз прыязджаў да яго паляваць на фазанаў, а з першымі летнімі промнямі, калі паспявалі суніцы, — завітваў «папасвіцца». Так сунічныя забавы, поўныя гарэзы і цноты, называла Фані, дачка Оўэна. Містэр Уільям і Фані былі для юнага Дарвіна кумірамі ў літаральным сэнсе, а іх Вудхаўс вабіў да сябе як магніт.

**Чарльз Дарвін**
(1809–1882) — англійскі навуковец-натураліст і падарожнік. Выказаў і абгрунтаваў ідэю, што віды жывых арганізмаў паходзяць ад супольных продкаў і з часам эвалюцыянуюць. Асноўным механізмам эвалюцыі Дарвін лічыў натуральны адбор. Найбольш поўна выклаў свае погляды ў апублікаванай у 1859 годзе кнізе «Паходжанне відаў». Таксама ён аўтар прац «Змены жывёл і раслін у хатнім стане» (1868), «Паходжанне чалавека і палавы адбор» (1871), «Выражэнне эмоцый у жывёл і чалавека» (1872) і іншых.

«Калі я пачну згадваць Вудхаўс і *la bella* Фані, я не спынюся пісаць гэты ліст», — скардзіўся ён свайму сябру. *La bella* Фані — «самая прывабная, самая пухленькая і самая чароўная істота ва ўсім Шропшыры, ды нават ва ўсім Бірмінгеме», — апісваў сваю сяброўку, якая любіла не толькі «пасвіцца» з ім на сунічных палянах, але і абстаўляць яго ў карты. А як яна страляла! «Нават не ўскрыкнула, калі пляча



WALESONLINE.CO.UK

**Фані Оўэн.** Па спасылцы можна пачытаць яе лісты да Чарльза Дарвіна (па-англійску).





NATIONALGEOGRAPHIC.COM

**Чарльз Дарвін.** 1830-я гады. Партрэт Джорджа Рычманда.

атрымала аддачу!» — захоплена ўспамінаў Чарльз праз гады.

Зрэшты, Фані не была гэткім хлопцам у абліччы дзяўчыны. Любіла какетнічаць, мяняць строі, ездзіць з візітамі па суседзях, танцаваць на балях, а калі некуды не трапляла, то памірала ад цікаўнасці: хто ў што быў апрануты, хто што сказаў? Пытанні гэтыя без нічога ніякага адрасавала ў лістах сябру Чарльзу, свайму «дарагому Фарэйтару»*, падпісаўшыся: «Твая Пакаёўка»: «Мой дарагі Фарэйтар! Ты ж ведаеш, як я прагну вычарпальных ведаў пра загадкавыя здарэнні, і таму заклінаю цябе: прышлі мне падрабязнае апісанне ўсяго, што апошнім часам адбывалася паміж высакароднымі дамамі Лесу, Замка Асалоды і Дарвінавага Узгорка».

Лесам яны называлі, канечне ж, Вудхаўс. А Дарвінаў Узгорак — гэта Маўнт, сядзіба Дарвінаў.

* **Фарэйтар** — чалавек, які кіраваў экіпажам ці фаэтонам не з самога транспартнага сродку, а седзячы на адным з коней, што патрабавала большай спраўнасці.

Праўда ж, Фані Оўэн магла б стаць пісьменніцай?

Аднаго разу Чарльз прыслаў ёй засушанага матылька. Адшкадаваў ад сваёй калекцыі. Але ці гэта нешта значыла?..

**«Жаніцца — значыць мець дом, і сябра („у любым выпадку цікавей, чым з сабакам“), і дзяцей („калі Бог дасць“), і гукі жаночага шчабятання („для здароўя карысна“)»**

**Жаніцца? Ну не!**

Браць шлюб, у якім каханне атрымлівае лагічны працяг, у сямействе Дарвінаў было прынята не раней чым у трыццацігадовым узросце. Ды нават калі ўзрост ужо падбіраўся да вызначанай мяжы, Чарльз доўга ўзважваў. Жаніцца — значыць мець дом і некага, хто будзе пра яго клапаціцца, мець заўсёднага сябра, з якім будзе цікава («у любым выпадку цікавей, чым з сабакам»), і дзяцей («калі Бог дасць»), і абаяльныя гукі музыкі ды жаночага шчабятання («для здароўя карысна»). А не жаніцца — значыць мець свабоду ісці куды хочаш, рабіць што хочаш, камунікаваць з кім хочаш, не мець абавязку наведваць сваякоў і саступаць у кожнай дробязі, не мець клопату з дзецьмі і дадатковых расходаў... Такая вось дывергенцыя. ▶

Не, ён не збіраўся жаніцца, нават на Фані Оўэн. А яна? Ледзь не ў кожным сваім лісце Фані рабіла прыпіску: «Спалі гэта, як толькі прачытаеш». Сама яна з яго лістамі так і рабіла. Лічыла сваю перапіску з Чарльзам «непрыстойным» заняткам.

Аднак Дарвін захоўваў лісты ад яе ўсё жыццё.

## Місіс Бідалф

Не паспеў брыг-шлюп класу «Чэрокі» пад назваю «Бігль» з натуралістам па прозвішчы Дарвін на борце даплысці ад Дэвенпорта да Рыа-дэ-Жанэйра, як Фані Оўэн заручылася з нейкім містарам Бідалфам: «Бігль» пакінуў родны порт у канцы снежня 1831-га, заручыны адбыліся ў лютым. У сакавіку яна пісала яму сваім заўсёдным тонам: «Твае сёстры мне сказалі, што яны паведамілі табе пра тую жудасную і важную падзею, якая тут хутка адбудзецца. Лёс мой вырашаны...» Далей — пра тое, як яна ўпэўненая ў яго шчырым жаданні дабрабыту для яе і што яна не ведае нікога, хто быў бы больш рады яе шчасцю, чым ён. Што яна знаёмая з містарам Бідалфам даўно і лічыць яго сімпатычным. Што ўсё аддала б за тое, каб убачыцца з Чарльзам цяпер, пакуль яна яшчэ Оўэн, але гэта ніяк немагчыма...

Фані павянчалася з містарам Бідалфам у маі. У шлюбе ў іх нарадзіліся тры сыны і тры дачкі, але гэта быў нешчаслівы шлюб: яе дапякала радня мужа, да таго ж яна шмат хварэла.

## Не ведаў адзін толькі Чарльз

Яшчэ адным родным домам для Чарльза быў дом Вэджвудаў. Адзін дом ад другога аддзялялі ўсяго дваццаць міляў. Чарльз пачаў наведваць Мэр Хол яшчэ на руках у карміцелькі.

З усіх кузэнаў і кузін Вэджвудаў самай блізкай заўсёды была для яго трошкі старэйшая Эма. Вось каму Чарльз давяраў свае таямніцы, і не толькі ў дзіцячым узросце, але і тады, калі яны сталі падлеткамі. Хто яшчэ мог бы слухаць пра яго чарвякоў і лічынак?.. Фані Оўэн? Ну не...

Яму было добра з Эмай. Дзе б яны ні знаходзіліся — у Мэр Холе ці Маўнце, што б ні рабілі — плавалі на лодцы ці блукалі па ўзгорках, выпраўляліся на рыбу ці паляванне, — заўсёды яны адно аб адным клапаціліся. У Эмы быў прыгожы спакойны голас, і сама яна была спакойная і прыгожая. Яна заўсёды адчувала яго настрой, якім бы той ні быў. Умела яго «ідэнтыфікаваць» і нейкім адной толькі ёй уласцівым чуццём ведала, як у якіх выпадках сябе з ім павесці. А яшчэ яна вельмі добра іграла на фартэпіяна (вучылася ў Фрэдэрыка Шапэна!). А Чарльз вельмі любіў слухаць яе ігру.

Насамрэч усе ў абодвух сямействах — і Дарвіны, і Вэджвуды — заўсёды ведалі, што Чарльз і Эма створаныя адно для аднаго і будуць калі-небудзь мужам і жонкай. І Эма — ведала. Проста чакала, калі здагадаецца Чарльз. Яна была вельмі мудрай, нягледзячы на ўзрост, гэтая малодшая дачка дзядзечкі Джоза.



WIKIMEDIA COMMONS

**Мэр Хол.** Дом, у якім нарадзілася Эма.



WIKIMEDIA COMMONS

**«Бігль» на карціне Конрада Мартэнса «Вогненная Зямля».** 1833 год.

## Пачатак кар'еры «закончанага натураліста»

Дзядзечка Джоз быў для Чарльза не толькі родным дзядзькам (братам памерлай маці), але і найлепшым сябрам, не зважаючы на саракагадовую розніцу. Вялікі аматар батанікі, заснавальнік Каралеўскага таварыства кветкаводаў, ён меў прагрэсіўныя погляды,

падтрымліваў рэформы за права голасу для дробнай і сярэдняй буржуазіі і выступаў за адмену рабства.

Калі ў адзін дзень Чарльз атрымаў два самыя важныя ў яго жыцці лісты, якія перавернуць не толькі яго жыццё, ён не знайшоў паразумення з бацькам. Той абурыўся: «Натураліст?! І калі гэта ты ім зрабіўся? Ідыёцкая прыдумка! Гэта нашкодзіць тваёй рэпутацыі будучага святара! А табе не здаецца, што табе прапанавалі толькі таму, што ніхто больш не пагадзіўся?» І тады Чарльз сеў на свайго шэрага жарабка ды памчаў да старэйшага Вэджвуда. Той то ўсё зразумее!

Лісты былі ад прафесара Кембрыджскага ўніверсітэта Джона Генсла, даўняга знаёмага Чарльза, і члена вучонага савета ў Трыніці-каледжы Джорджа Пікака. Дзядзечка Джоз папрасіў малодшую дачку прачытаць іх уголас для ўсіх Вэджвудаў.

Эма чытала вельмі выразна. Чарльзу прапаноўвалі выправіцца ў якасці пазаштатнага натураліста на караблі, які мае мэтай вывучэнне па заданні брытанскага ўрада самага што ні ёсць поўдня Амерыкі — архіпелага Вогненная Зямля. Капітану Фіцрою патрэбен у гэтай доўгай вандроўцы не проста даследчык флоры і фаўны, але і прыемны кампаньён ды сапраўдны джэнтльмен. А прафесар Генсла пісаў, што няма яму чаго баяцца і за «кваліфікацыю»: ён — «закончаны натураліст» (што і было ўрэшце даказана ўсяму свету).

### Як змагацца за шчасце

Эма чытала лісты ў цішыні, ад якой словы, што ішлі з яе вуснаў, ажно звінелі. Адразу пасля прачытання кузэны і кузіны Вэджвуды кінуліся віншаваць Чарльза. Дзядзечка Джоз запрасіў адасобіцца ў кабінеце для сур'ёзнага абмеркавання.

Што б стала рабіць у такой сітуацыі дзяўчына, якая кахае?.. Плакаць у куточку ў хусцінку, імкнуцца расстроіць планы любой цаной або ставіць умовы? Эма пайшла ў кабінет за бацькам і Чарльзам, шэптам прыгаворваючы: «Табе трэба ехаць... Такі шанец... Ты заўсёды марыў быць натуралістам...»




**Посуд маркі *Wedgwood*, першая палова XIX стагоддзя. Тэхналогія вырабу асаблівага керамаграніту была распрацаваная дзедам Эмы, а бісквітны дэкор ствараўся па матывах выцінанак мастачкі Элізабэт Эптан, лэдзі Тэмплтаўн.**




## Сапраўднае каханне — заўсёды ахвяра

Яе таемнае каханне, яе мілы Чарльз можа пакінуць яе так надоўга (замест планаваных двух гадоў экспедыцыя працягнецца ажно пяць), а яна — радая: ён будзе шчаслівы! Сапраўднае каханне — заўсёды ахвяра.

Дзядзечка Джоз, адзіны, ад каго залежаў тады лёс пляменніка, цудоўна ведаючы пра пачуцці дачкі, сказаў, што ён... заўсёды верыў у бліскучую будучыню пляменніка.

Нікога Дарвін-старэйшы не паважаў так, як свайго швагра Вэджвуда, і таму лёс Чарльза вырашыўся канчаткова. Яго карабель расправіў ветразі і паплыў у бліскучую будучыню. А Эма засталася на беразе.

### Шчаслівая без спецыяльных умоў

Шлюб Эма і Чарльз узялі ў 1839 годзе. Ім было па 30 гадоў. Калі Эма першы раз паведаміла Чарльзу, што хутка ў іх народзіцца дзіця, ён адчуў сябе неверагодна шчаслівым і абяцаў клапаціцца пра яе ўсё жыццё. На гэта Эма адказала так, як магла адказаць толькі жанчына з роду Вэджвудаў: «Асабліва пра мяне клапаціцца не трэба. Я з пароды Вэджвудаў, наш фаянс не б'ецца». ▶







**Даўн Хаўс тады і цяпер.**

▶ Здаецца, сакрэт сямейнага шчасця варта шукаць недзе тут: побач з моцнай жанчынай мужчыну трэба быць чулым і клапатлівым, не зважаючы на яе моц, а больш нічога не трэба.

Эма мела шмат каштоўных для сямейнага жыцця якасцяў. Адна з іх — уменне быць шчаслівай без нейкіх спецыяльных умоў.

Яна была б шчаслівай у Кембрыджы і вяла б прыемны свецкі лад жыцця, калі б яе муж стаў універсітэцкім выкладчыкам, і роўна такое самае шчасце магла знайсці ў любым іншым месцы, нават і ў такой вясковай глухмені, як Даўн, дзе яны пасяліліся назаўсёды ў 1842 годзе, праз тры гады шлюбу. «Галоўнае для мяне — сям'я: мой муж, мае дзеці і наш дабрабыт, — гаварыла яна яму. — Я з табою шчаслівая і такой застануся. Нават калі табе захочацца перасяліцца на Вогненную Зямлю». «О, толькі не Тэрра дэль Фуэга!» — жахаўся Чарльз.

У гэтым доме Чарльз і Эма пражылі разам 40 гадоў, да самай смерці Чарльза ў красавіку 1882 года. «Я не баюся паміраць», — сказаў ён Эме. «Ты і не павінен баяцца», — адказала яна. Цяпер Эма ведала: яго душа вечная. Калі доктар закрыў яму вочы, яна ўсміхнулася.

## Яго вера

«Ты хочаш сказаць, што Бога не існуе?» — спытала Эма Чарльза, калі сэнс яго дзейнасці стаў для яе відавочным.

«Я хачу сказаць, што ў самым пачатку Ён стварыў пэўныя законы, а потым адышоў ад спраў, даючы гэтым законам рабіць усё за сябе», — адказаў Чарльз.

У фінале «Паходжання відаў...», самай галоўнай сваёй кнігі, ён напіша пасля тое самае, толькі іншымі словамі: «Ёсць веліч у тым, што жыццё з яго шматлікімі праявамі Творца спачатку ўдыхнуў у нейкую адну форму ці ў абмежаваную колькасць формаў, і ў той час як наша планета працягвае круціцца згодна з нязменным законам прыцягнення, з такога простага пачатку ўзнікла і працягвае ўзнікаць бясконцая колькасць самых цудоўных і захапляльных формаў».




**Чарльз Дарвін** на тэрасе свайго дома ў Даўне.

Эма нічога не сказала тады на яго словы. Яна напісала яму поўны трывогі ліст. «Ці не здарылася так, што звычка не верыць ні ў што, пакуль няма доказаў, народжаная навуковымі даследаваннямі, аказала на цябе занадта моцны ўплыў, і твая свядомасць так рэагуе нават у тых выпадках, калі гаворка ідзе пра рэчы, якія не могуць быць даказанымі падобным чынам?.. Я павінна цябе папярэдзіць аб небяспецы. Я баюся, што ты, адмовіўшыся ад Бога і страціўшы ўдзячнасць да Яго, адрынеш і тое, што зроблена Ім для цябе...»

Яе непакоіла, што яны могуць не належаць адно аднаму вечна, бо, калі яе Чарльз страціць Бога, ён страціць і гарантыю несмяротнасці для сваёй душы. Без гэтай гарантыі, без упэўненасці, што і па завяршэнні зямнога шляху яна будзе з ім, сваім Чарльзам, яе жыццё страчвала сэнс, але яна перш

## Дарвін і Бог

Чарльз Дарвін збіраўся стаць святаром. У студзені 1831 года ён вельмі паспяхова здаў выніковыя іспыты ў каледжы Хрыста Кембрыджскага ўніверсітэта, так што родны бераг будучы аўтар «Паходжання відаў» пакінуў «цалкам артадаксальным» вернікам.

Першы сумнеў у ім пасеялі маракі «Бігля», якія папросту смяяліся з яго спасылак на Святое Пісанне, з перакананасці, быццам яно — бясспрэчны аўтарытэт. Часу было шмат, Чарльз зноў і зноў думаў пра рэлігію і паступова ўсвядоміў, што Стары Запавет з яго гісторыяй свету, відавочна няправільнай, і асабліва з яго прыпісваннем Богу вобразу помслівага тырана выклікае даверу не больш, чым вераванні дзікуна. І якой бы цудоўнай ні была мараль Новага Запавету, наўрад ці можна адмаўляць тое, што дасканаласць гэтай маралі залежыць і ад інтэрпрэтацыі чалавекам яе метафар і алегорый.

З такімі думкамі ён плыў да Вогненнай Зямлі. І тым не менш Дарвін быў яшчэ вельмі далёкі ад таго, каб адмовіцца ад веры. Больш за тое, ён апантаны марай: аднойчы недзе ў Пампеях будзе знойдзены рукапіс, які самым неверагодным чынам пацвердзіць усё, што сказана ў Евангеллях. Вось толькі чым болей ён марыць пра гэта, тым меней яму ўдаецца ўявіць такі доказ, які мог бы пераканаць.

Пра існаванне Бога ён будзе шмат разважаць і пазней непазбежна прыйдзе да высновы: «Не можа замок двухстворкавага малюска быць створаны нейкай разумнай істотай, падобна таму, як дзвярны замок створаны чалавекам. У зменлівасці жывых істот і ў дзеянні натуральнага адбору наўмыснага плану не больш, чым у напрамку ветру. Усё ў прыродзе з'яўляецца вынікам дзеяння цвёрдых законаў. Але як патлумачыць тое, што свет у цэлым зладжаны даволі прыстойна?»

Гэтае пытанне стане першай крыніцай яго перакакання ў тым, што Бог усё ж існуе. Другая такая тэза падасца яму яшчэ больш пераканаўчай: «Цяжка і нават немагчыма ўявіць сабе неабдымны і такі чароўны сусвет, уключаючы ў яго і чалавека з усімі яго здольнасцямі думаць і зазіраць то ў мінулае, то ў будучыню, вынікам нейкага сляпога выпадку».

Разважаючы пра ўсё гэта, ён адчуе, што вымушаны звярнуцца да Першапрычыны, якая валодае інтэлектам, у нейкай ступені аналагічным розуму чалавека.




**Карта падарожжа «Бігля».** 1831–1836 гады.




**Эма Дарвін з сынам Леанардам.** Нарадзіўшы дзесяцярых дзяцей, яна не страціла ні здароўя, ні фігуры, ні цікавасці да жыцця.

за ўсё імкнулася выратаваць ад магчымай вечнай пакуты яго душу. Далей яна пісала, што ніколі не перастане быць яму ўдзячнай за ўсю тую пяшчоту, якая дзень пры дні робіць яе шчаслівай.

Такая высакароднасць прабудзіла і ў ім высокі парыў. Ён шчыра паабяцаў сам сабе, што будзе займацца цяпер толькі бяспечным — геалогіяй, а тое, што ставіць пад сумненне царкоўныя догматы, — кіне без шкадавання.

Але варта яму было толькі сесці за стол, разгарнуць нататнік і ўзяць у руку пяро, як па чыстых, як крылы анёла, старонках тут жа беглі новыя «небяспечныя» думкі.

## Яе эвалюцыя

Яна разумела, як яму важна мець ціхі куток, каб нічога не перашкаджала ні думаць, ні пісаць, ні хварэць (перыядычна яму вельмі нядобрылася: наступствы экспедыцыі на экзатычныя землі нагадвалі аб сабе вельмі жорстка ўсё яго ►

далейшае жыццё). «Я хачу, каб не я вучыў іншых, — тлумачыў ён Эме сваё нежаданне жыць і працаваць у Кембрыджы, — а каб мае думкі вучылі. А думкі мае павінны знайсці сябе ў маіх кнігах». На гэта Эма адказвала так, як павінна такому мужу адказваць жанчына не толькі з верай у душы, але з каханнем у сэрцы і з мудрасцю ў галаве: «Кожны з нас павінен знайсці сабе шлях, каб выканаць тую працу, якую вызначыў нам Госпад. Табе выпадае быць навукоўцам. Калі гэта прадвызначана лёсам, ты не павінен супраціўляцца».

## Яна сумнявалася, што Чарльз верыць у Бога, але ведала, што Бог верыць у Чарльза

Таму Эма і прымірылася з выбарам мужа, нягледзячы на ўласную глыбокую веру ў Бога. Яна нават прапанавала яму рэдагаваць яго працу, якая так разыходзілася з яе перакананнямі. Праз дваццаць гадоў шлюбу — а менавіта столькі прайшло да выхаду ў 1859 годзе яго «Паходжання відаў...» — яе адносіны да справы мужа прайшлі самы што ні ёсць эвалюцыйны шлях: ад пакорлівага «Я павінна паважаць твае перакананні» да ганарлівага «Акрамя цябе, ніхто ў свеце не ведае, як утварыліся віды». Дакладней, так: яна сумнявалася, што Чарльз верыць у Бога, але ведала, што Бог верыць у Чарльза. ◆

Борисюк Юрий, Рейзвих Андрей. **Ромуальд Траугутт — рыцарь земли Полесской** / Науч. ред. А. Р. Бензерук. — Минск: Энциклопедикс, 2020. — 252 с., ил.

Гэта кніга — пра аднаго з кіраўнікоў і герояў паўстання 1863–1864 гадоў. І не толькі пра яго, але і пра мясціны на Заходнім Палессі, звязаныя з ягоным іменем.

Матэрыял для кнігі збіраўся аўтарамі з 2013 года, паралельна са стварэннем этнагістарычнага музея на хутары Божы Дар, непадалёк ад вёскі Ляскова Кобрынскага раёна. Гэты хутар у сярэдзіне XIX стагоддзя належаў Яну Мітрашэўскаму, які вучыўся ў Свіслацкай гімназіі разам з Рамуальдам Траўгутам, будучым дыктатарам паўстання. Менавіта тут Траўгут прыняў прысягу на вернасць паўстанцам. Таксама біяграфія героя паўстання звязаная з іншымі мясцінамі на Берасцейшчыне: ягоным уласным маёнткам Востраў (цяпер вёска Астроўе Маларыцкага раёна) і сядзібай Клапоцін (цяпер у рысе горада Кобрына), дзе ён нейкі час пражыў са сваёй другой жонкай Антанінай Касцюшка.

Менавіта старонкі жыцця Рамуальда Траўгута, звязаныя з Берасцейшчынай, асвятляюцца ў гэтай кнізе. Аўтарамі падчас працы над выданнем упершыню былі выяўленыя план маёнтка Востраў і апісанне сядзібнага дома Траўгута, вызначаныя дакладная дата ягонага нараджэння і сямейны герб, развенчанае паданне пра дзеда Рамуальда па імені Якуб, які нібыта служыў у Тадэвуша Касцюшкі.

Як адзначаюць самі аўтары: «Так, у выніку даследавання некаторыя факты аказаліся больш празаічнымі, чым раней пісалі. Маёнтак Востраў не быў спалены царскімі карнікамі, а прыйшоў у заняпад, і дом струхлеў не з-за кепскага ўпраўляючага, прызначанага казной. Відаць, іншы Траўгут, а не дзядуля Рамуальда, быў адзначаны Тадэвушам Касцюшкам…

Але пры гэтым невялікі на сённяшні дзень хутар Астроўе аказаўся населеным пунктам з найбагацейшай гісторыяй. Як аказалася, Востраў быў не проста прыватнаўласніцкім маёнткам, але ў сваёй гісторыі прайшоў перыяды ад дзяржаўнага каралеўскага дамена да памешчыцкай уласнасці. Пры гэтым уласнікамі маёнтка Востраў у розныя перыяды былі кароль, герцаг, граф, князь і, нарэшце, падпалкоўнік — будучы генерал і дыктатар паўстання».

Пры падрыхтоўцы выдання былі выяўленыя раней невядомыя або маладаследаваныя дакументы з фондаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне, Расійскага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбурзе, Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва, Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці, Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве. Выкарыстоўваліся таксама мемуары відавочцаў, удзельнікаў паўстання 1863–1864 гадоў і іх нашчадкаў.

Кнігу можна набыць у мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72).





# Папялушка Яніна Жаймо

## Усё маленькае — ядавітае




**«Папялушка з Ваўкавыска» — так любяць пісаць пра Яніну Жаймо беларускія выданні. Самая маленькая актрыса савецкага кіно (148 см росту), якая праславілася роллю Папялушкі, сапраўды нарадзілася ў Ваўкавыску. Але наўрад ці гэта нагода ганарыцца. Актрыса паходзіла з вялікай сям'і цыркачоў і магла нарадзіцца дзе заўгодна. Скончыўшы паўгадавыя гастролі ў Варшаве, сям'я паехала куды вочы вядуць. У Ваўкавыску ў Янінай мамы пачаліся схопкі... «Твая мама круціла сальта-мартале, як звычайна, вярнулася дамоў, як звычайна, і нарадзіла цябе», — расказваў дзяўчынцы дзядуля. Піша Паўліна Скурко.**

### Цыркавая сям'я

Яніна Баляславаўна Жаймо ў Ваўкавыску пасля нараджэння ніколі не была. І адкуль яе род, таксама не ведала. Тата — паляк, мама — руская. У сям'і ўсе размаўлялі па-руску. Сямейная цыркавая трупа Жаймо складалася з 15 чалавек (дзядуля Вацлаў і два яго сыны з сем'ямі). Першапачаткова іх прозвішча было Жэйма, з націскам на перадапошні склад паводле правілаў польскай мовы. Але, відаць, перайначылі на модны французскі манер. Са сваімі нумарамі яны аб'ехалі ўсю Расійскую імперыю.




**Ваўкавыск, вуліца Жолудзева.** Паводле мясцовай легенды, менавіта тут гастралёры наймалі дамы.

Нядаўна свет пабачылі мемуары Жаймо. Успаміны пра цыркавое дзяцінства — самая шчымлівая іх частка. Першы Янін выхад на сцэну адбыўся ў 2 гады і 8 месяцаў. Дзяўчынка танцуе разам з сястрой і б'е ў барабан у сямейным нумары, які называецца «6 Жаймо»: па колькасці ўдзельнікаў. Неўзабаве тата бярэ яе на конныя трукі: ён скача, а малая Яня на хаду становіцца яму на плечы, на галаву, стаіць на адной назе (канечне, са страхоўкай)...

З горада ў горад вандруюць цыркавыя санкі, вагончыкі, коні. На артыстах экстравагантнае адзенне: аксаміт, футры, анучы — і пярсцёнкі з каштоўнымі камянямі. Змалку ўсё вучацца фокусам і трукам,

жанглююць прыборамі ды посудам, накрываючы на стол. Дзякуючы такім уменням кожны можа пры патрэбе замяніць таварыша, пабыць і клоўнам, і акрабатам, і наезнікам, і нават трохі дрэсіроўшчыкам. Пануе стапрацэнтная ўзаемападтрымка.

А побач з людзьмі жывуць жывёлы — найлепшыя сябры.

## Амурчык

Аднойчы маці спытала ў дачок, што зрабіць на абед. «Парася з грачанай кашай», — папрасілі ў адзін голас Яня і старэйшая Эля. Неўзабаве мама вярнулася, у кошыку было парася. Жывое. «Парасяці з грачанай кашай сёння не будзе», — па-філасофску прамовіў дзед Вацлаў.

Парася расло хутка, і ўрэшце яго ўзялі ў цырк. «Днём, калі мы былі на рэпетыцыі, Амурчык бегаў па ўсім цырку, але варта было нам падчас перапынку пачаць піць ліманад, як ён з'яўляўся з ніадкуль і патрабаваў сваю порцыю. Піў Амурчык гэтак жа, як мы, — са шклянкі ці проста з бутэлькі».

Дзед Вацлаў нават зрабіў з парсюком нумар. За ліманад Амурчык пераадольваў бар'ер і аддаваў паклон.

А ў адным з гарадоў у парасяці з'явілася дзіўная звычка: адразу пасля ранішняй рэпетыцыі Амурчык знікаў з цырка, а днём спакойна вяртаўся ў сваю клетку. Дзядуля прасачыў за ім і пабачыў, што парася імчыцца на базар, упэўнена падбягае да прылаўка, дзе на доўгіх палках вісяць абаранкі, паддзявае лычом адзін з іх і пад рогат навакольных нясецца з ім назад. Аказалася, прадавачка некалі дзеля забавы пачаставала парсюка булкай — і пасля той стаў прыходзіць кожны дзень. Дзядуля выцягнуў грошы, каб расплаціцца за партнёра, але прадавачка адмовілася: «Надта смешна ён іх крадзе. Я ж яго ўжо кожную раніцу чакаю».

Надышоў дзень пераезду. Цырк стаў збірацца ў наступны горад. Амурчык, як заўсёды, знік і, на дзіва, пад вечар не вярнуўся. Загрузілі ў вагоны жывёл. Хто мог, пайшоў шукаць па горадзе парсюка. Безвынікова. Дзяўчаты плачуць, мама таксама. Дзед просіць не прыбіраць трапы. І раптам віск. Па пероне бяжыць брудны, «як свіння», Амурчык, на шыі ў яго матляецца вяроўка. Нехта навязаў яго, але разумная жывёліна перакусіла вяроўку і паспела вярнуцца да сваіх!




**За ліманад Амурчык пераадольваў бар'ер** і аддаваў паклон.




**6 Жаймо — цыркавая сям'я**: Яня, яе сястра Эля, іх дзядзька Паўлуша, мама Анна Канстанцыя, дзядуля Вацлаў і тата Баляслаў.

## Канец дзяцінства

Цыркавое шчасце скончылася, калі памёр Янін тата. Выступаючы, ён раптам пачынаў кашляць, не мог скончыць рэпліку. Хуткацечныя сухоты напаткалі яго ў 1923 годзе падчас гастроляў ва Уфе. Ехаць на поўдзень ён катэгарычна адмовіўся: «Бессэнсоўна, толькі змарнуем грошы».

У якасці апошняй радасці Баляслаў, які ўжо амаль не ўставаў, прыдумаў зладзіць бенефіс Яні і Элі. Дзяўчатам было 13 і 15, і цэлы вечар яны былі на арэне. Двайны вальтыж (сумесны нумар на кані). Палёт пад купалам. Каўбойскі танец («прайшоў бы выдатна, калі б не дурны звычай

кідаць на арэну садавіну і шакалад. Падчас акрабатычнага трука нехта кінуў на манеж апельсін і трапіў мне ў нагу. Удар прыйшоўся па самай костачцы»). Стрэлы з каня на поўным скаку, балет «Танец жывата», ігра на аргане... А горды тата дырыжыраваў аркестрам.

Ісці дамоў пасля такога ён ужо не змог — жонка везла яго на дзіцячых санчках.

Прайшло тры дні. Вечар 26 лютага Яніна Жаймо запомніла ў дэталях: «Мы сядзелі за сталом, ніхто не мог дакрануцца да ежы. Усе думалі аб адным. Не ведаю, колькі мы так сядзелі. Раптам з татавага пакоя пачуўся дзіўны шоргат. Усе кінуліся туды. Тата ляжаў на ложку і хапаў ротам, намагаючыся злавіць хоць глыток паветра. Татаў брат Паўлік кінуўся па доктара. Мы разумелі, што нічым ужо не можам дапамагчы. Нарэшце дзверы адчыніліся і ўвесь у слязах увайшоў Паўлік. Знайсці доктара ён не змог.


DEPOSITPHOTOS.COM. BY ANDREWLOZOVYI

**«Ішлі гады. А я ўсё спадзявалася і баялася сустрэць на ленінградскіх вуліцах нашага Орліка...»**


«Z PLACU CZEWONEGO NA PLAC ZBAWICIELA»

**Яня і Эля** пачалі цыркавую кар'еру вельмі рана, у тры гады.

Паўлік паглядзеў на тату, які сутаргава спрабаваў уздыхнуць, ступіў да акна і кулаком выбіў шкло. Вецер са снегам уварваліся ў пакой, тата глынуў паветра і як бы супакоіўся. Дзядуля шчыльна накрыў яго, Паўлік прынёс падушку і заткнуў ёю дзірку ў акне. Тата хрыпла дыхаў. Мы, атачыўшы яго, стаялі нерухома, нібы скамянелі. Не ведаю чаму, але бацька стаў выціраць вочы, як быццам яму нешта перашкаджае. Потым спакойна паклаў руку на коўдру. Мама апусцілася на калені і, не адрываючыся, глядзела яму ў твар. Тата ляжаў з заплюшчанымі вачыма, потым павольна адкрыў іх, абвёў усіх нас поглядам, як бы развітваючыся з кожным паасобку. Ён нешта хацеў сказаць нам — і раптам па яго шчоках пакаціліся вялікія слёзы... Потым тата заплюшчыў вочы... і яго не стала. Гэта быў дзень яго нараджэння».

Адразу пасля татавай смерці ў пакой уварваўся цыркавы фурман: што рабіць, Орлік, конь Баляслава, увесь у пене, б'ецца, і ніхто не можа яго


Понедѣльникъ 9-го Мая 1916 года
БЕНЕФИСЪ
ЭЛИ и ЯНИ ЖЕЙМО
ТАНГО
ОЙ-РА
ГЕРМАНСКІЙ МОНАХЪ ВЪ БОЧКѢ
«Z PLACU CZEWONEGO NA PLAC ZBAWICIELA»

**Афіша бенефісу Яні і Элі Жаймо.**

супакоіць. «Вяртайся ў цырк, ён ужо супакоіўся», — сказаў дзед. Праз два дні, калі жалобная працэсія ішла ад цырка да могілак, Орлік ішоў за труной першым. І ён не адыходзіў ад магільнай ямы, пакуль яе не засыпалі. Ніхто ўжо не спрабаваў яго адвесці.

Праз год Орліка давялося прадаць. Сям'я раз'язджалася: дзяўчаты вырашылі асесці ў Піцеры («дзяўчатам трэба нармальна скончыць школу»), а дзед і Паўлік працягвалі выступаць. Дзядуля дамовіўся з нейкім візнікам, той паабяцаў упрагаць каня толькі ў лёгенькую брычку. Раўла ўся сям'я. «Ішлі гады. А я ўсё спадзявалася і баялася сустрэць на ленінградскіх вуліцах нашага Орліка, варанога, добрага, з белай зоркай на лбе».

## Эстрада і ФЭКС

У Піцеры мама збіралася выступаць з рамансамі, а дзяўчаты — з акрабатычнымі ▶

танцамі. Але канкурэнцыя была шалёная. Урэшце ўдалося знайсці сваю нішу — музычная эксцэнтрыка. Так у той час называліся музычныя нумары з артыстычным складнікам. У адным нумары дзяўчаты гралі на двух ксілафонах, званках, бутэльках і фанфарах, адначасова танцавалі і жанглявалі!

Але эстрада Яні не падабалася. Тут было шмат артыстаў і мала працы. Існавала чарга на права атрымаць канцэрт. «Калі б наш нумар пралангавалі — тыя, хто чакаў сваёй чаргі, ужо лічылі б нас ворагамі». І нечакана яна знайшла справу па душы — акцёрства.

Ужо ў 11 гадоў Яня стала выкладаць балет ля станка, да яе нават запісваліся па індывідуальныя ўрокі. Публікі яна не баялася, мела досвед імправізацыі, умела завучваць танцы з аднаго разу.

На іспыце ў ФЭКС — Фабрыку эксцэнтрычнага акцёра — яна зрабіла некалькі цыркавых трукаў і сцэнку «П'яны джэнтльмен». Экзаменатары пакпілі з яе росту (у 14 Яня раптам перастала расці), але засталіся ў захапленні.


«Z PLACU CZEWONEGO NA PLAC ZBAWICIELA»

**Яніна з дачкой Янінай**, канец 1920-х.

Знешне яе дар быў не відавочны, а вось ігра ўражвала. «Неяк на занятку яна паказвала самавар, ды настолькі ярка, — успамінае аднакурснік, — што я дагэтуль, гледзячы на самавар, бачу, як яна пасвіствае і шыпіць».

У ФЭКСе Яня сустрэла будучага мужа. У 1920-я Андрэй Кастрычкін быў зоркай нямога кіно, майстрам камедыі. Яны разам сыгралі ў нямым фільме «Шынель» паводле Гогаля. Нарадзілася дачка (таксама Яніна), і пара разышлася. Сама Яніна гэтага не каментавала. Казалі, Кастрычкін меў праблемы з азартнымі гульнямі, гуляў у прэферанс і не мог спыніцца... Што праўда, з другой жонкай ён пражыў у згодзе да глыбокай старасці. А Жаймо сама любіла карты, кажа сын, гэта была яе страсць. Да вайны гуляла ў покер на грошы, а ў канцы жыцця адкрыла для сябе гульню канаста.


«Z PLACU CZEWONEGO NA PLAC ZBAWICIELA»

**У фільме «Сяброўкі»** Яніна Жаймо сыграла і гераіню ў дзяцінстве (крайняя справа), і дарослую.

## Усе вы добрыя, пакуль спіце

Самая маленькая актрыса СССР — рост 148 см, памер нагі 31 — Жаймо ў 1930-я стала кіназоркай. Грала ў асноўным падлеткаў і дзяцей, хоць і марыла пра драматычную жаночую ролю. Фільм «Сяброўкі» — унікальны выпадак у гісторыі кіно: яна грае спярша персанажа ў дзяцінстве, а потым у дарослым жыцці.

У 25, калі Яня ўжо стала мамай, ёй прапанавалі галоўную ролю ў дзіцячай камедыі «Пабудзіце Леначку» — пра 13-гадовую дзяўчынку, якая вечна прасыпала школу. Пасля смерці мамы Яніна ўзяла да сябе малодшую сястру, якраз такога веку. І вось яна надзела сястрыну сукенку і пайшла на двор. Хлапчукі адразу паставілі яе гуляць у лапту. І калі яна стала прапускаць удар за ўдарам, нехта скамандаваў «Пара капаць бульбу!» — «і ўсе наляцелі, павалілі на зямлю і сапраўды пачалі “капаць на мне бульбу”», — піша Жаймо. Уратавала выпадковая жанчына. Яна разагнала хлопцаў, выцягнула з кішэні насоўку і, выцершы Яніне запэцканы твар, прабурчала:

— Не ўздумай раўці! Усе вы добрыя, пакуль спіце. Марш дадому! — і дала выспятка.

Актрыса ішла дадому шчаслівая: можна спакойна пагаджацца на ролю!

А як бянтэжыліся акцёры-падлеткі, якія гралі разам з Янінай, калі даведваліся, што яна ўжо дарослая цётка! Каб зняць псіхалагічныя бар'еры, ім казалі, што Яня — іх аднагодка.

За ўсімі здымкамі Яніна Жаймо знайшла другога мужа. Ім стаў рэжысёр Іосіф Хейфіц родам з Мінска. Пасля вайны ён праславіўся фільмамі «Дарагі мой чалавек», «Дама з сабачкам», «Шурачка». А ў 1930-я толькі пачынаў. Яня Жаймо сыграла ў яго першых фільмах «Мая радзіма» (пра канфлікт СССР і Кітая ў 1929 годзе, пасля выхаду фільм забаранілі), «Гарачыя дзянёчкі». У Жаймо і Хейфіца быў шчаслівы шлюб, яны многа смяяліся і жартавалі, натхнялі адно аднаго. Нарадзіўся сын Юлік. А потым Хейфіц паехаў здымаць у Манголію — і пачалася вайна.



«Z PLACU CZEWONEGO NA PLAC ZBAWICIELA»

**У фільме «Разбудзіце Леначку»** 25-гадовая актрыса сыграла 13-гадовую школьніцу. А яе партнёры-падлеткі нават не падазравалі, што граюць з дарослай цёцяй!

### Пціфуры і чай «Белая ружа»

Яніна адправіла дзяцей са свякрухай у эвакуацыю, а сама засталася ў Ленінградзе. Дзяжурыла на даху «Ленфільма», гасіла «запальнічкі», якія скідалі на горад нямецкія самалёты. Жыла з сястрой і яе дзецьмі ды з дзядзькам Паўлікам, татавым братам, акрабатам. Паступова 7-пакаёвую кватэру Жаймо і Хейфіца засялілі знаёмыя, чые дамы разбамбілі. Часта збіраліся госці. Усе прыносілі з сабой пайкі хлеба, якія гаспадыні наразалі дробнымі кавалачкамі, смажылі на алеі (страшэнна нясмачным) і, урачыста называючы «пціфурамі», падавалі да чаю «Белая ружа» (кіпень).

Праўда, здараліся і святы. Аднойчы нейкі лётчык перадаў ад сваіх калег скрынку. «Мы, лётчыкі, глядзелі ўчора карціну з вашым удзелам — “Прыгоды ▸



«Z PLACU CZEWONEGO NA PLAC ZBAWICIELA»

**Яніна вельмі любіла капялюшыкі,** чэпчык Папялушкі яна прыдумала сабе сама. На фота яна з дачкой Янінай і сынам Юліем перад вайной.

### Жаймо і кухня

Яніна Жаймо не любіла і асабліва не ўмела гатаваць. Навучылася толькі пад канец жыцця, частавала гасцей хвашчамі і пірагамі з капустай. Калі яна была малая, то яны з сёстрамі дзялілі абавязкі: гатавала старэйшая сястра Эля, а Яня прыбірала. І вось у гэтым на ўсё жыццё засталася профі.

Але смачна паесці Яніна Жаймо любіла, і вельмі. За тварожны пірог і плоў з ялавічынай і свінінай магла аддаць усё на свеце. Пра яе нават хадзіла легенда. Нібыта на сходзе перад пачаткам здымак другога фільма пра дзяўчынку Леначку («Леначка і вінаград») актрысу сталі пясочыць. Маўляў, распаўнела, а трэба ж здымацца ў выхаваўчай карціне, выконваць свой доўг, сацыялістычныя абавязкі... Жаймо тады выйшла да трыбуны, паставіла перад сабой шклянку з вадой, адкашлялася і сказала: «Таварышы! Калі не есці — то нашто жыць?»

Гумар мела асаблівы. «Дзякуй немцам, нарэшце я задаволеная сваёй фігурай», — смяялася яна ў блакадным Ленінградзе.

А пабачыць заўсёды танюткую Жаймо «ў целе» можна ў камедыі «Прыгоды Карзінкінай», якую на фронце і на неакупаванай тэрыторыі паказалі ўвосень 1941 года. Гэта 38-хвілінны фільм пра касірку прыгараднага вакзала, якая імкнулася ўсім дапамагчы. Каб прыкрыць фігуру пасля другіх родаў, актрыса здымаецца ў шырокім смешным паліто.




**Іосіф Хейфіц**, рэжысёр, другі муж Яніны Жаймо, нарадзіўся ў 1905 годзе ў Мінску. Найбольш вядомыя фільмы: «Дарагі мой чалавек» (1958), «Дама з сабачкам» (1960), «Шурачка» (1982).

▸ Карзінкінай", і так смяяліся, весяліліся, што нават забыліся пра вайну. А калі фільм скончыўся, мы вырашылі ў знак падзякі паднесці вам падарунак. Кожны з нас паклаў у гэту скрынку што мог». Там аказалася булка, каўбаса, кансервы, шакалад і гарэлка. Для гасцей гэта быў такі сюрпрыз і шчасце, што яны, піруючы, нават не пачулі начной бамбёжкі.

А быў і прыкры выпадак. Жаймо запрасілі на прэм'еру ў кінатэатр, і дырэктар падарыў ёй крэмавы торт. Торт паставілі на стол, усё берaглі, але так і не з'елі: выбуховай хваляй выбіла шыбу — і ён увесь аказаўся ў аскепках.

«Яшчэ доўгія гады пасля ежы я збірала крошкі са стала. Выкідаць іх мне здавалася злачынствам».

У 1942-м Яніне разам з сястрой дазволілі выехаць (дакладней, вылецець) з блакаднага Ленінграда ў Алма-Ату да мужа і дзяцей. У самалёце 12 пасажыраў, 2 лётчыкі і кулямётчык, што страляе без перапынку. «Мне, як заўсёды, дапамагае старая гульня: гэта толькі здымкі». У Ціхвіне жанчына сустрэла знаёмага — польскага яўрэя Леана Жано. Калі Германія напала на Польшчу, гэты малады рэжысёр уцёк у СССР. Аказалася, што Жано і яго таямнічы спадарожнік едуць асобным саставам, вагонам асаблівага прызначэння. Рэжысёр запрасіў ехаць з ім. Ледзьве гэты прывілеяваны састаў пакінуў станцыю — нямецкая авіяцыя разбамбіла цягнік, на якім мусілі ехаць Яніна са спадарожнікамі. Актрысу выратаваў выпадак.

Але пра яго ніхто не ведаў. Разышлася чутка: Жаймо загінула. І калі Яніна даехала да Алма-Аты, у яе мужа ўжо з'явілася іншая. Яня не змагла дараваць. Пара развялася.

## За крок ад вар'яцтва

У сям'і Жаймо не прынята было плакаць. З самага дзяцінства Яня вучылася стрымлівацца. А тут — асабістая трагедыя і кепскія навіны адна за адной. Загінула сяброўка. Памёр дзядзька. Памёр дзядуля — стрыжань сям'і, пачынальнік цыркавой дынастыі, вельмі зычлівы і спакойны чалавек («яго словы дзейнічалі як валяр'янка»).

Нявыплаканыя слёзы і стрэс выліліся ў псіхічны разлад. Актрысу апанавала дэпрэсія, навязлівыя ідэі. «Са мной нешта пачынае адбывацца. Не магу чытаць: аказваецца, я забылася літары. Размаўляю з кім-небудзь — і раптам перастаю чуць суразмоўцу... У мяне з'явілася вельмі важная мэта: мне трэба знайсці плот. Што гэта за плот і дзе ён знаходзіцца, я не ведаю, але ўпэўненая, што, як толькі я яго знайду і дакрануся рукой, усё зноў будзе добра. І вось блукаю па горадзе, шукаю плот днём і ноччу».

У гэтых паходах жанчына сутыкнулася з «джэнтльменам» — так тады называлі начных зладзеяў, якія здымалі з людзей паліто, футры, гадзіннікі, пярсцёнкі. На шчасце, злодзей аказаўся аматарам кіно і, разгледзеўшы твар ахвяры, стаў яе адчытваць: «Таварыш Жаймо! Чаму вы ходзіце па вуліцах ноччу, ды яшчэ адна, хіба не ведаеце, як гэта небяспечна!.. Мы артыстаў не турбуем, паколькі мы і самі




**У такую Яніну, гераіню фільма «Гарачыя дзянёчкі», закахаўся рэжысёр Іосіф Хейфіц.** Ён стаў яе другім мужам. Гэта адна з нямногіх роляў, калі яна сыграла дарослую жанчыну.

артысты, — растлумачыў ён. — Давайце давяду вас да гатэля».

Неўзабаве артыстаў перавялі ў Ташкент. А там зноў Леан Жано — знаёмец, які сваёй прапановай у Ціхвіне ўратаваў Яні жыццё. Яна паскардзілася, што не можа спаць: за акном кожную ноч стаіць чорны чалавек у паліто і капелюшы. «Больш ён вас не патурбуе, — з лёгкасцю адказаў мужчына. — Я яго запрашу на кінастудыю, людзі, ведаеце, любяць глядзець, як здымаюцца фільмы. І буду забіраць яго з сабой кожны дзень».

Праз нейкі час Жаймо і Жано пабраліся шлюбам. Дэпрэсія адступіла.




**Папялушцы было 37, прынцу 34.** У 2009 годзе расійскі «Першы канал» расфарбаваў легендарны фільм, работы каштавалі 1 млн долараў.

### Папялушка

Ішоў 1947 год. Яніне Жаймо прапанавалі сыграць Папялушку. Мілы, поўны гумару сцэнар казкі напісаў Яўгеній Шварц. Пісьменнік захапляўся талентам Жаймо, усё жыццё яе падтрымліваў і яшчэ ў 1930-я спецыяльна пад яе напісаў сцэнарый дзвюх камедый пра 13-гадовую Леначку.

Падчас проб выпадкова выявілася, што на ролю Папялушкі прэтэндуе і 16-гадовая балерына. Для Жаймо гэта быў удар. Ёй было ўжо 37. Саракагадовая Папялушка — гэта смешна, перагаворваліся касцюмеркі. І ўсё ж яе абаяльнасць перамагла.

«У павільёнах не было ацяплення, і ўдзельнікі каралеўскага балю абмотваліся хустамі і шалямі. Але як толькі раздавалася каманда "Матор!", "госці балю" скідалі хусткі і валёнкі і важна абмахваліся веерамі, як быццам ім горача», — расказвала актрыса. З аргшкла для Папялушкі зрабілі крышталёвыя туфлікі. Сама Яніна, аматарка капялюшыкаў, прыдумала гераіні той самы чэпчык.

Для масоўкі ў сцэне балю падрыхтавалі шыкоўныя ўборы — касцюмы Берлінскага тэатра, канфіскаваныя савецкай арміяй у 1945-м. А з нейкага разбуранага замка пад Рыгай, дзе праходзілі натурныя здымкі, прывезлі сапраўдную рыцарскую зброю.

«Папялушка» стала пікам яе акцёрскай кар'еры. У канцы 1940-х фільмаў у СССР ▸




**Папялушка ў перапынку паміж дублямі.** Жаймо курыла як паравоз, скурвала два пачкі за дзень.

### Чаму Папялушка не змагаецца?

У кінасвеце Жаймо была вядомая тым, што перарабляла пад сябе ўсе ролі. Напярэдадні здымак яна прапісвала біяграфію, вобраз, характар свайго героя, і калі нейкі ўчынак здаваўся нелагічным, прасіла змяніць сцэнарый. Праз гэта не раз канфліктавала з рэжысёрамі і сцэнарыстамі. («Усё маленькае — ядавітае», — бездапаможна кінуў ёй некалі рэжысёр Леа Арнштам падчас здымкаў фільма «Сяброўкі».)

Так здарылася і ў «Папялушцы». Яе мучыла, што ганарлівая Папялушка пакорліва надзявае крыштальны туфлік злой сястры, усведамляючы, што такім чынам адмаўляецца ад свайго шчасця. «Проста Папялушка вельмі добрая», — адказваў Шварц. «Нашым дзецям гэтага мала, — пярэчыла Жаймо. — Мы толькі што пережылі страшную вайну, і ім будзе незразумела, чаму Папялушка не змагаецца, не пратэстуе? Такой Папялушцы глядач не будзе спачуваць, а значыць, не будзе яе любіць».

Актрыса пачала сапраўднае даследаванне, некалькі дзён прасядзела ў бібліятэцы, чытаючы варыяцыі казкі ў розных народаў. Але на сваё пытанне — чаму Папялушка пакорліва ахвяруе самым галоўным у жыцці — так і не знайшла адказу. «Нельга пачынаць працу, не закахаўшыся ў сваю гераіню, а для мяне Папялушка, як ні крыўдна, любімай пакуль не стала».

І на здымках Жаймо пайшла на адчайны крок. Яе асноўнай партнёркай у гэтай сцэне была мачаха — Фаіна Ранеўская. «Паспрабую яе справакаваць, — вырашыла Яніна. — Увесь разлік на яе талент, інтуіцыю і знаходлівасць».

«І вось мачыха загадвае Папялушцы надзець Ганне туфлік. А я (Папялушка) адмоўна хітаю галавой. Тады мачыха пачынае ліслівіць: “Папялушка, у цябе залатыя ручкі. Надзень туфлік Ганне”. Я зноў качаю галавой. Раззлаваўшыся, што я ёй пярэчу, мачыха грозна загадвае: “Папялушка, надзень туфлік!” Па сцэнары Папялушка, спалохаўшыся, прамаўляе: “Добра, матухна, я паспрабую”. Але замест гэтай фразы я нечакана кажу: “Ні за што!”

Ранеўская, якая ідэальна ўвайшла ў вобраз, настолькі абурылася маім нахабствам, што ад лютасці літаральна завішчала: “Калі ты зараз жа не надзенеш туфлік Ганне, то я... я... выганю з хаты твайго бацьку!”

Вось яна, матывіроўка, каб надзець туфлік Ганне! Папялушка робіць гэта дзеля бацькі! “Не, не, матухна! Прашу вас!” — ускрыкваю я, а потым пакорліва, як ягня, падыходжу да Ганны і надзяваю на яе нагу туфлік.

— Стоп! — раздаецца голас рэжысёркі.

У мёртвай цішыні мы пачулі выразныя крокі: да нас ішоў Шварц.

Падышоўшы да мачыхі, ён нечакана вымавіў:

— Фаіна Георгіеўна, вы забыліся дадаць: “І згнаю яго пад плотам”.

Шварц паглядзеў на мяне. Напэўна, мы абое выглядалі як дзеці, якія нашкодзілі.

У гэтую хвіліну я ўжо любіла сваю гераіню. Мне хацелася расцалаваць не толькі Ранеўскую, але і Шварца — і наогул увесь свет!»


ЯНДЕКС ДЗЕН

**Папялушка з мачыхай Фаінай Ранеўскай** знайшлі супольную мову.


«Z PLACU CZEWONEGO NA PLAC ZBAWICIELA»

«Беларускія навелы». У 1943 годзе ў Алма-Аце беларускія рэжысёры Уладзімір Корш-Саблін і Юрый Тарыч знялі серыю фільмаў пра беларускіх партызан. **У навеле «Пчолка» галоўную ролю сыграла Яніна Жаймо.** Вясковая дзяўчынка па мянушцы Пчолка і яе дзядуля завялі немцаў у балота…

паменела, яна занялася тэатрам (усяго дзве ролі ў маскоўскім Тэатры кінаакцёра) і страсна захапілася дубляжом. Дублявала Сафі Ларэн, Джульету Мазіна. І Герда ў савецкім мульціку пра Снежную каралеву гаворыць яе голасам. Падстаўку, на якую яна станавілася, каб дацягнуцца да мікрафона, на студыі называлі «жаймовачка».

## Варшава

Апошнюю кінаролю Яніна сыграла ў 45 гадоў («Два сябры») — і ў 1957-м з'ехала ў Польшчу. Яе мужу, рэжысёру-паляку Леану Жано, даўно прапаноўвалі працу на радзіме. Але здымаць Леану па вяртанні доўга не давалі. Ён працаваў у міністэрстве ў камісіі па справах закупу фільмаў.

Яніна Жаймо сумавала па дачцэ і ўнучцы. Ездзіць з Польшчы ў СССР дазвалялася раз на год, і раз на год можна было прыязджаць ім. Таму

актрыса хапалася за ўсе прапановы па агучцы: колькасць працоўных візітаў у СССР не рэгламентавалася. Агучка замежнага кіно для СССР давала дадатковыя грошы да пенсіі.

Пара жыла амаль у цэнтры Варшавы, паміж Лазенкамі і Маршалкоўскай. Яніна вучыла (успаміала?) польскую і ездзіла на здымкі разам з мужам-рэжысёрам. Яе кансультацыі артысты ўспамінаюць з удзячнасцю. А вось здымацца ёй у Польшчы не прапаноўвалі. А яна і не прасіла.

Цікава, што імя Яніна ў сям'і стала радавым. Дачку Яніны Баляславаўны Янінай запісаў тата, нават не параіўшыся з жонкай. Тое самае было і калі нарадзілася ўнучка актрысы. А калі ўжо з'явілася праўнучка, дык, тэлефануючы з віншаваннямі, усе ўжо пыталіся: «Як там маленькая Янечка?» Сітуацыя страшэнна няўручная, прызнаюцца ў сям'і. Калі некага клічуць, дык адгукаюцца ці ўсе, ці ніхто.

### Шчаслівая старасць

Яніна Жаймо памерла ў 1987 годзе, 29 снежня. Пасля двух інфарктаў аддраіла кватэру да Новага года — і здарыўся трэці. Сын знайшоў яе нежывой: жанчына не паспела дацягнуцца да лекаў.

Яўгеній Шварц пісаў у дзённіку: «Надзвычай прывабная істота Жаймо зрабіла дзясятую долю таго, што магла б. Павінна была б. Уся яе сутнасць — туга нацягнутая струнка. І заўсёды дакладна настроеная. І заўсёды гатовая граць. Яна была створана для акцёрства. А па-за гэтым заставалася бездапаможнай і сярдзітай, як злуюцца іншы раз глуханямыя».

Жыццё ў Польшчы было напоўненым і шчаслівым. Тут было многа сяброў, адкрыты дом, госці... Дома заўжды трымала шампанскае і адкаркоўвала яго не толькі пры нагодзе. Яніна любіла прыйсці ў кавярню, замовіць каву, пакурыць (выкурвала два пачкі за дзень). Любіла пасядзець у кавярні *Gwiazdeczka* на вуліцы Піўной пры плошчы Рынак і *Na rozdrożu* ля Лазенак. І заўсёды насіла з сабой нататнік для запісу ўспамінаў. ◆



«Z PLACU CZEWONEGO NA PLAC ZBAWICIELA»

**Яніна з трэцім мужам, рэжысёрам Леанам Жано**, на здымках фільма «Чалавек з ордарам на кватэру» (*«Czlowiek z M-3»*), 1969 год. Яна кансультавала акцёраў і была вельмі шчаслівая гэтаму.

### Пераезд у Польшчу быў не без прыгод

У пагранічным Брэсце Яніна афармляла дакументы на мэблю, якую перавозілі ў таварным цягніку, афармленне зацягнулася. А пасажырскі цягнік Масква — Варшава павінен быў ехаць па раскладзе. Так што на пероне ў Варшаве Леан Жано сустрэў перапалоханага пасынка Юльяна з дакументамі, грашыма, сабакам, але без мамы. Яе даставілі на наступны дзень.

# Чэшскі Рай і ваколіцы

## Ад замка да замка: захапляльны маршрут для пешага падарожжа па славянскім пагранiччы

**У чэхаў ёсць свой уласны рай. Ён зручна размешчаны: усяго 80 кіламетраў ад Прагі. У ім горы і скалы, замкі і старыя гарады, рэкі, поўныя стронгі, палі, дзе казуль і фазанаў сустракаеш часцей, чым людзей, а бровары і сады шчодрыя да падарожнага. Каб ні з чым не пераблытаць, назва ў гэтага месца ясная і простая: Чэшскі Рай. Піша кандыдат гістарычных навук Сяргей Грунтоў.**

У кожнага раю павінна быць брама, і гэты таксама яе мае, і не адну. Відаць, найпрыгажэйшая знаходзіцца на ўскрайку горада Ічын. Тут у парку можна пабачыць мураваны летні павільён, які нечым нагадвае сцэну і мае назву «Лоджыя Валенштайна». Ён быў узведзены ў маёнтку Альбрэхта фон Валенштайна, самага знакамітага героя Трыццацігадовай вайны, у 1630 годзе. Ад павільёна аж да самага горада ў той жа час была закладзена двухкіламетровая ліпавая алея, якая захавалася да нашых дзён. Трава пад старымі дрэвамі такая, што можна ісці басанож — і што гэта, калі не дасканалы ўваход у рай?



Лоджыя Валенштайна.

У Ічыне ёсць сярэднявечная вежа, якая цяпер служыць аглядальнай пляцоўкай для турыстаў, і замак, які болей нагадвае гарадскі барочны палац. Захавалася нават сінагога, але адчыняюць яе таксама толькі для турыстаў. Маладая дзяўчына-экскурсавод у кароткіх шортах бадзёра заскоквае па прыступках на арон кодэш (даслоўна — «каўчэг святыні»), каб дастаць адтуль бутафорскі скрутак Торы.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY PYTY

У яе шчырая, добразычлівая ўсмешка, і мы ўзгадваем, што ў сапраўдным раі павінны быць і свае шчаслівыя дзікуны.

## Скальныя гарады

Чэшскі Рай — гэта рэгіён і запаведнік вакол скальных «гарадоў» — высокіх каменных слупоў, праходы між якімі ўтвараюць лабірынты. Здалёк яны падаюцца даступнымі толькі птушкам і скалалазам, але гэты рэгіён быў добра засвоены турыстамі яшчэ ў XIX стагоддзі. Тады ж змайстравалі першыя лесвіцы наверх, і з часам іх стала толькі больш, таму цяпер без асаблівай фізічнай падрыхтоўкі можна пацешыць сябе багемскімі даляглядамі. Уваход у Рай каштуе 100 крон — каля 12 рублёў.

У адзін такі «горад» пад назвай Прахаўскія скалы мы і ідзём: праз палі, дзе сонца і макі, а яшчэ каплічкі і фігуры святых, якія нагадваюць пра даўно забытыя дарожныя здарэнні і берагуць ад новых. Спякотны дзень, але ўнізе, пад скаламі, вільготная прахалода. Падняўшыся на адзін са слупоў, на даляглядзе можна ўбачыць абрысы дзвюх скал, навершам кожнай з якіх ёсць руіны вежаў: ніжэйшая — Баба, вышэйшая — Панна. Перад намі замак Троскі, самы пазнавальны аб'ект рэгіёна, бачны з усёй ваколіцы, нават і за дваццаць кіламетраў. Гэты арыенцір вызначае напрамак шляху на ўсю другую палову дня: начлег — толькі па іншы бок замкавай гары.

## Квінтэсэнцыя чэшскасці

У чэшскай правінцыі трэба памятаць, што крамы і кавярні закрываюцца вельмі рана. Пераадолеўшы больш за 30 кіламетраў за першы дзень, стомленыя і галодныя, мы знаходзім усе крамы зачыненымі, а ў найбліжэйшай кавярні нам могуць прапанаваць толькі піва і недаедзеную некім халодную кілбаску, адну на дваіх. І гэта ў шэсць гадзін вечара.

Чэшскі Рай сёння падаецца квінтэсэнцыяй чэшскасці, дыстылятам з глянцавых


WIKIMEDIA COMMONS

**Альбрэхт фон Валенштайн** (1583–1634) — генералісімус Святой Рымскай імперыі з чэшскага роду Вальдштайнаў (перайначыў прозвішча на нямецкі лад). Партрэт работы Энтані Ван Дэйка.

турыстычных часопісаў і рэкламных буклетаў. Але яшчэ да Другой сусветнай вайны рэгіён гэты быў вельмі этнічна неаднародным. Немцы складалі значную частку насельніцтва, асабліва ў гарадах. У найбуйнейшым рэгіянальным цэнтры, горадзе Ліберац, немцаў да вайны жыло ў пяць разоў болей, чым чэхаў. У 1938 годзе Гітлер анексаваў гэты кавалак Чэхаславакіі, частка ▶


**Скальны горад.**
DEPOSITPHOTOS.COM, BY JOHNNYDEVIL



**Віла Карла Ржэзнічака** — гаспадара суседняга бровара.

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

▶ чэхаў стала ўцекачамі, астатнія цярпелі дыскрымінацыю. Пасля вызвалення ў 1945-м рэгіён вярнуўся пад уладу чэхаў, і цяпер ужо немцаў павыганялі са сваіх дамоў і прымусілі з’ехаць у Германію.

Памяць пра поліэтнічнасць рэгіёна жыве ў яго архітэктуры і тапаніміцы. Зранку выправіўшыся ў дарогу, ужо праз пяцьсот метраў ад дома аглядаем прыгожую вілу пачатку XX стагоддзя. Уладальнікам яе быў Карл Ржэзнічак, гаспадар суседняга бровара. А вось суседні замак Груба Скала (які і праўда стаіць на скале) належаў аўстрыйскаму роду фон Эрэнталяў. Перад Першай сусветнай вайной ім валодаў Алоіз фон Эрэнталь, міністр замежных спраў Аўстра-Венгерскай манархіі, які запомніўся арганізацыяй анексіі Босніі і Герцагавіны аўстрыйцамі ў 1908 годзе.

У яго замку, да якога прабіраемся пакручастай лясной сцяжынкай, а пасля стромкімі прыступкамі, высечанымі проста ў скале, цяпер гатэль і рэстаран. Да ўвахода вядзе мост, упрыгожаны статуямі святых з па-барочнаму выгнутымі целамі і экстатычнымі тварамі, у якіх немагчыма адрозніць пакуту ад асалоды. Геральдычныя знакі на сценах сталі проста значкамі, якія гавораць сучаснаму наведвальніку не болей, чым выява кароны на піўной этыкетцы. Замак ператварыўся ў адну вялікую фотазону, а ў час нашага візіту — яшчэ і ў месца збору аўтапрабегу рэтрааўтамабіляў.

## Турнаў і рыба

Але нам трэба спяшацца: літаральна праз некалькі

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

кіламетраў нас чакае чарговы скальны горад і наступны замак — Вальдштайн. Ён меншы за папярэдні, даволі сціплы, але таксама злучаецца з дарогай мураваным мостам са скульптурамі святых. Відавочна, у мясцовых арыстакратаў быў пункцік на тэму мець мікракопію Карлавага моста пры ўласнай гасподзе. З найбліжэйшых скал ужо як на далоні бачны горад Турнаў — касцёлы, замак і блочныя дзевяціпавярхоўкі на ўскрайку. Гэта галоўны горад рэгіёна Чэшскі Рай — і праз паўтары гадзіны мы спускаемся ў дальнія вуліцы яго прадмесцяў.

Гэтыя мясціны, дзе я ніколі не бываў, усё ж падаюцца загадкава знаёмымі. Усё таму, што ў 1970-я тут савецкім вайскоўцам служыў мой дзед Іван. Разам з чэшскім крышталём, вазамі і келіхамі ў бацькоўскую шафу патрапляялі і раскошна выдадзеныя альбомы з відамі Чэшскага Рая і Турнава. Я іх гартаў у дзяцінстве, а цяпер яны набывалі аб'ём і прысмак настальгіі. Дзеда больш няма, а тут неспадзявана знайшоўся аскепак ягонага свету.


WIKIWAND.COM

**Замак Вальдштайн.**



**Замак Груба Скала** — частка маршруту, ідэальнага для аматараў пешага турызму.

На ўваходзе ў Турнаў, прыціснутыя дарогай з аднаго боку і мостам эстакады з іншага, знаходзяцца габрэйскія могілкі. Заходзім і са здзіўленнем бачым, што мы тут не адны. У цяні пад домам вартаўніка адпачываюць чацвёра цыганоў — брыгада, якая працуе на добраўпарадкаванні могілак. Яны моўчкі глядзяць на нас, мы — на іх, маўчаць і габрэйскія надмагіллі — у здзіўленні перад тым, якія ўзоры раз за разам складаюцца ў калейдаскопе культур і нацый.

Турнаў складана назваць атмасферным горадам. Праз цэнтральную плошчу з абавязковай ратушай і маравым слупам з Дзевай Марыяй праходзіць галоўная вуліца з даволі жвавым рухам транспарту. За некалькі кварталаў знаходзіцца вялікая гатычная базіліка, але яна зачыненая. Затое проста пры галоўнай плошчы знаходзім выдатную вінарню. Хоць стэрэатыпным чэшскім напоем лічыцца піва, белыя віны тут таксама выбраляюць вельмі добрыя, а спёка на вуліцы робіць іх яшчэ смачнейшымі.

Галоўная пярліна Турнава, аднак, хаваецца на яго ўскрайку — гэта замак Грубы Рогазец. Па дарозе да яго пераходзім мост цераз рэчку Ізеру, пад якім, як у нас печкуры, стаяць чародкай вялікія стронгі. Замак знаходзіцца ніжэй па цячэнні, на высокім стромым беразе. З XVII стагоддзя ім валодалі прадстаўнікі сям'і Дэс Фоўрс Вальдэрод, у жылах якой мяшалася французская ▸


DEPOSITPHOTOS.COM, BY MUURAA

**Мост да замка Вальдштайн.** У мясцовых арыстакратаў быў пункцік на тэму мець мікракопію Карлавага моста пры ўласнай гасподзе.



Інтэр’ер замка Грубы Рогазец у Турнаве.

**Замак Грубы Рогазец**: у адрозненне ад рэстаўраваных у Беларусі замкаў, у чэшскіх ёсць адчуванне прысутнасці гаспадароў.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY NOKOLA@GMAIL.COM

і нямецкая кроў. Іх родавае гняздо захавалася выдатна, што, урэшце, для чэшскіх замкаў не такая і рэдкасць. Але толькі тут ёсць адчуванне прысутнасці гаспадароў. Можа быць, таму, што ў многіх пакоях пазнаецца параўнальна нядаўні час — пачатак XX стагоддзя і міжваенныя гады. Асабліва ўражваюць спальня і дзіцячы пакой — чым інтымнейшая абстаноўка, тым мацней адчуваецца цеплыня чалавечага жытла замест звыклага музейнага холаду.

Вельмі папулярнай аздобай чэшскіх замкаў (і не толькі чэшскіх — згадаем хоць бы Нясвіж) з’яўляюцца паляўнічыя трафеі. Рогі, паасобку ці з галовамі, запаўняюць цэлыя залы, звычайна побач вешаюць зброю, а часам, напрыклад, вялікія мішэні з дзюркамі, каля кожнай з подпісам імя таго, хто зрабіў стрэл. Але што рабіць, калі трафей нельга захаваць у прывабным выглядзе? Калі гэта, напрыклад, рыба? Адказ можна ўбачыць у Грубым Рогазцы. Тут над адным з дзвярных праёмаў вісіць карціна з выявай метровай стронгі, намаляванай у натуральную велічыню. З подпісу на палатне можна даведацца, што гэтая рыбіна была злоўлена ў суседняй рэчцы 2 лістапада 1680 года.



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Стронга, злоўленая 2 лістапада 1680 года** побач з замкам Грубы Рогазец.

## Страчаныя 1930-я

Заначаваўшы ў Турнаве, на наступны дзень рушым далей.

Дамы XIX стагоддзя хутка змяняе міжваенны канструктывізм, пасля шматпавярховікі часоў сацыялізму, за імі сучасныя катэджы, а далей — толькі палі і горы на даляглядзе. Як босхаўскі «Сад зямных уцех», гэтая ваколіца шчодрая на вішні, якія выспелі амаль да чарнаты. Іх смак падступна пераконвае, што ў жыцці салодкае пераважае над кіслым, і тут няма людзей, што здолеюць не пагадзіцца.

Так вось, бесклапотнымі шпакамі, ад дрэва да дрэва — праз дзве гадзіны мы ўжо ў суседнім замку Сіхраў, які аказваецца вялікім палацам. Уладальнікі, што разбудоўвалі яго ў XIX стагоддзі, лічылі найпрыгажэйшым стылем неаготыку.



KUDYZNUDY.CZ

Замак Сіхраў.

**Уладальнікі, што разбудоўвалі замак у XIX стагоддзі, лічылі найпрыгажэйшым стылем неаготыку**

Інтэр'еры і калекцыі зайздросна добра захаваліся. Адных толькі партрэтаў тут каля 250, у тым ліку вялікі збор выяваў французскіх каралёў, з якімі гаспадары, князі Рага́ны (брэтонскі род), мелі блізкае сваяцтва. Апошні ўладальнік Ален Раган прыняў нямецкае грамадзянства і ўступіў у нацысцкую партыю ў 1939 годзе. Пройдзе шэсць гадоў — і ён будзе вымушаны бегчы ў недалёкі нямецкі гарадок Цытаў, а адтуль пешшу дабірацца да Вены, каб памерці там у сярэдзіне 1970-х без надзеі на вяртанне ў маёнтак продкаў.

Тэма выгнання немцаў, іх геаграфічнай блізкасці, але немагчымасці вяртання ў страчаны свет 1930-х гадоў, які звыкла рамантызуецца і падаецца раем, часта сустракаецца ў кнігах і фільмах пра гэты рэгіён. Яраслаў Рудзіш, папулярны сучасны чэшскі аўтар, у рамане «Гранд-гатэль» адным з цэнтральных персанажаў выводзіць старога немца, які рэгулярна прыязджае сюды, але не можа вярнуцца. Ён займаецца тым, што на нямецкіх могілках крадзе прах сваіх знаёмых з дзяцінства, каб кантрабандай прывозіць яго ў бляшанках ад кавы ў родны горад і развейваць на месцы іх родных дамоў.

У 2018 годзе Рудзіш выпусціў раман з назваю «Чэшскі Рай». Група сяброў сезон за сезонам збіраецца ў лазні недзе ў Чэшскім Раі. Яны пацеюць, спрачаюцца, абмяркоўваюць усё на свеце, ▶



ZAMEK-SYCHROV.CZ

**Замак Сіхраў**: мы можам толькі марыць пра такую захаванасць інтэр'ераў.


Ратуша ў Чэшскім Дубе.

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

▶ але найперш жанчын, галасы і смех якіх раз-пораз чуваць з-за сцяны, з жаночай паловы. У канцы цікаўнасць адольвае іх, і яны лезуць на сцяну, каб даведацца, як яно там, з іншага боку. Але зверху бачаць, што за сцяной нічога няма, толькі змрок і прорва замагільнага свету, на парогу якога яны затрымаліся, але цяпер нічога не застаецца, як толькі туды скочыць.

### Пераступаючы межы

Чэшскі Рай — гэта памежны рэгіён. Існаванне ў ім нагадвае пра тыя ўнутраныя межы і выбары, перад якімі мы стаім, — культурныя, маральныя, эстэтычныя. Можа быць, сама наяўнасць мяжы падштурхоўвае яе пераступіць. Яраслаў Рудзіш таксама перайшоў сваю. Названы раман быў апошняй яго кнігай, напісанай па-чэшску. Ад таго часу ён піша і выпускае кнігі на нямецкай мове.




Дзень становіцца ўсё больш спякотным. Пад аркамі старога чыгуначнага віядука ці недзе на скрыжаванні, калі адпачываем пад чарговай каплічкай, мы незаўважна перасякаем мяжу Чэшскага Рая. Дарога вядзе нас у горад Чэшскі Дуб, не самы вядомы і папулярны сярод турыстаў.

Ёсць у гэтым свая радасць — пешшу прыходзіць у горад, спускацца з пагорка ўніз, бачыць яго як на далоні, як рабілі гэта падарожнікі яшчэ ў XIX стагоддзі і стагоддзямі да таго. Чэшскі Дуб падыходзіць для гэтага ідэальна. Профіль горада запамінаецца найперш дзякуючы рэнесанснай ратушы з высокай вежай, якая сваімі памерамі дае зразумець, што горад ведаў і лепшыя часы. У паўднёвай частцы можна агледзець гарадскі музей, цікавы ў першую чаргу інтэр'ерамі вілы XIX стагоддзя, у якой ён размешчаны.

А вось на паўднёвай ускраіне карта абяцае «замак Чэшскі Дуб». Насамрэч, замак зноў аказваецца палацам, грувасткім і суровым класіцызмам, нібы перанесеным сюды з англійскага XVIII стагоддзя. Здаецца, у ім мусіла размяшчацца бальніца — з цікаўнасці мы адчыняем парадныя дзверы і ўваходзім у залу з выдатна захаванымі інтэр'ерамі. Але навокал ні душы. У наступнай зале, якая некалі, напэўна, служыла для прыёмаў і баляў, паўколам стаяць дзевяць крэслаў з гімнастычнай палкаю на кожным. І зноў нікога. Толькі праз бакавы калідор і яшчэ адны дзверы трапілі ў палату, дзе ў ложках ляжаць старыя людзі. І толькі тут усвядомілі, што апынуліся ў доме састарэлых. Так дзіўна было не зразумець гэта ад пачатку: ад самага ўвахода нас суправаджаў той сумны пах, які ні з чым немагчыма зблытаць, — пах старасці.


Чыгуначны віядук.

DEPOSITPHOTOS.COM BY DC_9

Мы паскараем хаду. Набліжаецца вечар, а да мястэчка Осечна, дзе замоўлены начлег, яшчэ восем кіламетраў. Але яны ўзнагароджаныя тым, што ўвечары тут працуюць аж дзве кавярні. Апетыт за дзень у нас воўчы.

Пансіянат, у які мы засяліліся, нагадвае сумесь музея і антыкварнай крамы. Наш ложак выглядае так, што можна думаць, што на ім былі зачатыя і аддалі Богу душу некалькі пакаленняў мясцовых жыхароў. Але мы занадта стомленыя, каб паспець усур'ёз задумацца пра гэта.

## Святая Здзіслава і яе чэрап

Новая раніца працягвае нашу дарогу на поўнач. Край нібы крышку дзічэе: казуль у палях робіцца ўсё болей, а турыстаў зусім не відаць. Па дарозе ў вёсцы Жыбржыдзіцэ аглядаем закінуты касцёл Святых Сымона і Юды XVII стагоддзя — рэдкі незамкнёны храм у вёсках на нашым шляху. Яшчэ далей па дарозе ў лесе прыхаваныя ад выпадковых вачэй Янавіцкія пустэльні — выразаныя ў скалах келлі. У XVIII стагоддзі ў іх жылі манахі з суседняга кляштара. Цяпер тут невялікая каплічка і пазелянелыя ад вільгаці сцены.

**Чумны слуп**
з XVII стагоддзя надзвычай пашыраны ў Цэнтральнай Еўропе тып помніка, звычайна ў выглядзе калоны са статуяй Дзевы Марыі зверху. Яго ставілі на знак удзячнасці за заканчэнне эпідэміі, зусім не абавязкова ўласна чумы. Самы вядомы чэшскі чумны слуп знаходзіцца ў горадзе Оламаўц і з'яўляецца часткай сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

Увесь мінулы дзень і сёння з далягляду не знікае гара Ештэд, самы высокі пункт рэгіёна (1012 м), якая лёгка пазнаецца па шпілі на самай яе вяршыні — гэта профіль футурыстычнага гатэля, пабудаванага тут у 1966–1973 гадах, таго самага «Гранд-гатэля» з кнігі Рудзіша. Адпаведна, і ўвесь рэгіён за гарою носіць назву Пад'ешцедзі (*Podještědí*), а таксама горад, у які прыводзіць нас дарога, — Яблонэ-ў-Пад'ешцедзі.

Над цэнтрам горада дамінуе барочны гмах базілікі Святых Ваўжынца і Здзіславы з дамініканскім кляштарам побач. Яго заснавалі ў 1250 годзе, а манахі жывуць там і сёння. Святая Здзіслава, якая разам са сваім мужам фундавала кляштар у Яблонэ, доўгія стагоддзі шанавалася мясцовымі вернікамі, але была кананізавана толькі ў 1995 годзе. Яе парэшткі захоўваюцца тут жа, у крыпце базілікі: у падлозе нават зроблена акенца, каб, не спускаючыся ўніз, можна было бачыць пахаванне. Чэрап святой, аднак, ляжыць асобна ў пазалочаным барочным рэлікварыі з празрыстымі ▶


ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

Чумны слуп у Яблонэ.


ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

Базіліка Святых Ваўжынца і Здзіславы.


ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

Чэрап святой Здзіславы.

▶ сценкамі, які выстаўлены ў бакавым алтары. Ён пакрыты празрыстым вэлюмам, а зверху на яго надзеты залаты вянец з ліпавым лісцем і цветам, аздоблены каштоўнымі камянямі.

Цэнтральную плошчу Яблоннага, як і многіх чэшскіх гарадоў, займае марыянская калона, вядомая таксама як чумны слуп (*morový sloup*). Мясцовая, пастаўленая ў 1687 годзе, самая багатая з тых, што мы бачылі ў падарожжы. Акрамя Хрыста і Дзевы Марыі, яе ўпрыгожваюць скульптуры яшчэ дванаццаці святых.

Пайшоўшы галоўнай вуліцай два кіламетры на ўсход, на самым ускрайку горада знаходзім маляўнічы замак Лемберк. Цяперашні пастаўлены ў XVI стагоддзі на месцы ранейшага, і тут добры музей. На верхнім паверсе можна пакой за пакоем агледзець экспазіцыю еўрапейскіх інтэр’ераў — ад класіцызму да кубізму.

Самая запамінальная разынка гэтага замка — вялікая Зала баек. У 1610 годзе тут зрабілі адметную столь з 77 пано з відарысамі сцэн з баек Эзопа з двухрадковымі подпісамі панямецку пад кожнай. Можна доўга хадзіць, задраўшы галаву, і разглядаць. Вось кентаўр цягне некуды аголеную дзяўчыну, арол пераносіць смаўжа цераз раку, а смерць у выглядзе шкілета сустракае падарожнага... Калі загледзішся на столь у гэтай зале, у нейкі момант можа падацца, што ў вокны ліецца святло XVII стагоддзя.

Над замкам дамінуе высокая круглая вежа з аглядальнай пляцоўкаю зверху. Край блізкіх гор на поўначы — гэта мяжа з Германіяй, куды заўтра мы працягнем свой шлях. А вось на поўдні за дзясяткі кіламетраў ад нас усё яшчэ бачны абрыс гары з двума зубцамі на ім. Гэта замак Троскі, які мы аглядалі яшчэ ў першы дзень нашага падарожжа. Так у апошні раз мы кідаем позірк на Чэшскі Рай і ў думках развітваемся з ім. ◆



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА



У адной з залаў замка Лемберк столь аздоблена **пано са сцэнамі баек Эзопа.**



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Замак Лемберк.**

DEPOSITPHOTOS.COM, BY KEOLA

*Жорсткія рэаліі*

# ПІЯНЕРЛАГЕРЫ калі валіўся СССР

**Краса краявідаў межавалася з напаўгалодным існаваннем. Крадзяжы ежы, грошай і адзення былі паўсюднымі, як і разборкі. Пра рэаліі піянерлагераў апошніх гадоў СССР піша пісьменніца Таццяна Барысік.**

Ніколі ў той савецкі час мы не ездзілі ў далёкі адпачынак сям’ёю: летам нас чакалі вёскі і дачы. Не толькі мая сям’я, усе простыя людзі ў нас у Магілёве так жылі. Але на мяжы 1980-х і 1990-х з’явілася магчымасць пабачыць свет: паехаць за дзяржаўны кошт у піянерскі лагер далёка за межамі Беларусі па праграмах аздараўлення дзяцей-чарнобыльцаў.

Пуцёўкі давалі бацькам на працы, а таксама ў школе, часам і некалькі разоў на год. Хоць наш Магілёў, паводле афіцыйных звестак, не ўваходзіў у зону моцнага радыяцыйнага забруджвання, але чыстай зонай таксама не лічыўся: у прыгарадных сельсаветах плацілі «грабавы́я», мясцовыя піянерскія летнікі апынуліся ў «бруднай» зоне, а сабраныя ў тутэйшых лясах ягады і грыбы ўжывалі ў ежу толькі пасля дазіметрычнага кантролю.

Ці не кожнае другое дзіця мела праблемы са шчытападобнай залозай. А таму аздараўленне лічылася прыярытэтным. Шмат каму гэта сапраўды захавала здароўе. Сама ідэя была добрая: ▸

Паводле інфармацыі Міністэрства надзвычайных сітуацый, праз уздзеянне радыеактыўнага ізатопу ёду-131 колькасць выпадкаў раку шчытападобнай залозы сярод дзяцей у паслячарнобыльскае дзесяцігоддзе вырасла ў 33,6 разу.

Прычынай было хаванне інфармацыі пра аварыю савецкімі ўладамі. У першыя тыдні пасля аварыі людзі атрымалі вялізныя дозы радыеактыўнага ёду, не ведаючы пра небяспеку знаходжання на паветры і спажывання свежага малака.

Ёд-131 распадаецца за 8 дзён. Людзям досыць было паберагчыся месяцаў пару — і бяды не было б. Аднак савецкая звычка адмаўляць любыя праблемы і адсутнасць свабодных СМІ прывяла да трагедыі.

бацькам не трэба было ўвесь год ашчаджаць грошы, самастойна афармляць нейкія дакументы, думаць, як завезці ў летнік дзіця. Усё вырашалася цягам тыдня, а то і некалькіх дзён.

### На цёплым моры

Упершыню ў сваім жыцці ў піянерлагеры я апынулася ў ліпені 1989 года пасля заканчэння пятага класа. Лагер зваўся «Журавушка», ён месціўся пад Анапаю, на ўзбярэжжы Чорнага мора, а належаў сумесна магілёўскаму заводу «Хімвалакно» і нейкаму хімічнаму заводу з Арэнбурга. Адпачывалі там, адпаведна, магілёўскія і арэнбургскія школьнікі.

Самыя яскравыя ўспаміны адтуль — вялікія ружы на кветніках, стракатыя смоўжыкі ў траве і невялічкі вярблюд, навязаны за плотам, акурат за тэрыторыяй. Ля вярблюда заўсёды была плойма дзяцей, дзівіцца на яго можна было бясконца. Жывёліна прыносіла гаспадару прыбытак, бо з ёю курортнікі фатаграфаваліся за грошы.

Мора таксама ўразіла, але засмучала тое, што купацца ў ім дазвалялі па свістку і не больш за 5–10 хвілін. Побытавыя ўмовы па тых часах былі проста выдатныя, у параўнанні з астатнімі маімі падобнымі вандроўкамі — найлепшыя: гарачая вада і душ у кожным блоку на два пакоі. У пакоі засялялі па 4–5 чалавек, з кожнага быў выхад на балкон.

**Дзеці ў лагеры забаўляліся тым, што «ўсыплялі» адно аднаго, прыціскаючы сонную артэрыю**

Харчаванне не сказаць каб было надта сытнае, але таксама не горшы варыянт: са сталоўкі дазвалялі выносіць хлеб, да таго ж не было праблемай уцячы на мясцовы кірмаш і штонебудзь сабе там купіць. Пеўнікі-смактушкі і іншыя ласункі прадпрымальныя мясцовыя людзі прадавалі зусім побач — дастаткова пералезці цераз плот.

З лагера нас вазілі на экскурсіі ў недалёкія Анапу, Новарасійск і Тэмрук. На паўднёвых кірмашах і ў крамах было безліч прывабных і рэдкіх на радзіме рэчаў. Вабілі стракатыя майкі, пярсцёнкі ў выглядзе дэльфінаў, вялізныя ракавіны, насценныя календары з марскімі выявамі, мыла ў форме мядзведзікаў. Кожнае дзіця імкнулася купіць нешта ў падарунак не толькі сабе, але і родным.

Змена выдалася хоць і шкадлівай, але таварыскай, ніхто нікога надта не крыўдзіў. Праўда, некалькі разоў праз свавольствы мы ўсім атрадам былі пазбаўленыя дыскатэкі.

Розных забавак мы ведалі багата. Напрыклад, збіраліся гуртам, хто-небудзь адзін клаўся на ложак, а астатнія падкладалі пад ягонае тулава два пальцы і, прыгаворваючы «Каралева памерла, будзем яе хаваць...», падымалі «каралеву» ўверх.

### Дагэтуль пячэ

Не ўсе забаўкі былі бяскрыўднымі. Амаль у кожным летніку забаўляліся тым, што «ўсыплялі» адзін аднаго, адмыслова прыціскаючы сонную артэрыю. У выніку чалавек або злёгку млеў, або наогул на некалькі секундаў страчваў прытомнасць. Не было чымсьці незвычайным таксама праколванне вушэй з дапамогай іголкі, а апрацоўвалі месца праколу проста адэкалонам.

Даволі частымі тады былі крадзяжы. Найчасцей знікалі грошы, ежа і сувеніры. Адну зладзейку ў «Журавушцы», злавіўшы на крадзяжы яблыка, абвінавацілі і ва ўсіх астатніх стратах, а пасля ганялі па калідоры ўсім атрадам, пагражаючы пабіць. Дзяўчынка схавалася ў прыбіральні, яна была зусім малой, спалоханай і заплаканай. І я тады выдала яе схованку. Сорамна дагэтуль.

Мае бацькі яшчэ дома наказалі хаваць грошы ў абшыўцы чамадана, і яны ляжалі сабе там спакойна. Але непрыемнасці прыйшлі нечакана і зусім не адтуль. Сабе я пакінула драбязу,




У жанчын у модзе тады былі **ласіны і кіслотныя колеры.**




**Аўтарка, Таццяна Барысік,** у верхнім шэрагу крайняя справа.

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АЎТАРКІ

а астатняе аддала важатай на захаванне. У канцы змены прыйшла па апошнюю пяцёрку — і пачула, што ніякіх грошай няма, дзеці ўсё ўжо пазабіралі. Ці то цётачка наўмысна прысабечыла, ці то не вяла ніякага ўліку — невядома.

### Убоства Нечарназем'я

На наступны год бацькі ўзялі мне пуцёўку на чэрвень у лагер пад Калугай.

У дзень ад'езду ішоў дождж. Мая маці казала, што гэта добрая прыкмета — значыць, змена будзе ўдалай. Але насамрэч працяг адпачынку быў прыкладна гэткім жа, як і яго пачатак. Пасля прыбыцця ў Калугу таксама ішоў дождж, але тут было значна халадней, чым у Магілёве.

Рукамыйнікі з халоднай вадой месціліся на двары, драўляная прыбіральня — за сто метраў ад корпуса, у адкрытым басейне — яго наяўнасць перад паездкай прэзентавалася як перавага лагера — плавала лісце і галлё, а пакупацца ў ім давялося толькі аднойчы — на дзень Нептуна. Лазню палілі толькі двойчы за змену.

**«У вас у Беларусі як за мяжой, усё ёсць: і ліманад, і пячэнне, а ў нас мука па талонах»**

Збольшага мы ўсю змену прахадзілі ў куртках, спартыўнай форме і гумовіках, бесперапынна хварэючы. Увесь наш пакой смаркаўся і кашляў, а ў мяне ўвогуле знік голас. Але ў ізалятар не клалі, а скаргі ніхто не браў пад увагу. Фельчар на ранішняй лінейцы абвясціла, што хворых усяго некалькі чалавек на ўвесь лагер, а ўсе астатнія сімулянты, таму мусяць ехаць на стадыён, каб глядзець нейкі футбольны матч. У золкае надвор'е пад парасонам я калела, седзячы на той трыбуне. Апынуцца ў ложку з кнігаю было недасяжнай марай.

Якраз тады я ўзяла ў бібліятэцы «Нарысы бурсы» Мікалая Памялоўскага і, чытаючы іх, прыйшла да высновы, што ўмовы жыцця ў бурсе семінарыстаў XIX стагоддзя былі гэткія самыя, як і ў нашым лагеры. ▸

### Вучыліся мацюкам

Паўсюль на аздараўленні дзеці Чарнобыля абменьваліся показкамі з цікавым сюжэтам і мацюковымі песнямі з сябрукамі з іншых гарадоў. Некаторыя перанятыя тады творы я ў дарослым веку саромеюся ўслых прамовіць ці праспяваць. Аднак, ужо працуючы ў школе, прыгадала адну такую показку-сагу і своеасабліва яе скарыстала: брудныя словы выкінула, сюжэт трохі прыхарошыла. З тым, што атрымалася, мае вучні выступілі на раённым конкурсе «Падарожжа па краінах Азіі» і занялі трэцяе месца.

▸ Харчаванне было няўежным: кашы на вадзе ды хлебныя катлеты. І нікуды не ўцячэш, нічога дадаткова не купіш: навокал лес. Калі аднойчы на вячэру прыгатавалі бульбу з селядцом і памідорамі, то ўвесь атрад бег у сталоўку з крыкам «Ура!».

За агароджай была гэткая самая галеча. З намі разам адпачывалі дзеці з расійскай глыбінкі: Малаяраслаўца, Калугі і Курска. «У вас у Беларусі як за мяжой, усё ёсць: і ліманад, і пячэнне, а ў нас мука па талонах», — расказвалі яны. Света з Калугі пацвердзіла, што ў іхніх вёсках не ўсе людзі нават гарод садзяць, і прызналася, што зайздросціць тым, хто мае нацыянальныя мовы.

Мы сумавалі па бацькаўшчыне. Голад, сум па доме і расповеды мясцовых былі найлепшым выхаваннем патрыятызму. Я пераканалася: усё, што казалі пра глыбінку расійскага Нечарназем'я бацька і дзядуля, — праўда. У Расію мне расхацелася раз і назаўжды. Хоць я і пасябравала з мясцовымі, расказвала ім вершы па-беларуску, а пасля мы доўга перапісваліся.

У апошні адвячорак магілёўцы паскідалі долу матрацы з коек




і, скачучы на панцырных сетках, спявалі «Касіў Ясь канюшыну», «У саду гуляла», «Цячэ вада ў ярок». Гэткі досвед нацыянальнага абуджэння ўдалечыні ад бацькаўшчыны не быў нечым унікальным. Мая аднакласніца па ліцэі прыгадвала, як падчас адпачынку ў Грузіі мясцовыя дзеці лаяліся адно з адным па-грузінску. Беларусам, гледзячы на гэта, зрабілася сорамна, і тады яны таксама сталі ўзгадваць сваё роднае: боўдзіла, халера, божы конь і іншае.

### Багатая і сытая Кубань

У ліпені 1991-га вучняў старэйшых класаў усяго Магілёва цэлым цягніком з надпісам «Дзеці Чарнобыля» вывезлі ў летнік працы і адпачынку ў прыгарад Краснадара.

Абяцалі працу па зборы чарэшні і персікаў. Па прыездзе, аднак, нас чакалі матыкі, рады памідораў ды агуркоў даўжынёй у паўкіламетра і дзядоўнік, узбуялы на чарназёме пад паўднёвым сонейкам у рост чалавека.

Вялізнымі нажамі мы зразалі высокі кроп, збіралі ў скрыні гіганцкую цыбулю. Норму па цыбулі выканаць было немагчыма, бо яе ў тым полі столькі і не вырастала. Зрэшты, і нормы, і ўлік аказаліся фікцыяй. Заробак нам быў налічаны ад балды: каму пяцьдзясят рублёў, каму трыццаць, а хто наогул на працу не хадзіў — таму дваццаць дзевяць. Працавалі па чатыры гадзіны да абеду.

Аднаго разу ахвочых, ужо пасля абеду, паслалі на збор клубніц. Ягады раслі ў чыстым полі, як у нас буракі, яны былі сакавітыя і салодкія. Мы збіралі іх у маленькія кошыкі, елі нямытымі колькі хацелі, яшчэ і з сабой набралі.

Дзівосны край — Кубань! Шаўкавіца, абрыкосы, а пад імі — статак бараноў пасвіцца сам па сабе. Шалёныя навальніцы, калі белым днём цямнела наваколле, а зямля пасля дажджоў распаўзалася пад нагамі, ператвараючыся ў коўзанку.

Найбольш, аднак, уражвалі нас там дзве рэчы: наша сытае існаванне і нязвыклая свабода. У сталоўцы нам накладалі рабочую порцыю, некаторыя нават даесці яе не маглі. Ежа была простая, але сытная. А мы, паколькі на аздараўленні большасць з нас датуль пабывала неаднойчы, спачатку рыхталіся да горшага. Хлопец з паралельнага класа прывёз з сабою цэлы чамадан салёнага сала і кансерваў — а тут у іх не было пільнай патрэбы.

**Клубніцы раслі ў чыстым полі, як у нас буракі. Еж нямытымі колькі хочаш**



Свабода, якой мы карысталіся на Кубані, таксама была на цяперашні розум непамыснай. За тэрыторыяй лагера па пасёлку

мы перамяшчаліся, нават не пытаючы дазволу выхавацеля. У краме нам прадавалі ласункі без купонаў, на пошце можна было даць тэлеграму бацькам ці купіць канверт.

## Хлопцы куплялі маскі Кінг-Конга, дзеўкі — духі «Чырвоны мак», перламутравыя памады і маечкі невымоўнай прыгажосці з рознакаляровымі гузікамі




Па выходных ездзілі ў Краснадар. Там каталіся на трамваі, ласаваліся марожаным, якое было ў шэсць (!) разоў таннейшае за магілёўскае, брындалі па кірмашы, па трох краснадарскіх універмагах. Хлопцы куплялі жахлівыя маскі Кінг-Конга, дзеўкі — духі «Чырвоны мак», перламутравыя памады і маечкі невымоўнай прыгажосці з рознакаляровымі гузікамі. Выхавацелька, настаўніца гісторыі з нашай школы, не толькі дазваляла такія вандроўкі, але часам сама прасіла абмяняць ёй у краме тавар, які чамусьці не падышоў.

### А начамі ў госці прыходзілі салдаты

Па вечарах былі танцы. Абутак замінаў скокам, мы скідалі яго ў сярэдзіну кола і танчылі басанож. Мясцовыя хлопцы і салдаты з вайсковай часці свабодна прыходзілі ў госці да старэйшых дзевак і пасля адбою. Адна з аднакласніц у апошнюю ноч пайшла некуды ў госці і вярнулася пад раніцу. Настаўніцы мы сказалі, што тая ў прыбіральні. Яе ніхто не шукаў.

Мы самі прыдумлялі гульні, абліваліся вадой, загаралі, гулялі ў карты на жаданні. Гэта быў сапраўдны падлеткавы рай: ніякіх афіцыйных мерапрыемстваў, дзяжурстваў, нагляду і кантролю з боку дарослых. Аднойчы нас вывезлі на мора: загаралі і плавалі з ранку да пяці вечара. Моцна абгарэлі, вечарам калаціліся як у ліхаманцы, а назаўтра на працу ніхто выйсці не змог.

Побытавыя ўмовы былі гэткія самыя, як і ў Калузе, але гэтая нязручнасць кампенсавалася цёплым кліматам. Памыцца можна было і пад халоднай вадой, цяжэй было высушыць адзенне. Крадзяжы з сушылкі квітнелі, знікалі і модныя навінкі, і зношаная бялізна. Адміністрацыя сушыць рэчы на вяроўках пад вокнамі забараняла, а з крадзяжамі ніяк не змагалася. Скардзіцца было бессэнсоўна, таму добрае адзенне сушылі пры сабе, паклаўшы пад прасціну.

Усяго ў Краснадары мы прабылі трыццаць пяць дзён. Ужо пасля разліку нас папрасілі выйсці на збор цыбулі, паабяцаўшы даць па вядры чарэшні з сабой. Выхавацель па мянушцы Пугач набраў сабе цыбулі — і не прагадаў. А нас, дзяцей, з той чарэшняй проста падманулі. Мы пакрыўдзіліся і пайшлі ў сад красці яе. Пасля да паўночы перабіралі тыя ягады — а яны ўсё адно напалову пагнілі ў дарозе.

## Мы пакрыўдзіліся і пайшлі ў сад красці чарэшню

Тое, што з летняй практыкай нам неверагодна пашчасціла, я зразумела, калі неўзабаве пачула ад гомельскіх школьнікаў, як у той самы час было ў іх на Стаўрапольшчыне. Паводле іхніх слоў, сняданак у летніку працы і адпачынку там складаўся з лыжкі салаты і варанага яйка. Але падлеткам, занятым сельгасработамі, гэтага было недастаткова. І тады ўсім лагерам яны зладзілі сядзячую забастоўку: раніцой паселі вакол сталоўкі, адмовіўшыся выходзіць на працу. Падзейнічала. Порцыі пабольшалі, і толькі мясцовыя супрацоўнікі незадаволена бурчалі: «Дзеці ў вас нейкія ненажэрныя! Тут студэнты былі, і тое ім хапала». ▶




Модныя джынсы 1990-га называліся «піраміды».



### «Анапа, Анапа, жамчужына Расіі»

З гомельскімі я адпачывала ў піянерлагеры «Залаты бераг» пад Анапаю тым жа незабыўным летам 1991-га, ужо ў жніўні. Там давялося не толькі пачуць пра дзіцячы пратэст супраць нялюдскіх умоў, але і пабачыць такі выпадак на свае вочы.

**Здавалася, што менавіта ў наш атрад наўмысна звезлі ўвесь зброд**

У «Залатым беразе», у адрозненне ад пазалеташняй «Журавушкі», не было ані вярблюда, ані цукровых пеўнікаў. А ў памяці засталіся радкі з песні «Анапа, Анапа, жамчужына Расіі...», заўсёднае пачуццё голаду і няспынныя разборкі. У лагер прыехалі дзеці і падлеткі з Магілёва, Гомеля і Гомельшчыны, Краснадара, Масквы, Тулы і яшчэ шмат адкуль. Але здавалася, што менавіта ў наш атрад наўмысна звезлі з колішняга Саюза ўвесь зброд.

Сталоўскімі порцыямі мы не наядаліся. Кавалак батона і яблычнае пюрэ на сподачку — вячэра магла быць і такой. Ля выхада стаялі дзяжурныя і не дазвалялі выносіць хлеб са сталоўкі. Мала таго, поўныя талеркі з кухоннага вазка расхоплівалі спрытнейшыя, і тая ежа не паспявала даехаць да стала. Здаралася, некаторыя наогул заставаліся без вячэры. Аднаго разу ў такой сітуацыі аказалася і я. Пайшла на кухню, а цётка з раздачы з непадробнай жальбай у голасе пачала пераконваць, што ўсё раздалі і яна нічога не мае. Я пайшла галоднай. У канцы змены я важыла 45 кг пры росце 161 см: за тры тыдні страціла каля сямі кілаграмаў.

Праз некаторы час напаткала яшчэ адна бяда: ці то ад вады, ці то ад няякаснай ежы кожны другі захварэў на кішачную інфекцыю. Разлад страўніка не спыняўся. Тэхнічка спярша ўшчувала за брудныя прыбіральні, а пасля наогул пачала на дзень зачыняць іх на ключ. Даводзілася бегаць у каменную шпакоўню на пляж.

### І сала з сабою

Навучаная папярэднім досведам, я ўзяла з дому крыху ежы: паляндвічку і вэнджанае сала ад бабулі. Ела па кавалачку, частуючы тых, з кім сябравала, трымала ў камеры захоўвання разам з адзеннем: з тумбачкі маглі выцягнуць дарослыя сабе

**Пунсовыя ветразі**
ў Геленджыку, Расія.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY RASTISV

з Гомеля трактар, прыбяруць гэтыя кучы на пляжы!» І пра зачыненую ўдзень прыбіральню таксама расказаў. Натхнёныя яго прыкладам, да мікрафона пацягнуліся і іншыя, выкладаючы ўсе свае крыўды: кормяць абы-як, фельчарка так і не дайшла да хворай суседкі па палаце з тэмпературай, запатрабаваўшы, каб дзеці яе самі прывялі ці прынеслі і г. д.

**Вярнулася ў лагер шчаслівая і абсела: братаў гасцінец скралі і зжэрлі**

на закуску, з адзежнай шафы — суседзі па пакоі.

На сваё чатырнаццацігоддзе я засталася ў корпусе. Не хацелася ані мора, ані пляжа. І вось цуд: зусім нечакана, менавіта ў дзень нараджэння, мяне адшукаў і прыйшоў адведаць дарослы стрыечны брат. Аказваецца, у той самы час ён працаваў у адным з анапскіх лагераў. Брат прынёс гасцінца — мех персікаў — і забраў мяне ў горад пагуляць. Вярнулася ў лагер шчаслівая і аж абсела: братаў гасцінец скралі і амаль увесь зжэрлі. Я злавала на суседзяў, але больш на ўласную дурасць.

Ужо напрыканцы змены лагер наведала тэлебачанне з Беларусі. Меліся здымаць бадзёры сюжэт пра дзіцячы адпачынак на марскім узбярэжжы. Але ў сярэдзіну кола да мікрафона выйшаў адзін хлопец і сказаў пра набалелае: «Мы тут галодныя ходзім, хлеб не даюць выносіць! І няхай прышлюць

Пасля ад'езду журналістаў прыбіральніцу звольнілі, а яда трохі палепшала.

### Геленджык? О не!

Ад паўднёвых курортаў пасля ўсяго гэтага мяне адвярнула надоўга. У адрозненне ад аднакурснікаў, у студэнцтве на летнюю педпрактыку ў Геленджык я не імкнулася. Там што заробіш — тое і прагуляеш. Перспектыва хадзіць напаўгалоднай не натхняла, а апынуцца на лаве падсудных праз якое дзяўчо, што ўцякае па начах на мора, — таксама. І ў будатрад у Малдову таксама не паехала. Некаторыя рызыкнулі, дык набраліся там вошай, а зарабілі толькі на дарогу назад.

Чорнае мора я пабачыла зноў толькі на саракавым годзе жыцця, разам з дачушкай-школьніцай. Ускочыўшы ў мора ўпершыню, мая малеча выглядала самым шчаслівым дзіцём у свеце... ◆

Цвіце ядловец у бары,
Дым сцелецца імшарны, буры,
Нібыта лесавік стары,
Набіўшы зеллем люльку, курыць.

*Максім Танк. «Цвіце ядловец»*

# «Цвіце ядловец у бары...»

**Пра авеяны легендамі лясны хвойны куст са шматлікімі карыснымі ўласцівасцямі піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

## «Добрае дрэва»

Вобраз ядлоўцу ў міфалогіі і традыцыйнай народнай культуры многіх народаў мае карані ў глыбокай старажытнасці. Гэта вобраз «добрага дрэва», спрыяльнага да чалавека і варожага да нячыстай сілы.

У многіх народаў ядловец лічыўся святой раслінай і ўжываўся ў магічных рытуалах. Дзе-нідзе ў Сярэднявеччы перад ядлоўцам нават здымалі капялюш з галавы. Раней ён выкарыстоўваўся ў якасці аднаго з інгрэдыентаў для напаўнення кадзіла ў паганскіх рытуалах і да гэтага часу выкарыстоўваецца ў храмах многіх канфесій. Нашыя прадзеды спальвалі ядлоўцавыя галіны, каб выкурыць духмяным дымам усіх «злых духаў» — і чыста інтуітыўна мелі рацыю, бо гэты дым сапраўды знішчае шкодныя мікраарганізмы.

І гэта не адзіная ўласцівасць ядлоўцу як «добрага дрэва».




Сёння даказана, што ў гарачае надвор'е адзін гектар з пасадкамі ядлоўцу вылучае за дзень 30 кг фітанцыдаў — лятучых рэчываў з антысептычнымі і бактэрыцыднымі ўласцівасцямі. Гэта своеасаблівы рэкорд сярод усіх іглічных дрэў і кустоў.

Акрамя таго, ядловец мае выдатную ўласцівасць насычаць паветра адмоўна

**Ядловец звычайны**
(*Juniperus communis*) — вечназялёны хвойны куст сямейства кіпарысавых.
Усе віды роду ядловец маюць моцную і глыбокую каранёвую сістэму. Растуць вельмі марудна, можа, таму і жывуць да 500–1000 гадоў. Большасць відаў — двухдомныя, то-бок мужчынскія і жаночыя расліны растуць асобна. Пасля апладнення мегастробілы (жаночыя органы размнажэння) зрастаюцца паміж сабой і ўтвараюць сакаўныя шышкі, сіне-чорныя ці цёмна-бардовыя, якія выспяваюць на другі-трэці год (часам іх называюць шышкаягадамі або ядлоўцавымі ягадамі).

зараджанымі іонамі. А гэта не дробязі. Бо дэфіцыт адмоўных іонаў, выкліканы ў наш час у асноўным працай тэлевізараў, камп'ютараў, перадатчыкаў, а таксама выхлапнымі газамі і цыгарэтным дымам, можа прывесці да паслаблення імуннай сістэмы і хранічных інфекцый дыхальных шляхоў.

### Духмяны дымок

Адна з відавочных праяў універсальнага ачышчальнага дзеяння ядлоўца — вэнджанне дымам з яго мясных вырабаў, асабліва каўбасаў і сала. Змяшаны пах ядлоўцу і вяндлінаў — характэрны водар спіжарняў старой добрай Беларусі.

Вось як снедалі ў доме Суддзі і, відаць, у любым прыстойным шляхецкім доме пачатку XIXстагоддзя паводле паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш»:

А для мужчын ляжала розная вяндліна:
Гусяціна, валовіна, язык, свініна
Найлепшага гатунку, спосабам мясцовым
Увэнджаная дбайна **дымам ялаўцовым**.

*(Пераклад Пятра Бітэля)*

Зрэшты, мала што тут памянялася і праз без малога два стагоддзі, бо паэт ужо зусім іншай эпохі, Ніл Гілевіч, на мяжы 1970-х і 1980-х напісаў амаль тое ж самае:

Вось ты ў гасцях — і нават слоўца
Табе сказаць няма калі:
Вяндлінку **з водарам ядлоўцу**
Мяцеш — зараз па два скрылі!

Апроч вэнджання дымам, прымянялася таксама шчодрае нашпігоўванне ягадамі ядлоўцу ці пасыпанне растоўчанымі ягадамі сырых частак мясных тушаў, што ў спалучэнні з адносным холадам у падполах ды скляпах дазваляла захоўваць іх даволі працяглы час. Ядловец быў самай эфектыўнай мясцовай спецыяй такога ўздзеяння, і ў прынцыпе ён дазваляў нашым продкам абыходзіцца без дарагога імпартнага перцу.

**Змяшаны пах ядлоўцу і вяндлінаў — характэрны водар старых спіжарняў**

У 1644 годзе кароль Рэчы Паспалітай Уладзіслаў Ваза з жонкай Цэцыліяй Рэнатай і шматлікім дваром гасціў у палацы падканцлера ВКЛ Казіміра Льва Сапегі ў Ружанах. Затрымаўшыся ў гасцях даўжэй звычайнага, ён нарэшце сказаў напаўжартам: «Аб'елі мы пана падканцлера, пара выязджаць». Сапега ў адказ, амаль што абражаны, запрасіў караля ў спіжарню і трохпавярховыя скляпы. Наведаўшы іх, ▶

уражаны кароль выгукнуў: «Ды мы пана падканцлера і за год бы не аб'елі!» Бо ў вялікіх сапегаўскіх сховішчах віселі на жэрдках цэлыя чароды курапатак і іншых дзікіх птушак, а на мармуровых плітах ляжала мяса. А на «шыбеніцы» ў кухонных сянях віселі падрыхтаваныя для далейшага выкарыстання тушы дзікоў, ласёў, аленяў і казуляў, вытрыбушаныя і **набітыя ядлоўцам**.

А вось такую маляўнічую карцінку тыповага выкарыстання ядлоўцу ў Панямонні ўжо ў нашы часы, напрыканцы XX стагоддзя, дае адна з удзельніц фэйсбук-суполкі «Сімвалічны свет беларускіх раслінаў» Лізавета Гулецкая: «Мая мама, перад тым як закладаць новы ўраджай у склеп, заўсёды абкурвала яго зялёным ядлоўцам, які гарэў у вядры. Ішоў моцны духмяны дым, зацягваў увесь склеп, які шчыльна зачынялі. Акрамя гэтага, мы мылі драўляныя бочкі перад саленнем агуркоў і г. д., у чыстую бочку закладалі галінкі ядлоўцу, залівалі трохі вады, кідалі напалены ў печы камень, накрывалі дзяружкай і прапарвалі».

## Ядлоўцавая магія

Усе вышэйадзначаныя формы выкарыстання ядлоўцу больш-менш вытлумачальныя і з пункту гледжання сучаснай навукі. Але даўней гэты ўжытак быў значна шырэйшы і распаўсюджваўся на больш тонкія, цяжкавытлумачальныя сферы жыцця. Павер'яў пра магічныя ўласцівасці ядлоўцу ў розных народаў вядома безліч. Так, галінка ядлоўцу, прышпіленая да капелюша, нібыта бараніла падарожнікаў ад злых духаў, а пакладзеная



**Ілюстрацыя з кнігі Германа Адольфа Кёлера** *«Köhler's Medizinal-Pflanzen in naturgetreuen»*. 1887 год.

ў кішэню — прадухіляла нацiранне і прэнне скуры.

У культуры індзейцаў наваха кара́лі з ягад ядлоўцу на шыі былі сімвалам еднасці ўсіх элементаў сусвету. А ў некаторых індзейскіх плямёнаў такія каралі перад боем надзявалі нявольнікі з магічнай мэтай абароны жыцця і атрымання волі пасля перамогі.

Старажытныя германцы выкарыстоўвалі галінкі ядлоўцу падчас абрадаў ахвярапрынашэння. Лічылася, што той, хто наўмысна зламаў ядлоўцавы куст, на шмат гадоў наводзіў на сябе няшчасце. Ва Уэльсе гэта канкрэтна прарочыла смерць аднаго з членаў сям'і.

Беларусы тут не выключэнне. На Усходнім Палессі вядомая забарона саджаць ядловец каля дома, каб не «звялася» сям'я. Дымам ядлоўцу абкурвалі малочных кароў і пашу перад выганам для абароны іх ад загавораў, бо лічылася, што гэта абароніць жывёлу ад мору. Каб ачысціць хату ад злых духаў, сурокаў або працяглых хвароб

## Гама назваў і сэнсаў

У польскай літаратурнай мове назва гэтай расліны крыху іншая ад беларускай — яловец (*jałowiec)*. Але колішнія эліты нашага краю, як правіла польскамоўныя, вымаўлялі гэтае слова на беларускі капыл — ядловец (*jadłowiec*). І па гэтым лішнім *-d-* , як і па іншых характэрных слоўцах і выразах падобнага кшталту, можна было лёгка адрозніць «ліцвіна» ад «караняжа». Як гэта, напрыклад, адразу заўважылі польскія рэдактары ў рукапісе «Крымскіх санетаў» Адама Міцкевіча: *«jadłowcem zdadzą się topole»* («ядлоўцам здаюцца таполі»). Пазней тым жа самым *-d-* выдавалі сваё не зусім польскае паходжанне таксама Канстанцін Тышкевіч і іншыя літаратары-ліцвіны.

Дарэчы, у розных частках Беларусі, акрамя ядлоўцу, можна пачуць назвы *лява́ец, ялóвец, ялéнец, яловіц* і інш. Але таксама і *ядленец*. А на Віцебшчыне і Смаленшчыне расліну называюць *мажуха* — варыяцыя рускага слова *можжевельник*. Гэтае слова, як лічыцца, узыходзіць да праславянскага *moždževelь*, а яно, у сваю чаргу, утворана ад індаеўрапейскага *mezg* — «плясці, вязаць».

Ну а пашыраная ў свеце англійская назва *Juniper* — варыянт лацінскай *Juniperus*. Што, паводле адной версіі, паходзіць ад *joini-parus* — «які дае галіны, прыдатныя для пляцення», але часцей ужываецца іншае тлумачэнне: *iuvenis* — маладая жанчына, *parere* — нараджаць. Якое намякае на абартыўныя ўласцівасці ягад ядлоўцу (як, магчыма, і слова *яловец*, хаця тут хутчэй адчуваецца намёк на бедную глебу, дзе звычайна расце ядловец).

У кожным разе ўся гэтая гама назваў і магчымых сэнсаў нагадвае нам пра тое, як расліна ўжывалася некалі ў традыцыйнай натуральнай гаспадарцы.

у сям'і, на патэльню крышылі і падпальвалі чыстым агнём ядловец, палын, іншыя духмяныя травы з магічнымі, як лічылася, уласцівасцямі.

Выкарыстоўвалі ядловец і як абарону ад небяспекі, якую маглі ўяўляць трупы. На Заходнім Палессі ядлоўцавым дымам абкурвалі магілы, а на Полаччыне дагэтуль практыкуюць абкурванне ім хаты, дзе быў нябожчык.

Галінкі ядлоўцу з ягадамі — абавязковы элемент «віленскіх пальмаў», складаных кампазіцый з сухіх кветак, галінак, зёлак, аднаго з найбольш яскравых сімвалаў Пальмовай (Вербнай) нядзелі (гл. пра іх падрабязней у артыкуле пра Фердынанда Рушчыца ў нумары 11/2020 «Нашай гісторыі»). Гэты звычай шырока распаўсюджаны па ўсёй Віленшчыне, уключаючы яе беларускую частку, прытым не толькі ў каталікоў, але і ў праваслаўных.

Галінкі ядлоўцу кідалі ў скляпы, каб выжыць адтуль мышэй. А на Зялёныя святкі (Тройцу) і Божае Цела пасыпалі падлогу не толькі аерам (гл. пра яго артыкул у № 2/2021 «Нашай гісторыі»), але і кветкамі ружы, півоняў, пасечанымі галінкамі елкі і ядлоўцу.

У многіх рэгіёнах Беларусі, ад Падзвіння да Палесся, ядловец займае прыкметнае месца ў велікоднай абраднасці. Ягоныя галінкі з ягадамі асвячалі, а затым на працягу года захоўвалі за абразамі, пры патрэбе выкарыстоўваючы ў засцерагальна-лекавых мэтах. На Случчыне галінкамі ядлоўцу, разам з яловымі, аздаблялі велікодны стол. А на Падляшшы падчас свята Божага Цела ядловец выкарыстоўваўся асвечаным у вянках.

## Да прыправы і заправы

Апроч вэнджання і вялення мяса і рыбы, ядловец таксама шырока ўжываецца пры прыгатаванні розных страў і паўфабрыкатаў. Ягады ядлоўцу салодкія, але пры гэтым адначасова і занадта горкія, смалістыя, каб есці іх у сырым выглядзе. Таму ў кулінарыі яны выкарыстоўваюцца толькі сушанымі.

Каб узмацніць водар, ядлоўцавыя ягады звычайна перад ужываннем здрабняюць. Але перад гэтым захоўваюць іх цэлымі, бо пасля раздраблення водар хутка губляецца. Чым меншыя ягады, тым больш канцэнтраваным робіцца іх смак і водар, таму дробныя цэняцца вышэй. Асабліва каштоўнымі па месцы паходжання лічацца італьянскія.

Ягады ядлоўцу асабліва рэкамендаваныя для цяжкіх і тлустых страў, якія спрыяюць утварэнню газаў.




**Змяшаны пах ядлоўцу і вяндлінаў** — характэрны водар спіжарняў старой добрай Літвы. Гравюра Юзафа Рышкевіча канца XIX стагоддзя.

У першую чаргу ядловец ужываюць пры ўсіх спосабах прыгатавання дзічыны, цёмных соусаў, тлустай свініны (асабліва мяса дзіка) і бараніны, у стравах з гароху і фасолі. Таксама ядловец выкарыстоўваюць у якасці дадатку да капусты, у тым ліку квашанай, і буракоў. Часта ядлоўцам запраўляюць бігас і іншыя «паляўнічыя» стравы. Пры гэтым ягады ядлоўцу рэкамендуецца спалучаць з пятрушкай, чабаром, лаўровым лістом і часнаком.

Мяса драздоў-рабіннікаў некалі высока цанілася ў шляхецкай кухні ў тым ліку праз ягоны натуральны прысмак ядлоўцу — істотнай часткі меню гэтых птушак. А часам ягадамі ядлоўцу адмыслова адкормлівалі свойскую птушку апошні месяц перад забоем, каб зрабіць яе мяса падобным да дзічыны.

## Скарб для піваварaў

Даўней ядловец шырока ўжываўся ў піваварстве. Больш за 20 гадоў таму мне давялося пісаць паводле літаратурных звестак пра колішняе выкарыстанне ягад ядлоўцу як замяняльніка хмелю ў піваварстве ў ВКЛ. І пра тое, што гатунак піва «Граф Чапскі», да якога «Аліварыя» некалі дадавала ядловец, — несвядомае наследаванне старой традыцыі.

Летась жа малады беларускі півавар з польскага Падляшша Лукаш Леанюк, натхнёны тымі маімі згадкамі, атрымаў прызнанне на аматарскім конкурсе з півам «Ядлаўцовым», якое робіць на ўласным малым бровары «Броварэг». Ён дадае да свайго піва ягады ядлоўцу і фільтруе праз ядлоўцавыя галінкі. Гэта дадае хмельнаму напою жывічнасць і цікавы смак, якія ацаніла конкурснае журы. ►

## Настойка з ядлоўцу

Інгрэдыенты:
- 1 л гарэлкі
- 50–60 сушаных ягад ядлоўцу
- ½ ст. лыжкі мёду (опцыя)
- 5 іголак хвоі

У слоік з гарэлкай кладзём ягады ядлоўцу, хваёвыя іголкі і (пры жаданні) мёд. Перамешваем доўга, каб растварыць мёд. На 2 тыдні пакідаем у цёмным месцы. Пасля гэтага тэрміну настойка павінна набыць залацісты колер і характэрны водар ядлоўцу. Фільтруем — і можна спажываць.



WIKIMEDIA COMMONS

Сучасныя нажы **з тронкамі з ядлоўцу.**

Дарэчы, яшчэ адна прычына колішняй папулярнасці ягад ядлоўцу ў півавараў — сімбіёз, у якім гэтыя ягады суіснуюць з дзікімі дражджамі. Калі прыгледзецца, то на кожнай ягадзе на жывым ядлоўцы можна ўбачыць бялявы налёт. Гэта і ёсць дрожджы. Дадаючы ядловец у піўное сусла, можна было гарантавана чакаць хуткай ферментацыі — і гэта ў той час, калі асобных культур дражджэй як прадукту не было.

Урэшце, у ягадах ядлоўцу шмат цукраў — а таму піва, хоць і своеасаблівае, можна зварыць нават з аднаго ядлоўцу! Бо ён змяшчае ў сабе адпаведнікі і соладу, і хмелю, і дражджэй.

Ну і, вядома, ядловец шырока выкарыстоўваўся для настойвання моцных напояў. У першую чаргу ўспамінаецца галандскі і англійскі джын. А ў шляхты Рэчы Паспалітай існавала настойка «пупкоўка», якую было прынята піць у гонар нараджэння чарговага дзіцяці ў сям'і. У яе склад уваходзілі дзягіль (пра яго гл. артыкул у № 12/2020 «Нашай гісторыі»), ядловец, каляндра і іншыя карэнішчы ды насенне.

Ну і звычайная «ядлаўцоўка» была заўжды папулярнай, у прыватнасці на Каляды, калі яе водар і смак нагадвалі пра хвою каляднай ялінкі.

Сёння некаторыя беларускія ўстановы прапануюць кліентам ядлоўцавую настойку, пры гэтым, што прыемна, апелюючы да традыцый нашага краю. Так, кавярня «Шляхецкая фарціна» ў вёсцы Скокі пад Брэстам папулярызуе пра сваю настойку прыгожую легенду. Згодна з ёй, чаляднік брэсцкага аптэкара Якуб Міцкевіч у 1784 годзе залез у сад шляхціча Марцэліна Нямцэвіча, маючы мэту нарваць там букет кветак для сваёй каханай. Слугі Нямцэвіча злавілі юнака і завялі да пана, які акурат быў прыхварэўшы. Аптэкарскі чаляднік зрабіў яму гаючую настойку з ядлоўцу, за што быў памілаваны і ўзнагароджаны. А Нямцэвіч пасля таго хутка паправіўся.


PL.VISION1CYCLINGS.COM

У тэхніцы інтарсіі, цяпер ужо рэдка ўжыванай, **драўніна ядлоўцу вельмі дарэчы.**

### Выкарыстанне ў медыцыне

Навуковая медыцына выкарыстоўвае ягады ядлоўцу як мачагонны сродак, які дэзынфіцыруе мачавыя шляхі. Ядлоўцавы алей уваходзіць у склад разагравальных мазяў, якія выкарыстоўваюцца пры рэўматычных і неўралгічных болях.

А ў народнай медыцыне ягады ядлоўцу ўжываюцца яшчэ шырэй. Іх заварваюць і п'юць пры хваробах пячонкі, мачавога пузыра, пры нырачна-каменнай хваробе, запаленні прыдаткаў маціцы, рэўматызме. Сырыя ягады ядуць пры язве страўніка, жанчыны адвар ягад і галінак п'юць пры адсутнасці менструацыі. Адвар галінак ужываюць пры дыятэзе, адвар каранёў — пры язве страўніка. Эфірны алей з няспелых ягад выкарыстоўваюць пры каросце.

Дарэчы, літоўскія вядзьмаркі вераць, што ягады ядлоўцу трэба збіраць толькі ў маразы ці пасля іх. Інакш яны маюць толькі кулінарнае значэнне. А каб мелі яшчэ лекавае ды магічнае — трэба чакаць

халадоў. У Беларусі таксама вядомыя строгія правілы збору ягад ядлоўцу. Ад ліхаманкі дапаможнымі лічыліся толькі ягады, сабраныя «на веташку», то-бок у апошняй месячнай квадры. Пры ламоце костак ядлоўцавы адвар для жанчын гатавалі з ягадамі, а для мужчын — без.

Даўней шырока практыкавалася і абкурванне хворых ядлоўцавым дымам, а таксама парамі воцату, налітага на гарачыя камяні. Гэта нават рабілася ў прафілактычных мэтах падчас так званых «маёвых курацый» — барочнага звычаю, масава распаўсюджанага ў шляхецкім асяроддзі. Звычай быў у тым, што чалавека штогод на некалькі дзён ізалявалі і інтэнсіўна «аздараўлялі»: трымалі ў холадзе, пускалі кроў і г. д. Ад гэтай практыкі адмовіліся пад уплывам крытыкі з боку навуковай медыцыны толькі на мяжы XVIII–XIX стагоддзяў.

## Каштоўнае дрэва

Знаходзіць ужытак у гаспадарцы і ядлоўцавая драўніна. Сама па сабе яна вельмі каштоўная. Аднак з-за невялікіх памераў і нерэгулярнасці формы, вялікай крывізны ды сукаватасці драўніна нашага ядлоўцу мае абмежаваную прамысловую вартасць. Больш надаецца на прамысловае выкарыстанне яго амерыканскі родзіч — ядловец віргінскі. Ён асабліва цэніцца ў вытворчасці алоўкаў, і яго нават інтрадукавалі з гэтай мэтай у Еўропе.

Драўніна ядлоўцу мае чырванаваты колер. Яна цяжкая і шчыльная (630 кг/м$^3$, у 1,5 разу большая, чым у кедра), але пры гэтым гнуткая, зручная для разьбы. Не цвёрдая, але трывалая, такая драўніна выдатна трымае форму. Ядловец не набрыньвае пры намаканні і практычна не памяншаецца пры высыханні. Добра пераносіць кантакт з глебай, доўга не гніючы. Мае характэрны востры пах, які нагадвае камфару.

Даўней высока цаніліся выразаныя з ядлоўцу люлькі для курэння, аправы для нажоў і відэльцаў, элементы дэкору. Любілі таксама рабіць з яго ёмістасці для харчовых прадуктаў, асабліва масла і сыроў. У такіх гэтыя прадукты захоўваліся даўжэй. Таксама менавіта ядловец выкарыстоўваўся пры вырабе драўляных нажоў для масла і рухомых частак маслабоек.

Яшчэ адным прадметам хатняга ўжытку, які традыцыйна выраблялі з ядлоўцу, былі ляскі (рус. *трости*). Паводле народна-каталіцкіх традыцый лічылася, што выразаць іх трэба ў Міхайлаў дзень (29 верасня). Адпаведны куст перад зразаннем палівалі святой вадой, а саму ляску асвячалі ў касцёле. Такім чынам цудадзейная моц дрэва ўключалася ў хрысціянскую «матрыцу» сэнсаў, а не служыла цёмнаму свету.

Карані ж ядлоўцу, вельмі доўгія і гнуткія, выкарыстоўваліся для пляцення кошыкаў. З каранёў і галін плялі таксама агароджы. З гэтай уласцівасці, уласна кажучы, і паходзіць адно з тлумачэнняў этымалогіі лацінскай назвы гэтай расліны *Juniperus* — «які дае галіны, прыдатныя для пляцення». ◆


**Ляска, на якую абапіраецца маршалак Адам Панінскі** на славутай карціне Яна Матэйкі «Рэйтан — заняпад Польшчы», хутчэй за ўсё, зробленая з ядлоўцу.



Аўтар выказвае падзяку Таццяне Валодзінай і сябрам фэйсбук-суполкі «**Сімвалічны свет беларускіх раслінаў**» за шматлікія карысныя падказкі падчас працы над гэтым артыкулам.



# «Я з цеплынёй узгадваю Сувораўскую вучэльню»

Былы дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі XII склікання і першы пасол Беларусі ў Германіі **Пётра Садоўскі** згадвае ў Фэйсбуку часы свайго навучання ў Сувораўскім вучылішчы (Мінск, 1950-я):

«...Мы раслі ў іншыя гады. Я купаўся ў дабрыні і кніжках. З малых гадоў, хоць у голадзе і босым, гадоў да 12-ці я слухаў і сам чытаў даяркам уголас па-беларуску "Глыбокую плынь" Івана Шамякіна (пра партызан), "Узараную цаліну" Міхаіла Шолахава, "Прыгоды бравага салдата Швейка" Яраслава Гашэка (назвы кніжак у перакладах 1930-х гадоў дакладна не памятаю), "Новую зямлю", апавяданні Змітрака Бядулі і г. д.

Я з цеплынёй узгадваю Сувораўскую вучэльню, бо нам, 26-ці падшыванцам 2-га ўзвода, штодня па 30 хвілін наш афіцэр-выхавацель маёр Лалецін Андрэй Афанасевіч чытаў у час "самападрыхтоўкі" ўголас цікавую кніжку. Чытаў і нехта з сувораўцаў, у каго была добрая дыкцыя. Шэсць гадоў запар! Уяўляеце, колькі кніг мы пачулі ўголас? З адведзеных па распарадку дня на самападрыхтоўку дзвюх гадзін мы рыхтавалі заданні на заўтра толькі 1,5 гадзіны, каб зэканоміць 30 хвілін на чытанне ўголас. Стараліся страшэнна, каб потым утульна слухаць "Детство. В людях. Мои университеты" Максіма Горкага, "Педагогическую поэму" Антона Макаранкі, "Одеты камнем" Вольгі Форш, "Севастопольские рассказы" Льва Талстога, успаміны Васіля Андрэева, балалаечніка...

Сярод жывых з майго 2-га ўзвода засталося толькі некалькі чалавек. Але калі мы раней сустракаліся ў вузкім сяброўскім коле і ўспаміналі маёра Лалеціна, мы пачыналі добрае слова пра яго з незвычайнага ўспаміну: ён у кожнага з нас — сярод нас было шмат сірот і пасляваенных бязбацькавічаў — як бы выпадкова пытаўся: "Ці помніш ты, **якім іменем цябе называла маці**, калі табе было дрэнна ці нешта балела?" Ён гэта ўсё, відаць, пазней недзе занатоўваў. У выключных выпадках, калі нехта з нас хадзіў па краі бездані, ён раптам звяртаўся да яго так, як гэта рабіла маці. Так я застаўся *Пётрам*.



**Архітэктар Андрэй Шулаеў апублікаваў у Фэйсбуку больш за сотню ўнікальных фотаздымкаў з сямейнага архіва.** Яго прадзед, вучоны-геадэзіст, акадэмік Акадэміі навук БССР Васіль Папоў, у 1950-я жыў з сям'ёй у доме па Савецкай, 17, справа ад Чырвонага касцёла.





**«Ці помніш ты, якім іменем цябе называла маці, калі табе было дрэнна ці нешта балела?»**

Помню таксама, як Язэп Семяжон, наш выкладчык нямецкай і англійскай моў, чытаў нам уголас свае пераклады Бёрнса на беларускую мову. Мне вельмі падабаўся "Джон-ячмень". Я ж бачыў, як малоцяць цапамі, заварваюць самагонку з прарошчаных зярнят.

Мяне, сувораўца, жанчыны частавалі піражкамі. Заклалі ў мяне пэўныя сантыменты з дзяцінства. Ва ўсіх, хто даваў мне піражкі, я заўважаў вузкія арыстакратычныя далоні і ногі з прыгожымі костачкамі ("энклз")... Я помню водар іх валасоў, вочы, рукі. Жонка маёра Лалецiна (я быў ардынарцам, не падлізам) піхала мне ў кішэні самаробныя пампушкі. Яе звалі Ліза, як маю большую сястру. Жонка Язэпа Семяжона — піражкамі з капустай. У нас выкладчыкі і афіцэры-выхавацелі запрашалі сувораўцаў дадому. Гэта была як бы педагагічная рэкамендацыя.

Язэп Семяжон (маёр) ажаніўся позна, калі яму было 48 гадоў. Ён некалькі разоў браў мяне да сябе дадому. Ён жыў на Камуністычнай каля цяперашняга ТВ [тэлецэнтра на Камуністычнай, 6. — *Рэд.*]. Дэманстраваў мяне сваёй жонцы як вясковага вундэркінда. Мая першая кніжка з "дэдыкацыяй" была ад Язэпа Семяжона...

Было шмат добрых настаўнікаў-габрэяў. На ўроку танцаў акампаніятар — Бэла Рубінштэйн (!), "аўтадзела" — інструктар Фелікс Рэўзін (атрымлівалі правы кіроўцаў), "пераплётнае дзела" — (майстар Бухбіндэр, пераплётчык!), музычны лекторый у актавай

зале вёў дзядзька з пышнай сівой шавялюрай, падобны тэмпераментам на Міхаіла Казініка, мусіць, толькі трошкі слабейшы талентам і менш узнёслы. Імя не запомніў. Дзе цяпер іх дзеці і ўнукі?

Оперны тэатр, што месціўся праз сквер насупраць Сувораўскай вучэльні, на пачатку 1950-х гадоў аншлагаў не збіраў. Мы былі ў шэфскіх дачыненнях. Разы два на месяц нас бралі з самападрыхтоўкі і вялі на вечаровыя спектаклі. Я перагледзеў і праслухаў увесь рэпертуар. Тады ўпершыню ў Манюшкавым "Страшным двары" я пачуў адгалоскі мелодый, якія чуў у дзяцінстве. З Цікоцкага магу спяваць па-беларуску арыю эсэсаўца з "Дзяўчыны з Палесся". У рэпертуары былі оперы па-беларуску».

## «20 гадоў розніцы, а як з розных планет»

Гісторык-экскурсавод **Цімох Акудовіч** у тэлеграм-канале «Беларускі Бабілон» разважае над глыбокім сімвалічным зместам двух суседніх будынкаў на сталічнай плошчы Незалежнасці — Чырвонага касцёла і Дома ўрада:

«Першае, што іх звязвае, але ў той жа час павінна нас бянтэжыць — гэта час будаўніцтва. Паміж Чырвоным касцёлам і Домам урада ўсяго 20 год розніцы! А яны выглядаюць так, нібыта прынесеныя з розных планет.

Мне падаецца, што няма ў горадзе лепшага месца, каб паказаць, які злом адбыўся ў нашай гісторыі ў 1920-х гадах.

Неаготыка як сімвал старога Мінска і маштабны канструктывізм як сімвал новага Менска XX стагоддзя. Прытым побач сталі найлепшыя прыклады гэтых стыляў. Вось проста сядай на лавачку каля фантана і разважай пра тое, як часам неверагодна хутка змяняюць адна адну гістарычныя эпохі.

Другое, што ўражвае ў гэтых помніках і лучыць іх, — абодва помнікі не павінны былі перажыць XX стагоддзе.

Вясной 1942 года знакамітая лётчыца Валянціна Грызадубава ляцела бамбіць Дом урада, бо там сядзелі немцы, але не пацэліла. Бомбы ўпалі на вуліцу Берсана, а Дом урада застаўся цэлы.

Летам 1944 года ўжо немцы замініравалі гэты статусны аб'ект перад адыходам з дакладнай мэтай яго ўзарваць. Але ў выніку шэрагу супадзенняў пра гэта даведалася падполле, перадало інфармацыю на фронт, і для ліквідацыі групы падрыўнікоў адправілі спецкаманду, якая і не дала ўзарваць 240 000 $м^3$ адборнага мінскага канструктывізму.

Сума неверагодных супадзенняў. Але яшчэ больш бянтэжыць тое, што на плошчы застаўся стаяць касцёл Святых Сымона і Алены. Гэта агулам цуд, які вымушаныя прызнаць нават глыбока рацыянальныя людзі. Толькі ў пасляваенны час гісторыкі налічылі 5 праектаў ліквідацыі касцёла. Можна паглядзець дакументальны фільм пра гэту эпапею.



Але ніводзін з праектаў не быў рэалізаваны, храм стаіць і па сёння.

Была нейкая таямніца ў Эдварда Вайніловіча і Іосіфа Лангбарда, што іхнія будынкі ў Мінску/Менску XX стагоддзя выстаялі, нягледзячы ні на што. І ў выніку стаяць поруч на цэнтральнай плошчы краіны як сімвал маштабнага цывілізацыйнага злому мінулага стагоддзя».

## Горад Глыбокае, Замкавая вуліца

Краязнаўцы Глыбоцкага краю ўжо некалькі гадоў старанна адсочваюць, якія цікавыя артэфакты, датычныя яго гісторыі, з'яўляюцца на айчынных і замежных аўкцыёнах, па магчымасці набываюць іх у складчыну і перадаюць у мясцовы музей. Адзін з гэтых людзей, **Кастусь Шыталь** з Параф'янава Докшыцкага раёна, зранку 10 сакавіка пахваліўся у Фэйсбуку каштоўным набыткам:

«Не паспеў пачацца дзень — а мы паштовачку купілі. 1918 год, нямецкая акупацыя, надпіс "Выгляд руска-літоўскага горада".

На фота — горад Глыбокае, Замкавая вуліца. Злева камяніца Шэйнкера, дзе з 20-х гадоў XX стагоддзя і да сённяшняга дня знаходзіцца пошта, справа ўдалечыні бачная царква Раства Багародзіцы, проста ў канцы вуліцы — аўстэрыя (заезны двор).

Калі рабіўся гэты кадр, у Мінску дзейнічала Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. У Глыбокім тым часам нямецкая вайсковая адміністрацыя не дазваляла ніякай беларускай дзейнасці: камендант горада забараніў ставіць беларускі спектакль, а настаўніцкую арганізацыю прымусілі самараспусціцца пад пагрозай арышту». ◆



